## *ПРАДМОВА*

*Вялікі гістарычны атлас Беларусі ў трох тамах — першае найбольш поўнае выданне, прысвечанае адлюстраванню і ўсведамленню гістарычнага мінулага нашай краіны.*

*Ідэя стварэння Атласа з'явілася не раптоўна. Шматлікія напрацоўкі былі назапашаны беларускімі гісторыкамі ў працэсе работы над гістарычным раздзелам „Нацыянальнага атласа Беларусі" (выдадзены ў 2002 г.), гістарычнымі картамі для шасцітомнай „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", шэрагам вучэбных карт, атласаў, дапаможнікаў і іншых выданняў.*

*Вялікая заслуга ў распрацоўцы ідэі гістарычнага атласа належыць Інстытуту гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Галоўную ролю ў арганізацыі работы над Вялікім гістарычным атласам Беларусі і яго фінансавае забеспячэнне ажыццяўляла Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства „Белкартаграфія" Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь.*

*Падрыхтоўка карт, напісанне тэкстаў, іх рэцэнзаванне выканаваны спецыялістамі шэрагу навуковых і навучальных устаноў.*

*Навукова-метадычную дапамогу ў распрацоўцы Атласа аказалі Інстытут гісторыі НАН Беларусі і Дэпартамент па архівах і справаводству Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь.*

*Канцэпцыя Вялікага гістарычнага атласа Беларусі за гады работы над ім удасканальвалася, але яе галоўная ідэя заставалася нязменнай — даць шырокаму колу грамадскасці поўнае, наглядное, навукова выверанае ўяўленне аб гісторыі Беларусі ад старажытнасці да нашых дзён. Гісторыя нашай Айчыны падаецца ў шырокім кантэксце, які дазволіў бы зразумець месца беларусаў у супольнасці еўрапейскіх народаў.*

*У аснову перыядызацыі Атласа пакладзены лёсавызначальныя этапы этнагенезу беларусаў, іх складанага шляху да стварэння ўласнай дзяржавы.*

*Першы том асвятляе перыяд ад з'яўлення чалавека на беларускіх землях і да сярэдзіны XVI стагоддзя. Храналагічна ён абмежаваны канкрэтнай датай — 1569 годам, калі ў выніку Люблінскай уніі беларускія землі былі ўключаны ў склад Рэчы Паспалітай.*

*Генетычная і культурная спадчына карэннага этнасу — беларусаў фарміравалася на працягу стагоддзяў. Яна ўключала ў сябе дасягненні народаў, што абралі беларускую зямлю сваёй радзімай. Этнічная гісторыя беларусаў вядзе праз часы славянскіх міграцый і праваслаўную цывілізацыю Русі да эпохі Вялікага княства Літоўскага. Люблінская унія замацавала межы княства на той частцы славянскай тэрыторыі, якая ў далейшым супадала з этнічнай тэрыторыяй беларусаў. Гэта быў важнейшы фактар развіцця беларускай нацыянальнай свядомасці.*

*Другі том ахоплівае больш чым два стагоддзі існавання Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай і часоў, калі беларускія землі былі ўключаны ў Расійскую імперыю. У гэты час канчаткова аформіліся спецыфічныя рысы беларусаў, якія адрозніваюць іх ад іншых народаў Еўропы. Верхняя храналагічная мяжа тома вызначае перыяд, калі фарміраванне беларускай нацыі набыло яскравую выразнасць. Гэтая мяжа ўмоўна адпавядае даце рэформы 1861 года, якая адкрыла шлях да развіцця капіталістычных зносін. На новых эканамічных адносінах мацавалася нацыянальная свядомасць беларусаў.*

*Трэці том прысвечаны часу ад зараджэння беларускага нацыянальнага руху і да нашых дзён, калі народ Беларусі набыў дзяржаўную незалежнасць і заняў „свой пасад між народамі", аб чым некалі марыў Янка Купала. Храналагічна гэты этап прыпадае на апошнія дзесяцігоддзі Расійскай імперыі, савецкі перыяд і гісторыю суверэннай Рэспублікі Беларусь.*

*Спадзяёмся, што дадзенае выданне пашырыць веды пра мінулае Беларусі.*

## СПІС АРГАНІЗАЦЫЙ, УСТАНОЎ І АСОБ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У СТВАРЭННІ ВЯЛІКАГА ГІСТАРЫЧНАГА АТЛАСА БЕЛАРУСІ

**Інтытут гісторыі НАН Беларусі, Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Беларускі навукова-даследчы цэнтр электроннай дакументацыі, Беларускі рэстаўрацыйна-праектны інстытут, Інстытут мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі**

### СПЕЦЫЯЛЬНЫ ЗМЕСТ АТЛАСА РАСПРАЦАВАЛІ

Загадчык секцыі гістарычных даследаванняў Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага інстытута Р. В. БАРАВЫ (с. 85, 86–87, 88–89)

Галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Г. Я. ГАЛЕНЧАНКА (с. 93, 94)

Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. Ф. ГОЛУБЕЎ (с. 77)

Вядучы палеограф Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі Л. С. ІВАНОВА (с. 92)

Кандыдат гістарычных навук У. Ф. ІСЛЕНКА (с. 22, 24, 26, 27, 32–33)

Галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар А. Г. КАЛЕЧЫЦ (с. 22, 23, 24, 25)

Кандыдат гістарычных навук У. І. КАНАНОВІЧ (с. 78–79)

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук М. М. КРЫВАЛЬЦЭВІЧ ( с. 28–29, 30–31)

Загадчык аддзела археалогіі і першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. Л. ЛАКІЗА (с. 26, 27)

Дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра электроннай дакументацыі, кандыдат гістарычных навук В. Л. НАСЕВІЧ (с. 38, 39, 40, 41, 42, 43, 44, 49, 60, 61, 64–65, 70–71, 73, 76, 77, 80–81, 82, 100–150)

Кандыдат гістарычных навук М. Ф. СПІРЫДОНАЎ (с. 100–150)

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. М. ФІЛАТАВА (с. 90, 91)

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. М. ЦЕМУШАЎ (с. 47, 48, 50, 51, 52, 53, 54–55, 60, 61, 62–63, 66–67, 68–69, 72, 74–75)

### У РЭЦЭНЗАВАННІ ПРЫНЯЛІ ЎДЗЕЛ

**Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы, Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А. А. Куляшова**

**Рэцэнзенты:**

Загадчык кафедры эканамічнай гісторыі Беларускага Дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, доктар гістарычных навук Ю. М. БОХАН

Навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь Г. М. БРЭГЕР

Загадчык аддзела гісторыі Беларусі сярэдніх вякоў і пачатку новага часу Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. І. ГРУША

Кандыдат гістарычных навук У. Ф. ІСЛЕНКА

Галоўны навуковы супрацоўнік інстытута гісторыі НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар Л. Г. КАЛЕЧЫЦ

Вучоны сакратар Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі пры НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук І. Л. КАПЫЛОЎ

Навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі Ф. Д. КЛІМЧУК

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук М. М. КРЫВАЛЬЦЭВІЧ

Загадчык аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. Л. ЛАКІЗА

Старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук М. І. ЛАШАНКОЎ

Старшыня рэспубліканскай тапанімічнай камісіі НАН Беларусі, доктар філалагічных навук В. П. ЛЕМЦЮГОВА

Загадчык кафедры археалогіі і спецыяльных гістарычных дысцыплін Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А. А. Куляшова, доктар гістарычных навук І. А. МАРЗАЛЮК

Прафесар кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, доктар гістарычных навук С. В. МАРОЗАВА

Загадчык аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук А. М. МЯДЗВЕДЗЕЎ

Загадчык аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, кандыдат гістарычных навук В. С. ПАЗДНЯКОЎ

Дацэнт кафедры этнаграфіі і археалогіі Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат гістарычных навук Г. М. СЕМЯНЧУК

Загадчык кафедры гісторыі старажытнага свету і сярэдніх вякоў БДУ, доктар гістарычных навук А. С. ФЯДОСІК

Старшы навуковы супрацоўнік НАН Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. М. ЦЕМУШАЎ

Загадчык аддзела публікацыі дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі З. Л. ЯЦКЕВІЧ

Літаратурнае рэдагаванне зместу атласа выканала Е. П. ФЕШЧАНКА
Мастак З. Э. ГЕРАСІМОВІЧ

**Рэдагаванне, складванне і падрыхтоўка карт атласа да друку выкананы Рэспубліканскім унітарным прадпрыемствам „Белкартаграфія“ Дзяржаўнага камітэта па маёмасці Рэспублікі Беларусь.**

Дырэктар М. А. ВЕРЗУН, галоўны інжынер Л. А. ЛУК'ЯНЕНКА, намеснік дырэктара па вытворчасці Л. П. ЖУКОЎСКАЯ, галоўны рэдактар Л. У. КАМПЛЕЦ, загадчык аддзела Т. І. ВАРАЧКІНА

Рэдактар атласа Л. У. ШКЛЯРЭВІЧ

Тэхнічныя рэдактары: Л. І. МАЛАТКОВА, Н. М. ШЭВЕЛЬ

Камп'ютэрнае складанне і падрыхтоўку карт атласа да друку выканалі:

Т. Я. БАРЫСАВА, С. М. ГІНІК, Н. У. ЖУРКЕВІЧ, А. М. ЖЫГАРАВА, Н. Л. ІЛЬЧАНКА, І. А. КОТАВА, І. П. МАКРЫШАВА, А. С. ПАВОНСКАЯ, С. І. ПАПКОВІЧ, І. Г. ПЛЕСКАЧЭЎСКАЯ, Ю. Р. СЕМЯНЕНКА, Н. В. СПІРЫДОНАВА, В. В. ЯРМОХІН

У стварэнні атласа прымаў удзел таксама А. Р. КАЗЛОЎ

# ЗМЕСТ

## УВОДЗІНЫ ДА ПЕРШАГА ТОМА

Першы том гэтага унікальнага выдання пачынаецца са звестак аб прысутнасці першабытнага чалавека (неандэртальца) на тэрыторыі Беларусі. Аб гэтым сведчаць некаторыя знаходкі самых старажытных прылад працы, якія адносяцца да мусцьерскага перыяду 100—35 тыс. гадоў назад. Бясспрэчныя матэрыяльныя доказы з'яўлення старажытнага чалавека, што меў рысы сучаснага тыпу (краманьёнца), адносяцца археолагамі да 26—24 тыс. гадоў назад. З таго часу з'яўляецца ўсё больш археалагічных даных, якія знайшлі графічнае адлюстраванне на першых картах атласа.

Том заканчваецца картаграфічным адлюстраваннем падзей, звязаных з заключэннем у 1569 г. Люблінскай уніі, паводле якой Вялікае княства Літоўскае вымушана было пайсці на аб'яднанне з Польскім каралеўствам, у выніку чаго ўзнікла дзяржава абодвух народаў — Рэч Паспалітая. Гэта з'явілася адметнай вяхой у гісторыі Беларусі, што і вызначыла канчатковую мяжу першага тома дадзенага трохтомнага выдання.

Важнай часткай тома з'яўляецца падрабязная храналогія, змешчаная ў яго пачатку. Яна мае дыферэнцыраваны характар і дае адмысловае ўяўленне аб гістарычным працэсе з самых старажытных часоў да 1569 г. Характэрнай рысай храналогіі з'яўляецца тое, што нярэдка найбольш значныя з'явы гісторыі Беларусі ў гэты перыяд падаюцца ў дынаміцы, у іх эвалюцыі. Гэткім чынам раскрываюцца ў храналагічным вымярэнні тыя ці іншыя падзеі, якія маюць найбольш важнае значэнне для разумення вузлавых момантаў беларускай гісторыі.

Праз увесь том і ў першую чаргу праз уступныя артыкулы і нават карты праходзяць даволі яскрава выражаныя цывілізацыйныя падыходы. Яны спалучаюцца з сацыяльна-эканамічнай эвалюцыяй грамадства, яго палітычнай і ваеннай гісторыяй, этнічнымі працэсамі, станаўленнем і развіццём рэлігійных адносін. Пры гэтым нярэдка культурны аспект спалучаецца з наяўнасцю на беларускіх землях язычніцкіх вераванняў, а затым хрысціянскіх, праваслаўнага і каталіцкага веравызнання. Закранута таксама ўсходняя частка барбарскай перыферыі антычнай і раннесярэдневяковай цывілізацый.

Некаторыя са змешчаных у першым томе карт з'яўляюцца эксперыментальнымі, што сведчыць аб творчым падыходзе аўтарскага калектыву да гэтага даволі спецыфічнага спосабу выражэння гісторыі беларускага народа. У канцы атласа пададзены старадаўнія карты, у якіх адлюстраваны тыя ці іншыя кірункі нашага найбольш даўняга мінулага. Гэта дае магчымасць паказаць, што гісторыя старажытных насельнікаў беларускай зямлі з даўніх часоў была аб'ектам увагі картографаў іншых краін. Старадаўнія карты даюць магчымасць скласці больш цэльнае ўяўленне аб адлюстраванні ў картаграфічным разрэзе гісторыі насельніцтва, што пражывала на тэрыторыі Беларусі з самых старажытных часоў.

Прыведзеныя карты даюць магчымасць дапоўніць наша веданне гісторыі беларускага народа па многіх кірунках яго жыцця і дзейнасці. Яны ілюструюць геаграфічнае асяроддзе, айкумену старажытных насельнікаў беларускай зямлі. Пры гэтым шэраг карт паказваюць перамяшчэнні народаў у старажытныя часы, у тым ліку вялікае перасяленне ў сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры, што дапамагае больш наглядна ўявіць праблему этнагенезу беларусаў.

Значная ўвага аддадзена этнічнай гісторыі беларускага народа, паступоваму фарміраванню беларускай народнасці. Гэта быў працэс, які засноўваўся на складванні агульнай тэрыторыі, станаўленні і развіцці мовы, фарміраванні агульных звычаяў, абрадаў, традыцый, этнаграфічнага складу. Картаграфічнае адлюстраванне гэтых падзей з'яўляецца складанай справай, аднак яно дапамагае нагляднаму ўяўленню дадзенага працэса.

Адным з важнейшых кірункаў адлюстравання ў выглядзе карт гісторыі беларускага народа са старажытных часоў да Люблінскай уніі з'яўляецца паказ зараджэння і эвалюцыі такіх дзяржаўных утварэнняў як Полацкае, Турава-Пінскае, іншыя найбольш старажытныя княствы (землі) на нашай тэрыторыі, а таксама працэсу фарміравання і тэрытарыяльнага развіцця Вялікага княства Літоўскага. Гэта адна з важнейшых задач дадзенага выдання і яна вырашана з дастатковай паўнатой. Натуральна, што ў такой сувязі пададзены адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел ВКЛ на тых ці іншых этапах яго развіцця.

Нельга не звярнуць увагі на картаграфічнае адлюстраванне зямельных уладанняў розных груп насельніцтва, у першую чаргу магнатаў, сярэдняй і нават дробнай шляхты. Найбольш пераканаўча гэта паказана прымяняльна да XVI ст. У картах прадстаўлены важнейшыя аграрныя рэформы таго часу, шырока выкарыстаны напрацоўкі, якія былі зроблены ў папярэднія гады кандыдатам гістарычных навук М. Ф. Спірыдонавым, іншымі гісторыкамі. Пры гэтым у картах прыводзяцца не толькі шматлікія населеныя пункты, што існавалі ў тыя часы, але і пададзена іх прыналежнасць дробнай ці буйной шляхце альбо магнацкім гаспадаркам. Да карт тут яшчэ маецца гісторыка-геаграфічны паказальнік. Важна, што картаграфічна адлюстравана леннае ўтрыманне, гэта значыць умовы карыстання дзяржаўным маёнткам.

У выданні шырока паказана ваенная гісторыя беларускага народа ад старажытнасці да развітога сярэднявечча. На картах пазначаны асноўныя бітвы, якія мелі месца ў тыя часы. У гэтых адносінах асабліва прываблівае картаграфічнае выражэнне „Вялікай вайны 1409—1411 гг.". Карта адлюстроўвае сумесны паход аб'яднанага польска-літоўскага войска супраць Тэўтонскага ордэна. Хаця гэта ўжо паказвалася раней, у першую чаргу польскімі гісторыкамі, але такое картаграфічнае ўвасабленне зроблена ўпершыню. Зразумела, што ў гэтым кантэксце адпаведная ўвага аддадзена пераможнай Грунвальдскай бітве, што адбылася 15 ліпеня 1410 г. і 600-годдзе якой будзе адзначана ў шэрагу краін Усходняй Еўропы.

У полі зроку аўтараў карт знаходзіліся і гандлёвыя сувязі насельніцтва беларускіх зямель. Пры гэтым картаграфічна адлюстраваны і ўнутраны і знешні гандаль, што дапамагае больш наглядна ўявіць працэс эканамічнага і сацыяльнага развіцця тэрыторыі Беларусі. Складальнікі карт змаглі паказаць рэлігійны і культурны аспекты развіцця беларускага грамадства, што таксама было няпростай задачай.

Еўрапейскі кантэкст гісторыі Беларусі, сувязь з суседнімі і іншымі народамі пададзены праз розныя кірункі дзейнасці, у тым ліку праз праўленне прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў у іншых краінах — Польшчы, Чэхіі, Венгрыі. Гэта, між іншым, сведчыць таксама, што Вялікае княства Літоўскае было еўрапейскай дзяржавай.

Значную нагрузку ў атласе нясуць уступныя артыкулы. Нярэдка яны ўяўляюць сабою своеасаблівыя даследаванні (у першую чаргу ў выкананні кандыдата гістарычных навук В. Л. Насевіча), дзе прыводзяцца і аналізуюцца розныя версіі з картаграфічнага адлюстравання тых ці іншых з'яў. Нярэдка называюцца крыніцы карт з дастаткова разгорнутымі характарыстыкамі. У сваёй большасці ўступныя артыкулы цесна звязаны з адпаведнымі картамі, абапіраюцца на іх пры аналізе розных сведчанняў з гісторыі Беларусі. Яны з'яўляюцца важнай часткай атласа.

Мяркуецца, што трохтомнік „Вялікі гістарычны атлас Беларусі" стане адметным этапам на шляху далейшага паглыбленага асэнсавання мінулага беларускага народа, істотна папоўніць крыніцазнаўчую і нават гістарыяграфічную базу гісторыі Беларусі. Першы том атласа — грунтоўны крок на гэтым шляху.

*М. Касцюк*

**100–35 тыс. гадоў назад*** Першыя сведчанні існавання першабытнага чалавека (неандэртальца) на тэрыторыі Беларусі. Знаходкі мусцьерскіх прылад працы

**40–35 тыс. гадоў назад** З'яўленне на тэрыторыі Еўропы старажытнага чалавека сучаснага тыпу (краманьёнца)

**Каля 26,5 тыс. гадоў назад** Прыблізная дата верхнепалеалітычнай стаянкі каля вёскі Юравічы Калінкавіцкага раёна

**Каля 23,4 тыс. гадоў назад** Стаянка вілендорфска-касцёнкаўскай культуры каля вёскі Бердыж Чачэрскага раёна

**22–18 тыс. гадоў назад** Максімум валдайскага пахаладання. Ледавік са Скандынавіі дасягае Беларусі і спыняецца на месцы сучаснага Віцебскага Паазер'я. Помнікі гэтага часу на Беларусі не знойдзены

**Каля 13 тыс. гадоў назад** Глабальнае пацяпленне. Выміранне мамантавай фауны. З захаду на Беларусь пранікаюць носьбіты культуры броме-лінгбі

**11–10 тыс. гадоў назад** Непрацяглае пахаладанне. Пашырэнне на Беларусі познапалеалітычнай культуры паляўнічых на паўночнага аленя (свідэрская культура). З ёй суіснуюць носьбіты арэнсбургскай традыцыі: у Панямонні — краснасельскай (валкушанскай) культуры, у Верхнім Падняпроўі — ранняга этапу грэнскай

**Каля 10 тыс. гадоў назад** Заканчэнне ледавіковай эпохі. На тэрыторыі Беларусі канчаткова знікаюць тундравыя ландшафты і пашыраюцца бярозава-хваёвыя лясы. Пераход ад фінальнага палеаліту да мезаліту (сярэднекаменнага веку). На Блізкім Усходзе пачынаецца пераход да вытворчай гаспадаркі

**Каля 7 тыс. гадоў назад (5000 да н.э.)** Жыхары Беларусі запазычваюць выраб керамікі і элементы вытворчай гаспадаркі. Пачатак эпохі неаліту на беларускіх землях. Утвараюцца культуры т. зв. „лясного неаліту": нарвежская, верхнедняпроўская і нёманская культуры керамікі

**4400–4000 да н.э.** Клімат цяплейшы за сучасны. Беларусь укрываюць шыракалістыя лясы. Носьбіты дняпра-данецкай культуры керамікі пранікаюць на Беларусь з паўднёвага ўсходу і засяляюць Усходняе Палессе. У вадазборы Дзясны пашыраецца культурная супольнасць ямкава-грабеньчатай керамікі

**3900–3300 да н.э.** Паміж Эльбай і Бугам утвараецца земляробча-жывёлагадоўчая культура лейкападобных кубкаў. На Падзвінні традыцыі нарвенскай культуры змяняюцца ўсвяцкай культурай

**Каля 3500–2800/2600 да н.э.** Носьбіты культуры лейкападобных кубкаў пранікаюць і на тэрыторыю Беларусі. Але на большай яе частцы захоўваюцца паляўнiча-рыбалоўчыя культуры „лясного неаліту"

**Каля 2800–2600 да н.э.** З захаду — паўднёвага захаду на Беларусь пранікаюць плямёны познанеалітычнай культуры шарападобных амфар. Пачынаецца фарміраванне сярэднедняпроўскай культуры. Суіснаванне вытворчай і паляўніча-рыбалоўчай гаспадарак назіраецца амаль па ўсёй Беларусі

**2600–2200 да н.э.** Клімат блізкі да сучаснага. Заключны этап неаліту. Суіснаванне традыцый культуры шарападобных амфар і культурнага кола шнуравой керамікі

**2200–1800 да н.э.** Пранікненне на Беларусь першых вырабаў з металу азначае пачатак бронзавага веку. Ва ўсходняй і паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі працягвае існаваць сярэднедняпроўская культура, а ў Падзвінні — паўночна-беларуская, у якой пераважаюць традыцыі „лясного неаліту"

**2000–1600 да н.э.** На Гомельскім Палессі ўжываецца шматвалікавая кераміка, якая пранікае з поўдня і паўднёвага ўсходу

**1700–1200/1000 да н.э.** На тэрыторыі Беларусі распаўсюджваюцца супольнасці тшцінецкага культурнага кола. Ранні перыяд бронзавага веку

**1200/1000–750 да н.э.** Позні перыяд бронзавага веку

** Даты раней за 5000 да н. э. некалібраваныя*

**Каля 750 да н.э.** Пачатак жалезнага веку. Пераход да вырабу прылад з мясцовай балотнай руды. Утварэнне мілаградскай, днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. У Прычарнамор'і ўзнікаюць грэчаскія калоніі

**Каля 440–430 да н.э.** Антычны гісторык Герадот пакідае першую пісьмовую згадку пра тэрыторыю Беларусі. З яе паўднёвай часткай можна звязваць рассяленне прыгаданых ім неўраў, а з цэнтральнай і паўночнай – андрафагаў

**400–250 да н.э.** У парэччы Буга на Беларусь пранікаюць носьбіты паморскай культуры

**Каля 230 да н.э.** Першая згадка рымскім гісторыкам Пампеем Трогам пра перасоўванне народа бастарнаў. Міграцыя з захаду, у складзе якой, магчыма, былі і носьбіты праславянскай мовы, прыводзіць да знікнення мілаградскай культуры і складання на яе месцы зарубінецкай. Адначасова ў парэччы Днястра і Прута ўзнікае роднасная зарубінецкай паянешты-лукашоўская культура

**Каля 216 да н.э.** Прышлыя бастарны згадваюцца ў нізоўях Дуная грэчаскім аўтарам Дэметрыем з Калаціса

**Каля 180–168 да н.э.** Македонскія цары Філіп і Персей выкарыстоўваюць войска бастарнаў у сваіх войнах з суседзямі. З гэтымі падзеямі звязваецца пашырэнне ў зарубінецкай культуры засцежак-фібул і іншых рэчаў, магчыма, прынесеных на Беларусь удзельнікамі гэтых войнаў

**Каля 100–63 да н.э.** Цар Понта Мітрыдат Эўпатар выкарыстоўвае бастарнаў у сваіх войнах з Рымам

**29 да н.э.** Няўдалая спроба бастарнаў прарвацца праз Дунай у рымскую правінцыю Македонію

**Каля 10–20** Рымскі географ Страбон лакалізуе бастарнаў паміж Днястром і Дняпром, прыкладна ў арэале паянешты-лукашоўскай і зарубінецкай культур

**Каля 50** Распад зарубінецкай культуры на асобныя варыянты, пачатак змяшэння яе носьбітаў з прадстаўнікамі культур штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінскай і юхнаўскай

**Каля 70** Рымскі географ Пліній Старэйшы лакалізуе бастарнаў прыкладна на ўсход і паўночны ўсход ад Карпат, а недзе ля паўднёвага берага Балтыкі і нізоўяў Віслы (Вісулы) размяшчае венедаў. Звесткі пра венедаў, магчыма, запазычаны Плініем у больш ранніх антычных географаў

**Каля 98** Рымскі гісторык Тацыт прыгадвае шматлюдны народ венедаў (венетаў) паміж пеўкінамі-бастарнамі і фенамі – прыкладна там, дзе рассяляліся носьбіты познаэарубінецкай культурнай традыцыі

**Каля 140–160** Грэчаскі географ Пталамей лакалізуе венетаў на ўзбярэжжы Балтыкі („Венедскай затокі") на ўсход ад Віслы, а паміж імі і аланамі, што насялялі прычарнаморскія стэпы, размяшчае галіндаў, судзінаў і ставанаў

**Каля 150** На беларускім Пабужжы і Верхняй Прыпяці з'яўляюцца помнікі вельбаркскай культуры, звязаныя з прасоўваннем готаў

**Канец II–III ст.** Міграцыя готаў у Прычарнамор'е прыводзіць да ўзнікнення чарняхоўскай культуры. Адначасова на частцы познаэарубінецкага арэала ўтвараецца кіеўская культура, якая ахоплівае і паўднёва-ўсходнюю частку Беларусі

**350–375** Прыблізныя даты панавання караля готаў Германарыха, які, паводле пазней зафіксаванага падання, перамог і падпарадкаваў венетаў

**Каля 375** Нашэсце гунаў і іх перамога над готамі

**Каля 380** Першая згадка пра народ антаў, якіх перамог кароль готаў Вінітарый, сын Германарыха. Праз год гуны забіваюць Вінітарыя і бяруць уладу над падпарадкаванымі яму народамі

**Канец IV–першая палова V ст.** Імперыя гунаў ахоплівае шматлікія народы, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі

**455** Разгром гунаў на рацэ Недаа ў Панонii, які прывёў да распаду іх імперыі і да шматлікіх перасяленняў падпарадкаваных народаў

**Другая палова V–першая палова VI ст.** Кіеўская культура перарастае ў калочынскую. Адначасова ўтвараюцца роднасныя пражская і пянькоўская культуры, якія звязваюць адпаведна са славянамі і антамі

**Каля 550** Гоцкі гісторык Іардан паведамляе, што венеты, анты і склавены (славяне) – народы „аднаго кораня" і першапачаткова ўсе яны зваліся венетамі. Пачатак пісьмовай гісторыі славян

**Другая палова VI–VII ст.** Рассяленне славян ва Ўсходняй, Цэнтральнай Еўропе і на Балканах. На Беларусі апрача пражскай і калочынскай існуюць культуры банцараўская, тушамлінская і пскоўскіх доўгіх курганоў, якія адлюстроўваюць розныя ступені змяшэння славян з нашчадкамі мясцовага насельніцтва ранняга жалезнага веку

**Канец VII–сярэдзіна VIII ст.** Пражская культура змяняецца культурай лукі-райкавецкай, а калочынская – валынцаўскай. Пранікненне славян у асяроддзе банцараўскай і тушамлінскай культур нарастае. Утвараецца культура смаленскіх доўгіх курганоў

**Канец VIII ст.** Новая хваля славянскага рассялення завяршае працэс славянізацыі амаль усёй Беларусі. На месцы валынцаўскай утвараецца раменская культура. Пачынаюць складвацца племянныя княжанні крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў

**Пачатак IX ст.** На поўнач Рускай раўніны пранікаюць са Швецыі першыя дружыны варагаў. Мабыць, ад мясцовага фінскага насельніцтва яны атрымліваюць празванне „русь", што азначае „весляры". Варагі арганізуюць трансканцінентальны гандаль паміж Скандынавіяй і Арабскім халіфатам, у сувязі з чым на Беларусі з'яўляюцца скарбы арабскіх манет

**830–840-я гг.** Утварэнне Вялікамараўскай дзяржавы

**839** Першая згадка пра дзяржаву Русь, уладар якой тытулуецца каганам. Пасламі яго выступаюць варагі са Швецыі

**860** Першы напад Русі на Канстанцінопаль (Царград), які пазнейшыя паданні звязваюць з варагамі Аскольдам і Дзірам, што княжылі ў Кіеве

**862** Легендарная дата прызвання на княжанне ў Ноўгарад Рурыка. Тады ж утвараецца варажскае княжанне ў Полацку, на чале якога, паводле легенды, стаў адзін з набліжаных Рурыка. Першая згадка пра населены пункт на тэрыторыі Беларусі ў пісьмовых крыніцах

**863** Пачатак культурна-асветніцкай дзейнасці ў Вялікамараўскай дзяржаве братоў Кірыла і Мяфодзія, стварэнне імі славянскай пісьменнасці

**865** Прыняцце хрысціянства Балгарскай дзяржавай спрыяе канчатковай славянізацыі пануючай цюркскай дынастыі

**882** Легендарная дата аб'яднання Ноўгарада і Кіева пад уладай спадчынніка Рурыка, князя Алега. Завяршэнне працэсу ўтварэння Рускай дзяржавы

**885** Легендарная дата падпарадкавання Алегам племяннога княжання радзімічаў

**Канец IX ст.** Пасля заваявання венграмі тэрыторыі Вялікамараўскай дзяржавы асноўным цэнтрам славянскага пісьменства і адаптацыі царкоўных традыцый становіцца Балгарыя

**907** Полацк згадваецца сярод гарадоў, ад імя якіх Алег заключыў дагавор з Візантыяй. Першае ўпамінанне пра беларускае паселішча ў міжнароднай дыпламатыі

**944** Удзел апалчэння крывічоў у паходзе кіеўскага князя Ігара на Канстанцінопаль

**974** Першая згадка ў летапісе пра Віцебск

**980** Легендарная звестка пра княжанне ў Полацку Рагвалода, а ў Тураве – Тура. Першая згадка пра Тураў, а таксама першае ўпамінанне імён правіцеляў на тэрыторыі Беларусі. Пасля забойства Рагвалода Полацк пераходзіць пад непасрэдную ўладу кіеўскага князя Уладзіміра, які ажаніўся з дачкой Рагвалода Рагнедай

**983** Першае ўпамінанне пра балцкае племя яцвягаў, тэрыторыя якога ахоплівала і заходнія ўскраіны Беларусі. Князь Уладзімір падпарадкоўвае яцвягаў сваёй уладзе

**984** Паход Уладзіміра на радзімічаў, паўторнае іх падпарадкаванне ўладзе Кіева

**988** Прыняцце хрысціянства ў якасці дзяржаўнай рэлігіі Русі

**988** Летапісная згадка пра вылучэнне Полацка ва ўдзел сыну Уладзіміра і Рагнеды Ізяславу, а Турава – Святаполку

**992** Імаверная дата заснавання Полацкай епархіі

**Канец X ст.** Заснаванне Ізяслаўля (суч. Заслаўе)

**1000** Смерць Рагнеды

**1001** Смерць Ізяслава на полацкім княжанні пры жыцці бацькі. Гэтая падзея пазбавіла нашчадкаў Ізяслава (летапіс называе іх „Рагваложымі ўнукамі") правоў на кіеўскі пасад і адначасова замацавала за імі спадчыннае права на Полацк. Утварэнне Полацкай вотчыны і мясцовай галіны Рурыкавічаў – першай дынастыі на беларускіх землях

**1003** Смерць Усяслава, сына Ізяслава. Магчымы пачатак княжання ў Полацку малалетняга Брачыслава Ізяславіча

**1005** Заснаванне Тураўскай епархіі

**1009** Першае ўпамінанне Літвы ў адной з заходнееўрапейскіх хронік

**1015** Смерць Уладзіміра. Яго сын Святаполк становіцца кіеўскім князем і далучае Тураў да Кіева

**1019** Першае ўпамінанне Берасця (Бярэсце, суч. Брэст)

**1021** Першая непасрэдная згадка Брачыслава Усяславіча як полацкага князя. Яго набег на Ноўгарад і барацьба з кіеўскім князем Яраславам Мудрым

**1038** Паход Яраслава Мудрага на яцвягаў

**1039** Заснаванне Кіеўскай мітраполіі – устанаўленне агульнарускай царкоўнай арганізацыі

**1040** Паход Яраслава Мудрага на Літву. Магчымая дата ўсталявання данніцкай залежнасці Літвы ад Русі

**1044** Смерць Брачыслава. Пачатак княжання ў Полацку яго сына Усяслава Чарадзея

**Сярэдзіна XI ст.** Будаўніцтва гарадскіх умацаванняў у Новагарodку

**Каля 1050–1065** Будаўніцтва Сафійскага сабора ў Полацку

**1054** Канчатковае афармленне падзелу хрысціянства на каталіцкую і праваслаўную канфесіі

**1054–1060** Першы перыяд існавання ўдзельнага Смаленскага княства, якое ахоплівала ўсходнюю частку Беларусі

**1065–1078** Войны Усяслава Чарадзея з кіеўскімі Яраславічамі

**1067** Першае ўпамінанне Менска (суч. Мінск). Разбурэнне яго войскам Яраславічаў

**1067, 3 сакавіка** Бітва на рацэ Нямізе

**1067** Першае ўпамінанне Оршы (Рша)

**1068** Часовае ўкняжанне Усяслава ў Кіеве

**1069** Страта Усяславам Кіева, а затым і Полацка

**1071** Аднаўленне ўлады Усяслава ў Полацку

**1078** Кіеўскі князь Усевалад Яраславіч вылучае Тураў разам з Уладзімірам-Валынскім ва ўдзел свайму сыну Яраполку, а Смаленск – Уладзіміру (Манамаху)

**1078** Першае ўпамінанне Друцка, Лагожаска (суч. Лагойск), Лукомля

**1086** Смерць уладзімірскага і тураўскага князя Яраполка Усеваладавіча

**1088** Вылучэнне Турава ва ўдзел Святаполку Ізяславічу, былому ўладальніку Полацка

**1093** Святаполк становіцца кіеўскім князем і зноў далучае Тураў да Кіева. Уладзімір Манамах атрымлівае Чарнігаўскае княства і пакідае Смаленск

**1095** Смаленскае веча прымае на княжанне Давыда Святаславіча

**1097** Пагадненне нашчадкаў Яраслава Мудрага ў Любечы, паводле якога за сынамі Святаслава Яраславіча замацоўваецца Чарнігаўскае княства. Утварэнне чарнігаўскай галіны Рурыкавічаў. Смаленск увайшоў у Пераяслаўскую вотчыну Уладзіміра Манамаха, які пазней вылучыў яго ва ўдзел свайму сыну Святаславу. Першае ўпамінанне Пінска ў складзе вотчыны Святаполка Ізяславіча

**1101, 14 красавіка** Смерць Усяслава Чарадзея. Падзел Полацкага княства паміж яго сынамі Давыдам, Барысам, Глебам, Раманам і Святаславам

**1102** Магчымая дата заснавання Барысава Барысам Усяславічам

**1104–1116** Войны менскага князя Глеба Усяславіча з кіеўскімі князямі

**1105** Першае непасрэднае ўпамінанне ў крыніцах епіскапіі ў Полацку

**1106** Няўдалы паход усіх Усяславічаў на зіміголу (земгалаў)

**1112** Паход Яраслава, сына кіеўскага князя Святаполка Ізяславіча, на яцвягаў

**1113** Новы кіеўскі князь Уладзімір Манамах перадае Смаленскі ўдзел свайму сыну Вячаславу

**1116** Паход Уладзіміра Манамаха на Друцк і Менск, капітуляцыя Глеба Усяславіча. Першае ўпамінанне Случаска (суч. Слуцк) і Копысі

**1116** Смерць Рамана Усяславіча

**1119** Пераход Менскага княства пад кантроль Уладзіміра Манамаха. Смерць Глеба Усяславіча

**1120-я** Пачатак духоўнага служэння і асветніцкай дзейнасці Ефрасінні Полацкай (каля 1105–1167)

**Каля 1123** Вылучэнне Горадна (суч. Гродна) і Клечаска (суч. Клецк) ва ўдзелы маладым князям-ізгоям Усеваладу Давыдавічу і Вячаславу Яраславічу

**Раней 1128** Кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч перадае Тураў брату Вячаславу, а Смаленск – сыну Расціславу

**1128** Мсціслаў арганізуе вялікі паход на Полацкае княства. Першае непасрэднае ўпамінанне Горадна і Клечаска, а таксама полацкіх удзелаў Ізяслаўля, Стрэжава і Барысава

**1128** Жыхары Полацка пазбаўляюць улады Давыда Усяславіча і звяртаюцца да кіеўскага князя з просьбай зацвердзіць абранне полацкім князем Барыса (Рагвалода) Усяславіча. Першае сведчанне вечавога самакіравання ў Полацку

**1129** Смерць Барыса Усяславіча

**1130** Высылка большасці полацкіх князёў у Візантыю за іх адмову ўдзельнічаць у паходзе на полаўцаў. Часовы пераход Полацка пад кантроль кіеўскага князя Мсціслава і яго сыноў Святаполка і Ізяслава

**1130-я** Пачатак існавання самабытнай школы мураванага дойлідства ў Горадне. Будаўніцтва Ніжняй царквы на дзядзінцы

**1131** Паход на Літву кіеўскага князя Мсціслава, у якім прымае ўдзел гарадзенскі князь Усевалад

**1132** Пасля смерці Мсціслава палачане выганяюць яго сына Святаполка і запрашаюць Васільку Святаславіча (аднаго з унукаў Усяслава Чарадзея, які пазбег высылкі і, магчыма, раней княжыў у Ізяслаўлі). Смаленскі ўдзел замацоўваецца за сынам Мсціслава Расціславам. Утварэнне смаленскай галіны Рурыкавічаў

**1132–1134** Часовае аб'яднанне Менска, Турава і Пінска ў якасці ўдзела Ізяслава Мсціславіча

**1134 ці 1135** Самавольны захоп Турава Вячаславам Уладзіміравічам, якому ён належаў раней. Аднаўленне асобнага Тураўскага ўдзела

**1136** Заснаванне Расціславам Мсціславічам Смаленскай епархіі. Яе тэрыторыя, вылучаная са складу больш старажытнай Пераяслаўскай епархіі, ахоплівала землі да ўсходняга берага Дняпра. Першае ўпамінанне сярод смаленскіх гарадоў Прапойска (Прупоя, суч. Слаўгарад) і Крычава (Крэчута)

**1137** Першае непасрэднае ўпамінанне епіскапіі ў Тураве

**1140** Пасля ўкняжання ў Кіеве чарнігаўскі князь Усевалад Ольгавіч дазваляе вярнуцца сасланым полацкім князям і, відаць, вяртае Друцкае княства сынам Барыса Усяславіча, а Менскае – сынам Глеба Усяславіча

**1141** Пасля смерці Усевалада Гарадзенскага яго княства замацоўваецца ў якасці вотчыны яго сыноў. Утварэнне асобнай гарадзенскай галіны Рурыкавічаў

**1142** Усевалад Ольгавіч пазбаўляе Вячаслава Уладзіміравіча Тураўскага княства, якое аддае свайму сыну Святаславу, а Берасце, Рагачоў і Клечаск аддае сваім братам Ігару і Святаславу. Першае ўпамінанне Рагачова

**1142** Першае ўпамінанне Гомея (суч. Гомель) у складзе Чарнігаўскага княства

**1142** Усевалад Ольгавіч вяртае Тураў Вячаславу

**1143** Збліжэнне Усевалада Ольгавіча з полацкай дынастыяй замацоўваецца шлюбам яго сына Святаслава з дачкой Васількі Полацкага

**1144** Смерць Васількі Полацкага. Пачатак княжання ў Полацку Рагвалода Барысавіча. За сынамі Васількі, відаць, замацоўваецца Ізяслаўскае княства

**1146** Новы кіеўскі князь Ізяслаў Мсціславіч перадае Тураў свайму сыну Яраславу

**1147** Першае ўпамінанне Брагіна

**1149** Захапіўшы Кіеў, растова-суздальскі князь Юрый Далгарукі замацоўвае за чарнігаўскім князем Святаславам Ольгавічам Клечаск і Случаск

**1150** Юрый Далгарукі аддае Тураў і Пінск свайму сыну Андрэю

**1151** Палачане звяргаюць Рагвалода Барысавіча і запрашаюць на княжанне Расціслава Глебавіча Менскага, прымаючы пратэктарат Святаслава Ольгавіча. У Менску, відаць, пачынае княжыць брат Расціслава Валадар, а ў Ізяслаўлі – Усевалад. Друцк таксама пераходзіць пад кантроль Расціслава, там уладкоўваецца яго сын Глеб

**1154** Пасля смерці Ізяслава Мсціславіча ў якасці вотчыны яго сыноў замацоўваецца Уладзіміра-Валынскае княства, у склад якога ўваходзіць Берасцейская воласць. Утварэнне валынскай галіны Рурыкавічаў

**1154** Кіеўскім князем на непрацяглы час становіцца Расціслаў Мсціславіч Смаленскі. Ён аддае Тураў і Пінск Святаславу, сыну Усевалада Ольгавіча, які ўжо валодаў Туравам у 1142 г.

**1155** Паўторна авалодаўшы Кіевам, Юрый Далгарукі перадае Тураўскае княства свайму сыну Барысу, а Мазыр – Святаславу Ольгавічу. Першае ўпамінанне Мазыра

**1156** Першае ўпамінанне Мсціслаўля ў складзе Смаленскага княства

**1157** Захоп Турава і Пінскага княства князем-ізгоем Юрыем Яраславічам, унукам Святаполка Ізяславіча. Канчатковае адасабленне іх ад Кіеўскага княства. Пачатак турава-пінскай галіны Рурыкавічаў

**1158** Рагвалод Барысавіч з дапамогай Святаслава Ольгавіча аднаўляе кантроль над Друцкам, а неўзабаве і над Полацкам. Расціслаў і Валадар Глебавічы захоўваюць за сабой Менскае княства. Ізяслаўль перадаецца ў вотчыну князю Брачыславу, мабыць, сыну Васількі Святаславіча. Князь Усевалад (брат Брачыслава?), які раней валодаў Ізяслаўлем, атрымлівае Стрэжаў

**1159** Расціслаў Мсціславіч Смаленскі паўторна становіцца кіеўскім князем, пацвярджае Святаславу Ольгавічу яго правы на Чарнігаў і, відаць, на ўсе яго уладанні на Беларусі. Смаленскае княства дастаецца сыну Расціслава Раману

**1160** Расціслаў Менскі захапіў у палон князёў Брачыслава і Валодшу, напэўна, далучыўшы Ізяслаўль да сваіх уладанняў. Рагвалод з дапамогай кіеўскага князя аднаўляе папярэдні стан рэчаў

**1161** Стварэнне майстрам Лазарам Богшам хрысціянскай святыні і выдатнага помніка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва – узвіжальнага крыжа (пазней вядомы як крыж Ефрасінні Полацкай)

**1162** Няўдалы напад Рагвалода Полацкага на Гарадзецкі ўдзел Валадара Глебавіча, якому дапамагае літоўскае войска. Гэта першы выпадак удзелу літоўцаў у палітычных справах Русі. У выніку Рагвалод страчвае полацкі пасад і вяртаецца ў Друцк. Палачане запрашаюць на княжанне Усяслава Васількавіча

**1162** Брат кіеўскага князя Уладзімір Мсціславіч робіць няўдалую спробу гвалтоўна ўладкавацца ў Случаску

**1164** Смерць чарнігаўскага князя Святаслава Ольгавіча, пераразмеркаванне ўдзелаў мясцовай дынастыі. Чарнігаў пераходзіць да яго пляменніка Святаслава Усеваладавіча, а сын Святаслава Алег атрымлівае Ноўгарад-Северскі разам з шэрагам валасцей на Беларусі

**1165** Кіеўскі князь Расціслаў Мсціслаўвіч перадае Віцебск ва ўдзел свайму сыну Давыду

**1167** Валадар Глебавіч часова выбівае Усяслава з Полацка, але той з дапамогай Давыда Расціслaвіча вяртае полацкі пасад

**1167** Паломніцтва Ефрасінні Полацкай у Іерусалім і яе смерць

**Раней 1168** Смерць Юрыя Яраславіча. Тураўскае княства падзелена паміж яго сынамі. Утвараюцца асобныя Пінскае і Дубровіцкае княствы

**1168** У паходзе на полаўцаў прымаюць ўдзел Іван Юр'евіч Тураўскі і яго брат Святаполк

**1168** Першае ўпамінанне Чачэрска як аднаго з удзелаў Алега Святаславіча Ноўгарад-Северскага

**1169** Пасля смерці Расціслава Мсціславіча Кіеў пераходзіць да ўладзіміра-валынскага князя Мсціслава Ізяслaвіча, які вылучае Берасце ва ўдзел свайму родзічу Уладзіміру Андрэевічу. Смаленскае княства застаецца ў руках Рамана Расціслaвіча

**Канец 1160 – пачатак 1180-х гг.** Духоўнае служэнне і літаратурная творчасць Кірылы, епіскапа Тураўскага

**1174** Давыд Расціслаўвіч атрымлівае ўдзел у Кіеўскім княстве. Віцебск, відаць, пераходзіць да Усяслава Васількавіча Полацкага

**1179** Пасля смерці Алега Святаславіча Ноўгарад-Северская княства з прыналежнымі да яго валасцямі на Беларусі пераходзіць да яго брата Ігара

**1180** Пасля смерці Рамана Расціслaвіча Смаленскае княства пераходзіць да яго брата Давыда. У Віцебску княжыць брат Усяслава Полацкага Брачыслаў, у Друцку – Глеб Рагвалодавіч, у Лагожаску – Усяслаў Мікуліч, у Ізяслаўлі, мабыць, – сын Брачыслава Васілька

**1180** Процістаянне чарнігаўскіх і полацкіх князёў з Глебам Друцкім, якога падтрымлівае Давыд Смаленскі. На баку полацкіх князёў змагаюцца дружыны літоўцаў і ліваў

**Каля 1183** Смерць аднаго з полацкіх князёў у бітве з літоўцамі. „Слова аб паходзе Ігаравым" называе яго Ізяславам Васількавічам, але, магчыма, гэта быў Усяслаў Васількавіч Полацкі. З таго часу ўзрастае колькасць паведамленняў пра ваенную актыўнасць Літвы

**1184** На землі ліваў, што плацяць даніну Полацку, прыбывае нямецкі манах-аўгусцінец Мейнард, які са згоды полацкага князя Уладзіміра пачынае хрышчэнне ліваў у каталіцтва

**1185** У лівскім паселішчы Ікескола (Ікскюль) у нізоўях Дзвіны будуецца мураваны замак як рэзідэнцыя будучага біскупства

**1185** Няўдалы паход супраць полаўцаў ноўгарад-северскага князя Ігара Святаславіча, у якім, напэўна, прымалі ўдзел і дружыны з Рагачова, Чачэрска і інш., стаў сюжэтам славутага паэтычнага твора – „Слова аб паходзе Ігаравым"

**1188** Рымскі папа Клемент III зацвярджае ўтварэнне каталіцкага біскупства ў Ікесколе „на Русі"

**1190** Смерць тураўскага князя Святаполка Юр'евіча. Тураў пераходзіць да яго брата Глеба

**1195** Канфлікт Яраслава Чарнігаўскага з Давыдам Смаленскім за валоданне Віцебскам, у якім полацкія князі выступаюць на баку Чарнігава. Апошні выпадак удзелу Полацка ў агульнарускіх справах

**1196, сакавік** Смерць Глеба Юр'евіча Тураўскага

**1197** Пасля смерці біскупа Ікесколы Мейнарда ліві адмаўляюцца прыняць яго пераемніка, у сувязі з чым папа Цэлесцін III абвяшчае першы крыжовы паход у Лівонію. Пачатак узброенай германскай экспансіі ў Прыбалтыцы

**1197** Смерць Давыда Расціслaвіча. Смаленскае княства пераходзіць да яго пляменніка Мсціслава Раманавіча

**1198** Смерць Яраслава Усеваладавіча. Чарнігаўскае княства пераходзіць да Ігара Святаславіча

**1201** Заснаванне Рыгі – рэзідэнцыі новага біскупа Альберта і галоўнага фарпоста германскай экспансіі. Заключэнне саюза Альберта з Літвой. Паход на Літву полацкага князя Уладзіміра

**1202** Заснаванне ў Рызе Ордэна мечаносцаў. Пакарэнне Земгаліі

**1202** Смерць Ігара Святаславіча Чарнігаўскага. Чарнігаў пераходзіць да курскага князя Алега, сына Святаслава Усеваладавіча і полацкай князёўны

**1203** Няўдалая аблога Ікесколы полацкім войскам. Напад на ваколіцы Рыгі рускага князя Усевалада з Герцыке

**1204** Захоп Канстанцінопаля ўдзельнікамі IV крыжовага паходу і ператварэнне Візантыі ў Лацінскую імперыю выклікаюць часовы заняпад праваслаўнай царквы

**1204** Пасля смерці Алега Чарнігаў пераходзіць да яго брата Усевалада Чароўнага

**1205** Вячка, князь рускага замка Кукенойса, заключае мір з рыжскім біскупам Альбертам

**1206** Другі няўдалы паход Уладзіміра Полацкага на замкі біскупа. Першае сутыкненне палачан з новай германскай зброяй – арбалетам

**1207** Імператар прызнае Лівонію ленам Свяшчэннай Рымскай імперыі

**1207–1208** Князь Вячка просіць у біскупа Альберта дапамогі супраць літоўцаў і ўступае яму палову сваіх уладанняў, што ўрэшце прыводзіць да спалення Кукенойса. Вячка назаўсёды страчвае сваё княства

**1209** Заснаванне ў Кукенойсе нямецкага замка. Войска рыжскага біскупа захапіла Герцыке, пасля чаго яго князь Усевалад прынёс ленную прысягу біскупу

**1210** Полацкі князь заключае мір з Рыгай на тых умовах, што біскуп будзе аддаваць яму частку даніны, што збірае з ліваў. Рыцары-мечаносцы заваёўваюць большасць зямлі эстаў

**1210** Папа Інакенцій III зацвярджае стварэнне Ордэна мечаносцаў і падзел уладанняў паміж ім і Рыжскім біскупствам

**1212** Уладзімір Полацкі вымушаны прасіць дапамогі рыжскага біскупа супраць літоўцаў і ўзамен адмаўляецца ад права на лівскую даніну

**1212** Мсціслаў Раманавіч Смаленскі становіцца кіеўскім князем. Смаленск пераходзіць, відаць, да яго стрыечнага брата Уладзіміра Рурыкавіча, які ўпамінаецца як смаленскі князь у 1215

**1214** Першае ўпамінанне Рэчыцы ў складзе Чарнігаўскага княства

**1216** Князь Уладзімір Полацкі разрывае саюз з рыжскім біскупам, склікае рускіх і літоўскіх князёў у вялікі паход на Рыгу, але раптоўна памірае

**Каля 1217** Кіеўскі (былы смаленскі) князь Мсціслаў Раманавіч аддае Смаленск свайму сыну Святаславу

**1217** Галіцкі князь Мсціслаў Удалы аддае Берасце маладым валынскім князям Даніілу і Васільку Раманавічам, раней пазбаўленым вотчыны сваімі суродзічамі

**1218** Смаленскае княства пераходзіць да Мсціслава, сына Давыда Расціслaвіча

**1219** Даніла Раманавіч становіцца ўладзіміра-валынскім князем і заключае саюз з кааліцыяй літоўскіх князёў. Берасце ён вылучае ва ўдзел свайму брату Васільку

**1219** Чарнігаўскім князем становіцца Мсціслаў, малодшы сын Святаслава Усеваладавіча

**1220** Літоўскае войска ўпершыню праходзіць праз усю Беларусь і дасягае Чарнігаўскай зямлі

**1222** Смаленскае войска захапіла Полацк, выгнаўшы адтуль князёў Барыса і Глеба. Полацкім князем становіцца, відаць, Святаслаў, сын Мсціслава Раманавіча. Неўзабаве смаленскі і полацкі князі разам заключаюць мір з Рыгай

**1223, май** Разгром рускіх князёў у бітве з татарамі на рацэ Калцы

**1225** Небывала буйны набег літоўцаў ахоплівае Полацкую, Смаленскую і поўнач Наўгародскай зямлі. Пераяслава-залескі князь Яраслаў Усеваладавіч перамагае іх каля Усвята

**1228** Канфлікт Данілы Раманавіча з пінскімі князямі, пасля чаго Пінскае княства трапляе ў залежнасць ад яго. Першае ўскоснае ўпамінанне ў летапісах Новагародка

**1229** Мсціслаў Давыдавіч ад імя Смаленскага, Полацкага і Віцебскага княстваў заключае дагавор аб свабодным гандлі з Рыгай і Гоцкім берагам (Готланд)

**Каля 1230** Па запрашэнні мазавецкага князя Конрада ў нізоўях Віслы пачынае дзейнічаць Тэўтонскі (Нямецкі) ордэн, які разгортвае экспансію супраць прусаў

**1230** Смерць Мсціслава Давыдавіча Смаленскага

**1232** Святаслаў Мсціславіч з полацкім войскам захапіў Смаленск і ўкняжыўся там

**Каля 1234** Пачатак рэгулярных нападаў яцвягаў на ўдзел Васілька Раманавіча ў Пабужжы

**1237** Ператварэнне Ордэна мечаносцаў у Лівонскі (Інфлянцкі) ордэн і аб'яднанне ў канфедэрацыю з Тэўтонскім ордэнам

**1237–1238** Татарскае нашэсце на паўночна-ўсходнюю Русь. Войскам хана Батыя разбураны Разанская і Уладзіміра-Суздальская землі

**1238** Новагародскі князь Ізяслаў і літоўскі князь Міндоўг па закліку Данілы Раманавіча робяць паход на Мазовію

**1238** Даніла Раманавіч аб'ядноўвае пад сваёй уладай Уладзіміра-Валынскае і Галіцкае княствы, ствараючы моцны палітычны цэнтр на паўднёвым захадзе Русі

**1239** Татары заваёўваюць Чарнігаўскую зямлю, дасягаючы паўднёва-ўсходняй часткі Беларусі (магчыма, да Магілёва)

**1239** Палітычны саюз полацкага князя Брачыслава з наўгародскім князем Аляксандрам Яраславічам, які замацоўваецца шлюбам апошняга з дачкой Брачыслава

**Канец 1240–пачатак 1241** Разбурэнне татарамі Кіева і Галіцка-Валынскага княства. Відаць, разбурана і Берасце

**1240–1250-я гг.** Рускія князі вымушаны атрымліваць ярлыкі на княжанне з рук мангольскіх ханаў. На большасці Русі з'яўляюцца татарскія перапісчыкі, якія абкладваюць яе данінай

**Каля 1243** Князем Новагародка становіцца Міндоўг. Гэта дае пачатак палітычнаму аб'яднанню літоўскіх і часткі беларускіх зямель, утварэнню Вялікага княства Літоўскага

**1244–1245** Валынская зямля падвяргаецца літоўскім нападам. Даніла Раманавіч адбівае гэтыя напады і двойчы перамагае літоўцаў каля Пінска, у выніку Пінскае княства застаецца пад яго ўплывам

**1245, лета** Міндоўг аказвае ваенную дапамогу Даніілу Раманавічу ў бітве са стаўленікам венгерскага караля Расціславам, які спрабаваў адваяваць Галіч

**1248** Нейкі язычнік (напэўна, літовец) абіраецца князем і прымае хрышчэнне ў Полацку ці, магчыма, Пскове, пра што згадваецца ў буле рымскага папы Інакенція IV

**1248** Міндоўг накіроўвае сваіх пляменнікаў у паход на Смаленскую зямлю, а сам захоплівае аднаасобную ўладу ў Літве. Пачатак вайны паміж ім і Данілам Раманавічам. Першае ўпамінанне Ваўкавыйска, Слоніма (Услонім) і Здзітава, падуладных Міндоўгу

**1249** Сумесны паход Данілы і Васілька Раманавічаў з мазавецкім князем Земавітам на яцвягаў кладзе пачатак заваяванню іх краіны за ракой Нараў

**1251** Хрышчэнне Міндоўга ў каталіцтва. Папа Інакенцій IV прымае яго ўладанні пад сваю юрысдыкцыю

**1252** Другі паход Данілы Раманавіча на Літву, Новагародак і Горадна

**1253, ліпень** Каранацыя Міндоўга каралеўскай каронай. Міндоўг дае жыхарам Рыгі і ўсім нямецкім купцам права вольнага гандлю ў сваёй дзяржаве

**1253, верасень** Каранацыя Данілы Раманавіча

**1253–1254** Даніла Раманавіч завяршае заваяванне яцвяжскіх земляў, пазней вядомых як Паўночнае Падляшша. Пачынаецца каланізацыя гэтых зямель жыхарамі Берасцейшчыны

**1253** Заснаванне ў Літве каталіцкага біскупства

**Каля 1254** Міндоўг вылучае Новагародак, Слонім і Ваўкавыйск ва ўдзел свайму сыну Войшалку

**1255** Папа Інакенцій IV пацвярджае правa караля Міндоўга на землі, адваяваныя ім у „каралеўства Русі"

**Каля 1255** Прыняцце Войшалкам праваслаўя і пастрыжэнне ў манахі

**1255–1258** Княжанне ў Новагародку сына Данілы Галіцкага Рамана на ўмовах васальнай залежнасці ад Міндоўга. У Ваўкавыйску княжыць Глеб – апошні прадстаўнік гарадзенскай галіны Рурыкавічаў

**1255 ці 1256** Першае ўпамінанне Свіслачы (зараз у Асіповіцкім раёне), дзе княжыць Ізяслаў

**1258** Сумесны паход палачан і Літвы на Смаленскую зямлю

**1258** Паход на Літву і Нальшчаны татарскага ваяводы Бурундая з удзелам Васількі Раманавіча прыводзіць да разрыву мірных адносін Галіцка-Валынскага княства з Літвой. Войска Данілы Раманавіча разбурае Ваўкавыйскае княства і ваколіцы Горадна

**1260** Міндоўг аднаўляе вайну з Лівонскім ордэнам і вяртае кантроль над жамойцкімі землямі, саступленымі пасля каранацыі

**1262** Міндоўг заключае саюз з Вялікім Ноўгарадам і арганізуе сумесны паход у Лівонію, у якім прымае ўдзел полацкая дружына на чале з Таўцівілам

**1263, 5 жніўня?** Забойства Міндоўга. Улада пераходзіць да Траняты, які забівае полацкага князя Таўцівіла. У Полацку і Віцебску пачынае княжыць стаўленік Траняты Гердзень

**1264** Забойства Траняты. Сын Міндоўга Войшалк складае манаскі чын і з дапамогай галіцка-валынскага войска здабывае ўладу ў Літве

**1264–1267** Праўленне ў Літве Войшалка, а ў Новагародскім княстве – яго суправіцеля Шварна Данілавіча, пад старэйшынствам уладзімірскага князя Васількі Раманавіча

**Каля 1266** Полацкі князь Ізяслаў, выступаючы ў якасці васала Войшалка, заключае дагавор з рыжскім біскупам і Лівонскім ордэнам ад імя Полацка і Віцебска

**1267** Войшалк цалкам саступае ўладу над Літвой Шварну і вяртаецца ў манастыр

**1269–1281** Праўленне ў Літве і Новагародскім княстве Трайдзена. Аднаўленне самастойнасці Літвы ад Уладзіміра-Валынскага княства

**1275** Сумесны паход галіцка-валынскіх, турава-пінскіх князёў і татар супраць Трайдзена, няўдалая аблога імі Новагародка. Першае ўпамінанне Капыля і геаграфічнай назвы „Палессе"

**1276** Пасяленне Трайдзенам вялікай колькасці ўцекачоў з Прусіі ў Горадне і Слоніме

**1276** Заснаванне Камянца ўладзіміра-валынскім князем Уладзімірам Васількавічам

**1277** Другі сумесны паход галіцка-валынскіх князёў і татар на Новагародак і Горадна. Упамінанне ў Горадне мураванай вежы („слупа") – першае сведчанне будаўніцтва мураваных умацаванняў на тэрыторыі Беларусі

**1283** Завяршэнне заваявання Тэўтонскім ордэнам прускіх зямель і выхад яго непасрэдна да межаў Літвы. Пачатак ваеннага процістаяння Літвы з абодвума ордэнамі адначасова

**1284** Напад рыцараў Тэўтонскага ордэна ўпершыню дасягае Беларусі. Спалена Горадна

**1287** Першае ўпамінанне Кобрына ў складзе Уладзіміра-Валынскага княства

**1288** Упамінанне мураваных веж у Камянцы і Берасці. З іх камянецкая вежа захавалася да нашых дзён

**1289** Пасля смерці Уладзіміра Васількавіча яго пляменнік, дарагічынскі князь Юрый Львовіч спрабуе ўладкавацца ў Берасці з дапамогай мясцовых жыхароў. Новы ўладзіміра-валынскі князь Мсціслаў Васількавіч карае берасцян „за крамолу"

**1289** Літоўскія князі Будзівід і Будзікід саступаюць Мсціславу Васількавічу Ваўкавыйск, які часова далучаецца да Берасцейскай воласці

**1296–1316** Праўленне ў Літве Віценя. Пераадоленне часовага заняпаду маладой дзяржавы, якая паступова ператвараецца ў Вялікае княства Літоўскае

**1298–1313** Саюз паміж Віценем і рыжскім арцыбіскупам Фрыдрыхам супраць Лівонскага ордэна. Нямецкія бюргеры пачынаюць сяліцца ў падуладных Віценю рускіх гарадах

**Каля 1303** Канчатковае замацаванне Полацка ў складзе ВКЛ

**1304, 1306, 1311** Напады рыцараў Тэўтонскага ордэна на Гарадзенскую воласць

**1314, восень** Напад тэўтонцаў дасягае Новагародка, які паспяхова бароніць гарадзенскі намеснік Давыд

**1316–1341** Праўленне Гедзіміна

**1317–1330** Першы перыяд існавання ў ВКЛ праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Новагародку

**Каля 1320** Заснаванне Вільні – новай сталіцы ВКЛ (упершыню ўпамінаецца ў 1323)

**Каля 1320** Сын Гедзіміна Альгерд праз шлюб атрымлівае Віцебскае княства, што азначае яго канчатковае далучэнне да ВКЛ

**Каля 1322** Далучэнне да ВКЛ Берасцейскай воласці і Падляшша

**1323** Пасля спынення мужчынскай лініі валынскіх князёў Галіцка-Валынскае княства пераходзіць да нашчадка па жаночай лініі – мазавецкага князя Юрыя Баляслава Трайдзенавіча

**1323** Палкаводзец Гедзіміна Давыд Гарадзенскі двойчы прыходзіць на дапамогу Пскову супраць Лівонскага ордэна

**1323, май** Гедзімін звяртаецца з шэрагам пасланняў да рымскай курыі, Ганзейскага саюза, рэзідэнцый каталіцкіх ордэнаў, у якіх запрашае манахаў і майстроў розных спецыяльнасцей на перасяленне ў ВКЛ, гарантуючы ім льготы і прывілеі

**1323, 2 кастрычніка** Гедзімін заключае мір з рыжскім арцыбіскупам і магістратам Рыгі, які зноў гарантуе вольны гандаль па Дзвіне

**1324, кастрычнік** У Вільню прыбываюць папскія легаты, каб хрысціць Гедзіміна ў каталіцтва, але ён нечакана адмаўляецца ад намечанага хрышчэння

**1325** Саюз Гедзіміна з каралём Польшчы Уладзіславам I Лакеткам

**1325** Татарскі паход на ВКЛ

**1326** Менскі князь Васіль выступае адным з паслоў Гедзіміна ў Ноўгарад, што сведчыць пра распаўсюджанне літоўскай улады на Менск. Разам з ім прыгаданы брат Гедзіміна Воінь, князь полацкі

**1326** Давыд Гарадзенскі вядзе войска ВКЛ на дапамогу Уладзіславу I Лакетку супраць маркграфства Брандэнбург і гіне ў гэтым паходзе

**1327** Маскоўскі князь Іван Каліта атрымлівае ад хана Залатой Арды ярлык на вялікае княжанне. Пачатак узвышэння Масквы і ператварэння яе ў аб'яднаўчы цэнтр для паўночна-ўсходніх зямель Русі

**1328** Гедзімін умешваецца ў барацьбу паміж рыжскім магістратам і Лівонскім ордэнам, што неўзабаве прыводзіць да аднаўлення вайны ў Падзвінні

**Раней 1331** Уплыў Гедзіміна распаўсюджваецца на Цвярское, Смаленскае, Кіеўскае княствы. ВКЛ ператвараецца ў адну з асноўных палітычных сіл на землях Русі

**1330-я гг.** Будаўніцтва з удзелам заходніх майстроў мураваных замкаў у Лідзе, Крэве, Віцебску. Ва ўзбраенні немцаў з'яўляецца агнястрэльная зброя

**1333** Войска Лівонскага ордэна ўпершыню дасягае Полацка

**1333, кастрычнік** Ноўгарад упершыню прымае князя з Літвы. Ім становіцца сын Гедзіміна Нарымонт, ахрышчаны пад імем Глеб

**1333–1370** Праўленне ў Польшчы Казіміра III Вялікага – апошняга караля з дынастыі Пястаў. Пры ім узмацняецца пранікненне заходнееўрапейскіх парадкаў і звычаяў, а таксама перасяленне з Германіі яўрэяў-ашкеназы

**1335** ВКЛ і Маскоўскае княства абменьваюцца нападамі на памежжы Ржэўскай воласці, прыналежнай Гедзіміну, і Таржка, які кантралюе Іван Каліта

**1338** Татарскі паход на ВКЛ

**1338** Новы дагавор ВКЛ з Рыгай, у якім Глеб-Нарымонт выступае як полацкі князь, а Альгерд – як віцебскі

**1339** Адзін з галоўных саюзнікаў Гедзіміна, князь Аляксандр Цвярскі, гіне ў Ардзе праз інтрыгі Івана Каліты. Процістаянне Масквы і ВКЛ як двух аб'яднаўчых цэнтраў Русі абвастраецца

**1340** Пасля смерці Юрыя-Баляслава, які быў жанаты з дачкой Гедзіміна, распачынаецца барацьба за яго спадчыну. Да ВКЛ адыходзіць Валынская зямля, дзе пачынае княжыць малодшы сын Гедзіміна Любарт-Дзмітрый

**1341** Смерць Гедзіміна. Улада ў ВКЛ пераходзіць да яго сына ад другога шлюбу Яўнута

**1342** Віцебскі князь Альгерд дасылае на дапамогу Пскову свайго стрыечнага брата Любка, сына Воіня, які гіне ў бітве з немцамі. Псковічы прымаюць на княжанне сына Альгерда, які бярэ хрышчэнне пад імем Андрэй

**1342** Войска ВКЛ нападае на Мажайск, прыналежны Маскоўскаму княству

**1345** Альгерд з дапамогай свайго брата Кейстута звяргае Яўнута і становіцца вялікім князем, а Кейстута робіць сваім суправіцелем. Часовы падзел дзяржавы на Віленскае і Троцкае княствы пад адной вярхоўнай уладай

**1345–1377** Праўленне ў ВКЛ Альгерда. Далейшае ўзмацненне дзяржавы

**Пасля 1345** Альгерд вылучае Новагародскае княства ва ўдзел свайму брату Карыяту-Міхаілу і, магчыма, вяртае Полацк Глебу-Нарымонту, які пасля звяржэння Яўнута ўцёк у Арду

**Каля 1347** Былы вялікі князь Яўнут (ахрышчаны ў Маскве пад імем Іван) вяртаецца з выгнання і атрымлівае ад Альгерда Жаслаўль (Заслаўе). Пачатак галіны князёў Жаслаўскіх (Заслаўскіх), якая праіснавала да 1539

**1348, 2 лютага** У бітве з немцамі на рацэ Стрэве (каля Коўна) удзельнічаюць апалчэнні з Полацка, Віцебска, Берасця і гіне Глеб-Нарымонт. Альгерд перадае Полацкае княства свайму сыну Андрэю, а за дзецьмі Нарымонта, напэўна, замацоўвае Пінскае княства. Пачатак галіны князёў Нарымонтавічаў, якая ў далейшым падзялілася на шмат адгалінаванняў

**1348** Маскоўскія дыпламаты дамагліся арышту ў Ардзе і выдачы Маскве літоўскага пасольства, узначаленага Міхаілам Карыятам Гедзімінавічам. У складзе пасольства прыгадваецца князь Сямён Свіслацкі. Неўзабаве Свіслацкае княства непасрэдна далучаецца да ўладанняў Альгерда і Кейстута і дзеліцца паміж імі

**1348–1353** Па Залатой Ардзе, Заходняй Еўропе і Русі пракочваецца эпідэмія чумы, якая ў многіх рэгіёнах паменшае насельніцтва напалову і больш. З гэтага часу ўспышкі чумы на Русі перыядычна паўтараюцца да канца XV стагоддзя

**1349–1352** Вайна ВКЛ з Польшчай за новы перадзел Валынскай зямлі

**1350-я гг.** Карыстаючыся аслабленнем Арды пасля эпідэміі, Альгерд падпарадкоўвае Бранскае, Чарнігава-Северскае княствы і заходнюю частку Смаленскага з Оршай і Мсціслаўлем. Уся тэрыторыя Беларусі апынаецца ў складзе ВКЛ

**1354** Аднаўленне Літоўскай (афіцыйна Кіеўскай) мітраполіі. Мітрапалітам становіцца Раман, сваяк жонкі Альгерда

**1358** У перамовах з пасламі імператара Карла IV Альгерд пагаджаецца прыняць каталіцкае хрышчэнне пры ўмове, што Тэўтонскі ордэн будзе пераведзены з Прыбалтыкі на мяжу з Залатой Ардой, а імператар прызнае правa Літвы на ўсю Русь

**1359–1363** Усобіца ў Залатой Ардзе не дазваляе татарам умешвацца ў рускія справы і процідзейнічаць экспансіі Альгерда

**1362 ці 1363** Пасля перамогі над татарамі пры Сініх Водах Альгерд падпарадкоўвае Падолле і, відаць, Кіеў

**Раней 1365** Кейстут вылучае Горадна ва ўдзел свайму сыну Паціргу

**1366, вясна** Напад войска Лівонскага ордэна на Полацк

**1366** Новая вайна з Польшчай за Заходнюю Валынь і Падолле

**1368, 1370, 1372** Безвыніковыя паходы Альгерда на Маскву з удзелам смаленскіх і цвярскіх войск. Падзел Русі паміж двума аб'яднаўчымі цэнтрамі замацоўваецца канчаткова

**1370** Каралём Польшчы абіраецца прадстаўнік Анжуйскай дынастыі, венгерскі кароль Людвік. Ствараецца персанальная унія паміж Венгрыяй і Польшчай, якая пазней паслужыла ўзорам для уніі Польшчы з ВКЛ

**Каля 1370** Кейстут вылучае Гарадзенскае княства ва ўдзел свайму сыну Вітаўту

**1373** Па закліку цвярского князя Міхаіла вялікае войска Кейстута з удзелам Вітаўта, Андрэя Полацкага, Дзмітрыя Друцкага і іншых князёў пустошыць маскоўскія воласці ў Пераяслаўлі Залескім і Таржку

**1373, 1375** Напады войска Тэўтонскага ордэна на Гарадзенскае княства

**1374, 17 верасня** Кароль Людвік выдае Кошыцкі прывілей, паводле якога польская шляхта атрымлівае важныя сацыяльна-палітычныя і асабістыя правы. Набыццё такіх жа правоў становіцца арыенцірам для баярства ВКЛ і стымулам для збліжэння з Польшчай

**1375** На Літоўскую мітраполію, вакантную пасля смерці Рамана ў 1371, прызначаецца Кіпрыян

**1375, 1379** Напады войска Тэўтонскага ордэна на Камянец і Падляшша

**1377, май** Смерць Альгерда. Яго пераемнікам становіцца сын ад другога шлюбу, віцебскі і крэўскі князь Ягайла. Андрэй Полацкі пакідае сваё княства і з'язджае ў Маскву

**1379** Малодшы брат Ягайлы Скіргайла аб'язджае з пасольствам заходнееўрапейскія дзяржавы, высвятляючы магчымасці хрышчэння Літвы ў каталіцтва

**1379–1380** Саюз ВКЛ з Залатой Ардой і Цвярскім княствам, накіраваны супраць Масквы

**1380, 8 верасня** Перамога маскоўскага князя Дзмітрыя над ханам Мамаем у Кулікоўскай бітве канчаткова забяспечвае вядучую ролю Масквы ў паўночна-ўсходняй Русі. На баку Дзмітрыя ў бітве прымаюць удзел Андрэй і Дзмітрый Альгердавічы са сваімі дружынамі

**1381** Літоўскі мітрапаліт Кіпрыян прызначаецца адначасова і маскоўскім мітрапалітам, пасля чаго пераносіць цэнтр аб'яднанай мітраполіі ў Маскву

**1381** Пры аблозе Юрбарка Кейстутам упершыню ўпамінаецца выкарыстанне войскам ВКЛ артылерыі

**1381** Ягайла аддае Полацк свайму брату Скіргайлу, але палачане адмаўляюцца прыняць яго

**1381, лета** Пачатак міжусобнага канфлікту паміж Ягайлам і Кейстутам

**1382, лета** Забойства Кейстута ў Крэўскім замку. Ягайла набывае аднаасобную ўладу. Сын Кейстута Вітаўт уцякае ў Прусію

**1380-я** Ягайла пачынае ўжываць на сваіх пячатках пашыраны ў тыя часы геральдычны сюжэт – выяву конніка з мячом, які ў далейшым стане прататыпам герба „Пагоня“

**1382** Ягайла перадае Троцкае княства брату Скіргайлу і вылучае Віцебск ва ўдзел сваёй маці Ульяне

**1382** Ягайла падпісвае пагадненне з Тэўтонскім ордэнам, у якім абавязваецца ў чатырохгадовы тэрмін хрысціць Літву ў каталіцтва

**1382** Смерць Людвіка Анжуйскага. Карона Польшчы пераходзіць да яго 9-гадовай дачкі Ядвігі. Польская знаць заклапочана выбарам жаніха для яе, які павінен стаць новым каралём

**1383** Вітаўт Кейстутавіч з дапамогай войска Тэўтонскага ордэна робіць напады на Літву

**1384, ліпень** Прымірэнне Ягайлы з Вітаўтам. Вылучэнне Берасця, Горадна і Дарагічына ва ўдзел Вітаўту

**1385, 14 жніўня** Падпісанне Крэўскай уніі, паводле якой Ягайла мусіць ажаніцца з Ядвігай і стаць каралём Польшчы пад імем Уладзіслава II, а ВКЛ далучаецца да Польскага каралеўства

**1386, 18 лютага** Шлюб Ягайлы з Ядвігай Анжуйскай і афіцыйнае абранне яго каралём Польшчы. Пачатак персанальнай уніі Польшчы з ВКЛ

**1387, зіма–вясна** Андрэй Альгердавіч з дапамогай Лівонскага ордэна спрабуе аднавіць кантроль над Полацкім княствам, але церпіць паражэнне і трапляе ў палон да Скіргайлы

**1387, 20 лютага** Выдача граматы Уладзіслава II Ягайлы аб прывілеях панам, якія прынялі каталіцтва. Пачатак дыскрымінацыі праваслаўнай знаці

**1387, 22 сакавіка** Наданне Вільні самакіравання паводле магдэбургскага права

**1387, красавік** Спроба смаленскага князя Святаслава Іванавіча адваяваць Мсціслаўль, дзе княжыць Карыгайла Альгердавіч. У бітве з аб'яднаным войскам Скіргайлы, Вітаўта і іншых літоўскіх князёў Святаслаў гіне, а яго сын Юрый атрымлівае Смаленск на ўмовах васальнай залежнасці ад Скіргайлы

**1387** Уладзіслаў II Ягайла аддае Скіргайлу Троцкае і Полацкае княствы з шэрагам валасцей у цэнтральнай і ўсходняй Беларусі, а Магілёўскую і Аболецкую воласці вызначае ў пасаг сваёй жонцы Ядвізе

**1387–1389** Хрышчэнне Літвы. Утварэнне Віленскага каталіцкага біскупства, тэрыторыя якога ахоплівала ўсю Беларусь, і пажалаванне яму першых маёнткаў. Заснаванне касцёлаў у Крэве і Абольцах

**1388, снежань** Вітаўт зноў парывае з Ягайлам і ад'язджае ў Прусію, адкуль распачынае барацьбу за ўладу над ВКЛ

**1389** Полацкае княства прызнае ўладу Вітаўта

**1390** Вітаўт з удзелам нямецкіх і іншых заходнееўрапейскіх рыцараў спрабуе захапіць Вільню, а дасланае Ягайлам войска выбівае гарнізоны Вітаўта з Берасця, Камянца і Ваўкавыйска

**1390, 15 жніўня** Наданне Берасцю самакіравання паводле магдэбургскага права як сродак забяспечыць лаяльнасць яго жыхароў да Ягайлы

**1391** Вітаўт уступае ў палітычны саюз з маскоўскім князем Васілём Дзмітрыевічам і выдае за яго сваю дачку Соф'ю

**Каля 1392** Ягайла аддае Мсціслаўскае княства свайму брату Лугвеню-Сямёну

**1392, 5 жніўня** Востраўскае пагадненне паміж каралём Уладзіславам II Ягайлам і Вітаўтам. Вітаўт становіцца пажыццёвым намеснікам Ягайлы ў ВКЛ. Фактычна гэта азначае перагляд умоў Крэўскай уніі і аднаўленне дзяржаўнага суверэнітэту ВКЛ

**1392–1430** Княжанне ў ВКЛ Вітаўта

**Пачатак 1393** Пасля смерці Ульяны, удавы Альгерда, яе малодшы сын Свідрыгайла захапіў Віцебск. Вітаўт здабывае горад з дапамогай Скіргайлы і смаленскага князя Глеба Святаславіча

**1393–1395** Вітаўт з падтрымкай Ягайлы часткова скасоўвае, часткова пераразмяркоўвае ўдзелы ў ВКЛ, падаўляючы супраціўленне ўдзельных князёў. З гэтага часу Полацкая і Віцебская землі падпарадкоўваюцца велікакняжацкім намеснікам

**1393, восень** Вітаўт вылучае ва ўдзел былому кіеўскаму князю Уладзіміру Альгердавічу Капыль і Слуцк. Кіеўскім князем становіцца Скіргайла

**Пасля 1393** Вітаўт дае Полацкай і Віцебскай землям прывілеі, у якіх вызначае прававыя адносіны мясцовых жыхароў з велікакняжацкай уладай і абавязваецца не прызначаць намеснікаў без іх згоды. Абодва прывілеі пацвярджаліся і дапаўняліся кожным новым вялікім князем да пачатку XVI ст.

**1395, студзень?** Смерць Скіргайлы. Кіеўскае княства ператвараецца ў намесніцтва

**1395, лета** Вітаўт заключае саюз з ханам Тахтамышам, выгнаным з Арды, аддае яму Лідскі замак і абяцае дапамагчы ў вяртанні ўлады. Пачатак асядання татарскіх выхадцаў на Беларусі

**1395, верасень** Далучэнне Смаленскага княства да ВКЛ і наданне яму статуса намесніцтва

**1398, 12 кастрычніка** Заключэнне Салінскага (Залінвердэнскага) дагавора, паводле якога Вітаўт саступіў Тэўтонскаму ордэну Жамойць і палову Судавіі ў замен за адмову ад падтрымкі прэтэнзій Свідрыгайлы на вялікакняжацкі пасад. Неафіцыйна ордэн абавязаўся падтрымліваць імкненне Вітаўта да поўнага аддзялення ВКЛ ад Польшчы

**1399, 17 ліпеня** Смерць Ядвігі, каралевы Польшчы і жонкі Уладзіслава II Ягайлы

**1399, 12 жніўня** Паражэнне войска Вітаўта і Тахтамыша ў бітве з ханам Залатой Арды Цімур-Кутлукам на рацэ Ворскла. Сярод іншых князёў загінулі Міхаіл Яўнуцевіч Жаслаўскі і былы полацкі князь Андрэй Альгердавіч

**Канец XIV ст.** Першыя згадкі пра адданне маёнткаў на Беларусі літоўскім князям і панам. Князь Альгімонт Гальшанскі атрымлівае Глускую і Дубровіцкую воласці на Палессі

**Канец XIV ст.** Будаўніцтва ў Навагародку мураванага замка

**Канец XIV – пачатак XV ст.** Будаўніцтва ў Горадне мураванага замка на Верхнім горадзе (цяпер Стары замак)

**1400, 26 ліпеня** Уладзіслаў II Ягайла аднаўляе Кракаўскі універсітэт (пазней вядомы як Ягелонскі), які неўзабаве становіцца асноўным месцам, дзе ўраджэнцы ВКЛ атрымлівалі вышэйшую адукацыю

**1401, 18 студзеня** Вітаўт і яго набліжаныя зацвярджаюць новыя ўмовы уніі з Польшчай, паводле якіх Вітаўт афіцыйна набывае тытул вялікага князя, але пад суверэнітэтам Уладзіслава II Ягайлы. У выпадку яго смерці ўлада ў ВКЛ павінна адысці да Ягайлы ці яго нашчадкаў

**Пачатак XV ст.** Геральдычнае афармленне асноўных рыс „Пагоні“, якую Уладзіслаў II Ягайла ўжывае на сваіх пячатках побач з польскім арлом у якасці герба ВКЛ

**1401–1404** Часовае адпадзенне Смаленскага княства ад ВКЛ пад уладай Юрыя Святаславіча

**1402–1415** Пропаведзі Яна Гуса на чэшскай мове даюць пачатак рэфармацыйнаму руху ў Чэхіі

**1404** Вітаўт замацоўвае Кобрынскае княства ў якасці вотчыны Рамана, сына Фёдара Альгердавіча, і яго нашчадкаў. Пачатак галіны князёў Кобрынскіх (існавала да 1490)

**1404, чэрвень** Вітаўт аднаўляе кантроль над Смаленскам

**1406–1408** Вайна паміж Вітаўтам і маскоўскім князем Васілём Дзмітрыевічам за памежныя Вяземскае, Адоеўскае, Навасільскае княствы

**1407** Часовае прымірэнне Вітаўта са Свідрыгайлам і вылучэнне ва ўдзел яму Северскай зямлі і Бранска

**1408, ліпень** Свідрыгайла з групай князёў ад'язджае ў Маскоўскае княства і аднаўляе свае прэтэнзіі на ўладу ў ВКЛ

**1409, восень** Чарговая спроба прымірэння Вітаўта са Свідрыгайлам канчаецца затачэннем Свідрыгайлы ў Крамянецкім замку на Падоллі

**1409–1411** Вялікая вайна Польшчы і ВКЛ супраць Тэўтонскага ордэна

**1410, 15 ліпеня** Перамога аб'яднанага войска Польшчы і ВКЛ над Тэўтонскім ордэнам пры Грунвальдзе

**1411, 1 лютага** Мірнае пагадненне ў Торуні, паводле якога Тэўтонскі ордэн адмаўляецца ад прэтэнзій на Жамойць і яцвяжскія землі на перыяд жыцця Вітаўта і Ягайлы

**1413** Вітаўт дазваляе прапаведаваць у ВКЛ Гераніму Пражскаму, аднаму з ідэолагаў гусіцкага руху

**1413, 2 кастрычніка** Заключэнне ў замку Гарадло на Валыні новых умоў уніі ВКЛ з Польшчай (Гарадзельская унія). Знаць ВКЛ абавязваецца не абіраць вялікага князя пасля смерці Вітаўта без згоды Польшчы, затое ёй пацвярджаецца права ўдзельнічаць у выбарах польскага караля. Адначасова 47 літоўскіх паноў атрымліваюць гербы ад адпаведнай калькасці польскіх родаў. Вітаўт пацвярджае выключнае права католікаў займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады ў ВКЛ

**1416** Канстанцкі сабор выносіць смяротны прыгавор Яну Гусу, а таксама ўпаўнаважвае віленскага біскупа Пятра распаўсюджваць каталіцкую веру сярод русінаў

**1416, 15 лістапада** Спроба аднаўлення Вітаўтам Літоўскай праваслаўнай мітраполіі з цэнтрам у Кіеве. Сабор у складзе полацкага, тураўскага, уладзімірскага, луцкага і чарнігаўскага епіскапаў з парушэннем кананічных правіл абірае мітрапалітам балгарына Грыгорыя Цамблака. Нягледзячы на адлучэнне канстанцінопальскім патрыярхам, у ВКЛ Грыгорый лічыўся законным мітрапалітам да сваёй смерці (каля 1420)

**1418, сакавік** Князь Дашка Фёдаравіч Астрожскі вызваляе Свідрыгайлу з затачэння

**1419** Новае прымірэнне Вітаўта са Свідрыгайлам, які атрымлівае Чарнігаў (з Гомейскай воласцю), Ноўгарад-Северскі і Бранск і застаецца на гэтых удзелах да канца жыцця Вітаўта

**1419–1434** Гусіцкія войны ў Чэхіі, у час якіх адным з кіраўнікоў гусітаў і прэтэндэнтам на чэшскую карону выступае (да 1431) пляменнік Ягайлы Жыгімонт Карыбутавіч

**1422, 7 лютага** Шлюб больш чым 70-гадовага Уладзіслава II Ягайлы з князёўнай Соф'яй Гальшанскай, якая выхоўвалася ў доме свайго дзядзькі па маці, князя Сямёна Друцкага. Ад гэтага шлюбу ў раней бяздзетнага Ягайлы нарадзіліся два сыны, якія падалі пачатак дынастыі Ягелонаў

**1422, 27 верасня** Заключэнне Мельнскага міру Польшчы і ВКЛ з Тэўтонскім ордэнам канчаткова замацоўвае ў складзе ВКЛ Жамойць і стабілізуе паўночна-заходнюю мяжу дзяржавы

**1427** Замацаванне ўлады Вітаўта над большасцю княстваў у вярхоўях Акі. Максімальнае пашырэнне тэрыторыі ВКЛ на ўсходзе

**Канец 1420-х гг.** Ствараецца „Летапісец вялікіх князёў літоўскіх", які зафіксаваў вусныя ўспаміны і паданні пра палітычную гісторыю ВКЛ ад смерці Гедзіміна да канца XIV ст., у тым ліку аповесць пра барацьбу Кейстута і Вітаўта з Ягайлам. Твор паслужыў асновай для летапіснага зводу 1446 і для пашыранага зводу 1530-х гг.

**1430, верасень** Няўдалая спроба каранацыі Вітаўта ў Луцку

**1430, 23 кастрычніка** Смерць Вітаўта. Улада ў ВКЛ пераходзіць да Свідрыгайлы

**1431–1432** Свідрыгайла ўводзіць у сваю раду шэраг праваслаўных князёў і баяр, што парушае абвешчанае Гарадзельскай уніяй выключнае права католікаў на вышэйшыя дзяржаўныя пасады

**1432, 1 верасня** Літоўскія паны зваргаюць Свідрыгайлу і абіраюць вялікім князем Жыгімонта Кейстутавіча. Свідрыгайла атрымлівае падтрымку Полацкай, Смаленскай, Кіеўскай зямель і абвяшчае сябе вялікім князем рускім

**1432, 15 кастрычніка** Жыгімонт аднаўляе дзяржаўную унію ВКЛ з Польшчай

**1432–1438** Міжусобная вайна прыхільнікаў Жыгімонта і Свідрыгайлы

**1432, 8 снежня** Бітва паміж войскамі Свідрыгайлы і Жыгімонта каля Ашмены завяршаецца перамогай Жыгімонта

**1433** Войска Свідрыгайлы спаліла Крэва, Жаслаўль, Менск

**1434, 6 мая** Жыгімонт, імкнучыся забяспечыць лаяльнасць праваслаўнай знаці, надае ёй маёмасныя і асабістыя правы, роўныя правам католікаў, за выключэннем права займаць вышэйшыя дзяржаўныя пасады

**1434, 1 чэрвеня** Смерць Уладзіслава II Ягайлы. Каралём Польшчы абіраецца яго 9-гадовы сын Уладзіслаў

**1435, восень** Паражэнне Свідрыгайлы пад Вількамірам 1 верасня прыводзіць да пераломы ў вайне. Уладу Жыгімонта прызнае Смаленская зямля. Безвыніковая аблога сынам Жыгімонта Міхаілам Віцебска

**1436, лета** Полацк і Віцебск прызнаюць уладу Жыгімонта

**1436** У ВКЛ упершыню ўводзіцца інквізіцыя для праследавання гусіцкаму руху

**1437** Кіеў заняты войскам Жыгімонта. Пад уладай Свідрыгайлы застаюцца Валынь і Падолле

**1439** Свідрыгайла пакідае Валынь і ад'язджае ў Малдову. Жыгімонт устанаўлівае кантроль над усёй тэрыторыяй ВКЛ

**Каля 1439** Жыгімонт пазбаўляе вотчын Юрыя Лугвенавіча Мсціслаўскага і Алельку Уладзіміравіча Капыльскага і кідае іх у затачэнне

**1439, 5 ліпеня** Абвяшчэнне на Фларэнційскім саборы уніі паміж каталіцкай і праваслаўнай царквамі, якая не атрымала шырокай падтрымкі, у тым ліку і ў ВКЛ

**Раней 1440** З Арды з'язджае хан Уч-Гірэй, якому Жыгімонт вылучае ва ўдзел Ліду

**1440, 14 красавіка** Забойства Жыгімонта Кейстутавіча літоўскімі панамі Лялюшам і Доўгірдам і князем Аляксандрам Чартарыйскім. Вестка аб гэтым выклікае мяцеж у Смаленскай зямлі

**1440, 29 чэрвеня** Абранне вялікім князем літоўскім Казіміра, 12-гадовага сына Уладзіслава II Ягайлы

**1440** Казімір вяртае Капыль Алельку Уладзіміравічу, а яго брату Андрэю, відаць, аддае Лагожаск. Мсціслаўскае княства вернута Юрыю Лугвенавічу, але той прымае запрашэнне мяцежных смалян стаць іх князем

**1440, восень** Аднаўленне ўлады ВКЛ над Смаленскам. Юрый Лугвенавіч уцякае ў Ноўгарад

**1440-я гг.** Пачатак масавай раздачы маёнткаў на тэрыторыі Беларусі ў прыватную ўласнасць феадалам выклікае ўтварэнне дзяржаўнага рэестра наданняў, які пазней афармляецца ў першую кнігу т. зв. Літоўскай метрыкі – дзяржаўнага архіва ВКЛ. Пачатак дзяржаўнага справаводства на старабеларускай мове

**1442** Свідрыгайла вяртаецца ў ВКЛ і зноў уладкоўваецца на Валыні (у 1447 прызнаў сябе васалам Казіміра)

**1442** Ад Залатой Арды канчаткова адпадае Крымскі улус, дзе ўладкоўваецца стаўленік ВКЛ Уч-Гірэй

**1443** Крым і прычарнаморскія стэпы захоплівае Хаджы-Гірэй. Утвараецца Крымскае ханства на чале з дынастыяй Гірэяў

**1444, 10 лістапада** У бітве з туркамі гіне кароль Польшчы і Венгрыі Уладзіслаў III

**1445** Абмен нападамі войскаў ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага на памежжы Вяземскага, Мажайскага і Казельскага княстваў

**1445** Казімір вылучае ва ўдзел сыну Жыгімонта Кейстутавіча Міхаілу Клечаск і Койданава, а таксама частку Падляшша і Бранск са Старадубам

**1447, 2 мая** Выданне прывілея Казіміра, які забяспечваў феадалам ВКЛ асабістую недатыкальнасць, судовы і падатковы імунітэт іх маёнткаў

**1447, 25 чэрвеня** Вялікі князь літоўскі Казімір Ягайлавіч адначасова становіцца каралём Польшчы пад імем Казіміра IV. Аднаўленне персанальнай уніі ВКЛ з Польшчай

**1447** Казімір IV вяртае Мсціслаўскае княства Юрыю Лугвенавічу

**1447** Вынаходнік кнігадрукавання Іаган Гутэнберг з дапамогай наборнага шрыфту пачынае ў горадзе Майнцы рэгулярны выпуск кніг. Радыкальны зрух у сродках перадачы інфармацыі

**1449** Мяцеж Міхаіла Жыгімонтавіча і спроба захапіць Кіеў прыводзяць да яго выгнання і канфіскацыі ўсіх уладанняў. Казімір IV аддае Кіеў Алельку Уладзіміравічу, пакідаючы за ім і Капыль са Слуцкам

**1449** Заключэнне „вечнага міру" паміж ВКЛ і Вялікім княствам Маскоўскім, які размежаваў сферы іх уплыву на Русі

**1452, 10 сакавіка** Смерць Свідрыгайлы. Валынская зямля ператворана ў намесніцтва. Удаве Свідрыгайлы Ганне Казімір IV аддае Гарадок Давыдаў

**1453, 29 мая** Узяцце Канстанцінопаля туркамі. Праваслаўны патрыярх трапляе ў залежнасць ад асманскага султана. Гэта спрыяе нараджэнню пры двары Васіля II Маскоўскага прэтэнзій на першынство Масквы ў праваслаўным свеце

**1454–1466** Казімір IV у якасці караля Польшчы вядзе т. зв. Трынаццацігадовую вайну з Тэўтонскім ордэнам, у якой ВКЛ не ўдзельнічае

**1454** Родзіч вялікага князя маскоўскага Іван Андрэевіч Мажайскі з'язджае ў ВКЛ. Казімір вылучае яму ва ўдзел Бранск, Старадуб і Гомей

**1455** Смерць Алелькі Уладзіміравіча. Капыль і Слуцк пераходзяць да яго сыноў Сямёна і Міхаіла ў якасці вотчыны, а Кіеўскае княства – на правах лена. Утварэнне галіны князёў Алелькавічаў (праіснавала да 1592)

**Другая палова 1450-х–1460-я гг.** Праваслаўны князь Сямён Алелькавіч выступае правадыром арыстакратычнай апазіцыі ў ВКЛ, прэтэндэнтам на велікакняжацкую пасаду. Апазіцыя карыстаецца падтрымкай вялікіх князёў маскоўскіх Васіля II і яго сына Івана III

**Пасля 1456** Казімір IV стварае ўдзел для ўцекача з Масквы Івана, сына бараўска-серпухаўскага князя Васіля Яраславіча, і аддае яму Клечаск, Гарадок Давыдаў і Рагачоў. Пачатак беларускай галіны князёў Яраславічаў (існавала да 1521)

**1457** Пасля смерці Андрэя Уладзіміравіча за яго нашчадкамі замацоўваецца толькі частка яго ўладанняў. Лагожаск пераходзіць да вялікага князя

**1458** Аднаўленне Кіеўскай (Літоўскай) мітраполіі з цэнтрам у Новагародку, на чале якой становіцца прыхільнік Фларэнційскай уніі Грыгорый Балгарын

**1459** Мітраполія ў Маскве афіцыйна пачынае называцца Маскоўскай, а не Кіеўскай, што адлюстроўвае новыя амбіцыі Вялікага княства Маскоўскага

**1460** Казімір IV амніцыруе аднаго з забойцаў Жыгімонта Кейстутавіча, князя Аляксандра Чартарыйскага, і аддае яму Лагожаск. Утварэнне лагожскай галіны Чартарыйскіх (праіснавала да 1524)

**1461, 21 верасня** Смерць каралевы-маці Соф'і Гальшанскай, якая мела значны ўплыў на палітыку Казіміра IV

**1462–1505** Праўленне ў Вялікім княстве Маскоўскім Івана III Васільевіча (фактычна кіраваў ад імя сляпога бацькі з 1447). Ажаніўшыся ў 1472 з прадстаўніцай візантыйскай дынастыі Палеалогаў, ён прымае ідэю духоўнага і палітычнага першынства Масквы („Масква – трэці Рым“) і пачынае барацьбу за яе рэалізацыю

**1466, 19 кастрычніка** Заканчэнне вайны Польшчы з Тэўтонскім ордэнам. Паводле Таруńскага мірнага дагавора ордэн пераходзіць у васальную залежнасць ад караля Польшчы

**Каля 1468** У Чэхіі выходзіць першая друкаваная кніга на славянскай мове – чэшскі пераклад „Траянскай хронікі“

**1468, 29 лютага** Выданне Судзебніка Казіміра IV – зборніка юрыдычных норм ВКЛ на старабеларускай мове, які дзейнічаў на беларускіх землях да 1528

**1469** Літоўскі мітрапаліт Грыгорый Балгарын расчароўваецца ў ідэі уніі і звяртаецца да канстанцінопальскага патрыярха з просьбай зацвердзіць яго ў сане

**1470, 3 снежня** Смерць Сямёна Алелькавіча. Вялікі князь не пацвярджае Кіеўскае княства яго нашчадкам і ператварае яго ў намесніцтва. Роля правадыра арыстакратычнай апазіцыі пераходзіць да Міхаіла Алелькавіча, які ў сакавіку 1471 вяртаецца з княжання ў Вялікім Ноўгарадзе

**1471, 22 красавіка** Казімір IV аддае ўдаве Сямёна Алелькавіча Марыі з роду Гаштаўтаў і іх сыну Васілю Пінскае княства, а Капыль і Слуцк замацоўвае за Міхаілам Алелькавічам і яго нашчадкамі

**1471** Старэйшы сын Казіміра IV Уладзіслаў (1456–1516) абраны каралём Чэхіі

**1471–1478** Маскоўская дзяржава падпарадкоўвае Вялікі Ноўгарад

**1472** Патрыярх зацвярджае Грыгорыя Балгарына ў сане мітрапаліта Кіеўскага, што завяршае царкоўны падзел Русі на дзве мітраполіі: Кіеўскую (на тэрыторыі ВКЛ) і Маскоўскую

**1475** Турцыя захоплівае генуэзскія калоніі на паўднёвым беразе Крыма. Крымскае ханства становіцца васалам Асманскай імперыі

**1475** Саюз ВКЛ з ханам Вялікай Арды Ахметам выклікае абурэнне крымскага хана Менглі-Гірэя. З гэтага часу пачынаюцца напады крымскіх татар на землі ВКЛ

**1478** Іван III Маскоўскі выказвае прэтэнзіі на „рускую“ частку ВКЛ, у тым ліку на Полацк і Віцебск, парушаючы тым самым прынцыпы „вечнага міру“ 1449

**1480, лета–восень** Казімір IV абяцае ваенную падтрымку хану Ахмету ў паходзе на Маскву, але не аказвае яе. У выніку „стаяння на Угры“ Маскоўская дзяржава канчаткова пазбаўляецца залежнасці ад Арды

**1481, красавік** Выкрыццё змовы праваслаўных князёў Міхаіла Алелькавіча, Івана Гальшанскага, Фёдара Бельскага супраць Казіміра IV. Князі Алелькавіч і Гальшанскі пакараны смерцю ў Вільні 30 жніўня 1481, Бельскі з'ехаў у Маскву

**1484** Казімір IV стварае ўдзел для ўцекача з Масквы князя Міхаіла Васільевіча Вярэйскага, аддае яму Койданава і шэраг іншых маёнткаў

**1485** Масква далучае Цвярскае княства. Апошні цвярскі князь Міхаіл Барысавіч з'язджае ў ВКЛ і атрымлівае маёнткі ў Слонімскім павеце

**1486–1487** Маскоўскія войскі пачынаюць напады на памежныя землі ВКЛ

**1490** Чэшскі кароль Уладзіслаў, сын Казіміра IV, становіцца і каралём Венгрыі. Уладанні дынастыі Ягелонаў ахопліваюць большасць Цэнтральнай Еўропы

**1491** Кракаўскі мешчанін нямецкага паходжання Швайпольт Фіёль друкуе ў Кракаве першыя кнігі, набраныя кірылічным шрыфтам – „Октаіх“ і „Часаслоў“

**1492, 7 чэрвеня** Смерць Казіміра Ягайлавіча. Каралём Польшчы становіцца яго другі сын Ян Альбрэхт (1457–1502). Знаць ВКЛ абірае вялікім князем трэцяга сына, Аляксандра (1461–1506), парушаючы тым самым персанальную унію з Польшчай

**1492, 6 жніўня** У Вільні абвешчаны прывілей Аляксандра, які сістэматызуе прынцыпы дзяржаўнага і грамадскага ладу і правы пануючага саслоўя

**1486–1494** Вайна Вялікага княства Маскоўскага з ВКЛ за памежныя землі, у выніку якой ВКЛ страчвае Вязьму, Варатынск, Адоеў

**1495, 15 лютага** Шлюб вялікага князя Аляксандра з Аленай (1476–1513), дачкой Івана III Маскоўскага, замацоўвае часовае прымірэнне з Масквой

**1496, 21 сакавіка** Горадна атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1497** Набег крымскіх татар дасягае Мазырскай воласці

**1498** Вялікі князь Аляксандр дазваляе князю Міхаілу Іванавічу Жаславускаму ажаніцца з дачкой памерлага князя Івана Юр'евіча Мсціслаўскага і перадае яму Мсціслаўскае княства

**1498, 7 кастрычніка** Полацк атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1499, 14 сакавіка** Менск атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1500–1506** Імклівае ўзвышэнне новага фаварыта Аляксандра князя Міхаіла Глінскага выклікае абурэнне старой літоўскай знаці

**1500** Аднаўленне вайны Вялікага княства Маскоўскага з ВКЛ. На бок Івана III пераходзяць удзельныя князі Сямён Іванавіч Мажайскі, Сямён Іванавіч Бельскі, Васіль Іванавіч Шамячыч. Войска ВКЛ разбіта на рацэ Вядрошы, што прыводзіць да страты кантролю ВКЛ над часткай Смаленскай і ўсёй Чарнігава-Северскай зямлёй, уключаючы Гомей

**1500** Набег крымскіх татар дасягае Берасцейскага павета. З гэтага часу іх напады на паўднёвыя землі Беларусі становіцца амаль штогадовымі

**1501** Смерць пінскай княгіні Марыі, удавы Сямёна Алелькавіча, якая перажыла свайго сына Васіля. Пінскае княства перадаецца яе зяцю Фёдару, сыну клецкага і давыд-гарадоцкага князя Івана Васільевіча Яраславіча

**1501** Вялікі князь Аляксандр аддае сваёй жонцы Алене Браслаў, Магілёў і іншыя маёнткі на Беларусі

**1501, 23 кастрычніка** Пасля смерці Яна Альбрэхта вялікі князь Аляксандр становіцца і каралём Польшчы. Персанальная унія Польшчы з ВКЛ аднаўляецца. Пры гэтым абвяшчаецца, што ў далейшым агульны манарх будзе абірацца на аб'яднаным сойме прадстаўнікоў дзвюх дзяржаў

**1502** Маскоўскае войска спаліла Оршу

**1503** Ваўкавыйск атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1503, 2 красавіка** Заключана перамір'е з Вялікім княствам Маскоўскім, паводле якога ВКЛ саступае ёй вялікую частку сваёй тэрыторыі, у тым ліку Гомей і памежныя воласці Полацкай зямлі

**1504** У Кракаўскі універсітэт на факультэт вольных мастацтваў паступае Францыск Скарына з Полацка – будучы беларускі першадрукар

**1505** Асабліва буйны татарскі набег спусташае значную частку Беларусі. Спалены частка Менска, Лагожаск і іншыя паселішчы, выведзена да 100 тыс. палонных, якія прададзены на нявольнічым рынку ў Кафе (Феадосіі)

**1506, 5 жніўня** Разгром татар каля Клецка войскам ВКЛ на чале з Міхаілам Глінскім

**1506, 19 верасня** Смерць Аляксандра. Каралём польскім і вялікім князем літоўскім становіцца яго малодшы брат Жыгімонт

**1506–1548** Праўленне ў ВКЛ і Польшчы Жыгімонта I Старога

**1506, 7 снежня** Жыгімонт I Стары выдае ў Горадне свой першы прывілей, якім апрача іншага гарантуе падданым права падаваць скаргі на дзеянні дзяржаўнай адміністрацыі

**1507, люты** Віленскі сойм прымае рашэнне аб вяртанні ўсіх зямель, страчаных на карысць Масквы. Аднаўленне вайны з Вялікім княствам Маскоўскім

**1508, студзень–жнівень** Мяцеж князя Міхаіла Глінскага, якому аказвае дапамогу маскоўскае войска

**1508, 19 верасня** Дагавор аб „вечным міры“ з Вялікім княствам Маскоўскім паводле якога ВКЛ адмаўляецца ад прэтэнзій на страчаныя землі і дазваляе Міхаілу Глінскаму і яго прыхільнікам выехаць у Маскву

**1510** Чарговы татарскі набег дасягае ваколіц Вільні

**1511** Выдатны палкаводзец, праваслаўны князь Канстанцін Астрожскі насуперак Гарадзельскаму прывілею прызначаецца віленскім кашталянам, што выклікае незадаволенасць старой літоўскай знаці

**1511, 26 ліпеня** Новагародак атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1512, 9 лістапада** Універсітэт Падуі (Італія) прысуджае Францыску Скарыне ступень доктара медыцыны

**1512–1522** Вайна Вялікага княства Маскоўскага з ВКЛ і Польшчай, у выніку якой ВКЛ страціла Смаленск (заняты 31 ліпеня 1514). На баку Масквы дзейнічае Крымскае ханства

**1514, 8 верасня** Перамога аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім пад Оршай, якая спыніла рух маскоўскага войска ў глыб ВКЛ і прадухіліла стварэнне дыпламатычнага саюза Вялікага княства Маскоўскага з імператарам Свяшчэннай Рымскай імперыі Максіміліянам Габсбургам

**1515, вясна** Маскоўскае войска спаліла Браслаў і Друю

**1517, 6 жніўня** Францыск Скарына ў Празе выдае сваю першую друкаваную кнігу – Псалтыр, пасля чаго на працягу двух гадоў друкуе яшчэ 19 кніг Бібліі ва ўласным перакладзе і са сваімі прадмовамі

**1517, 31 кастрычніка** Марцін Лютэр, манах-францысканец і выкладчык універсітэта ў Вітэнбергу (Саксонія) абнародаваў свае тэзісы з крытыкай каталіцкай царквы. Пачатак Рэфармацыі ў Еўропе

**1518, 18 красавіка** Шлюб Жыгімонта I Старога з Бонай Сфорца, дачкой міланскага герцага. Новая каралева спрыяе пашырэнню пры каралеўскім і вялікакняжацкім дварах заходнееўрапейскіх звычаяў і духу Рэнесанса

**1518, 1519** Глыбокія рэйды маскоўскага войска дасягаюць Слуцка, Менска, Новагародка, Крэва і Ашмены

**1519** Бяздзетны князь Фёдар Яраслáвіч завяшчае Пінскае, Клецкае і Давыд-Гарадоцкае княствы вялікаму князю Жыгімонту, які перадае права на іх сваёй жонцы Боне (канчаткова ўступіла ў валоданне пасля смерці Фёдара ў 1522)

**Каля 1520** Францыск Скарына пераносіць сваю дзейнасць на тэрыторыю ВКЛ – у Вільню, дзе ў 1522 выдае „Малую падарожную кніжку“

**1520–1522** У складзе пасольства ВКЛ да папы Льва X у Рым прыязджае натарый Мікола Гусоўскі, які піша там на лацінскай мове паэму „Песня пра постаць, дзікасць зубра і паляванне на яго“. Надрукаваная ў Кракаве ў 1523, паэма набывае папулярнасць і ўпершыню знаёміць еўрапейскага чытача з прыродай, жывёльным светам і паўсядзённым жыццём Беларусі

**1520-я** У асяроддзі віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштаўта ствараецца „Хроніка Вялікага княства Літоўскага і Жамойцкага“, якая пачынае род літоўскіх князёў ад легендарнага Палямона і змяшчае міфічныя звесткі пра іх заваёвы на Беларусі ў XIII стагоддзі. Твор, прызначаны ідэалагічна падмацаваць першынство этнічна літоўскай арыстакратыі, напісаны, тым не менш, на „рускай“ (старабеларускай) мове

**1520-я** Надворны маршалак ВКЛ Юрый Іллініч пачынае будаўніцтва Мірскага замка

**1521** У выніку татарскага нападу спалены Мазыр і Тураў, спустошаны ваколіцы Слуцка і Пінска

**1525** Скарына выдае ў Вільні апошнюю кнігу – Апостал. На гэтым яго выдавецкая дзейнасць спыняецца

**1525** Пераход апошняга магістра Тэўтонскага ордэна Альбрэхта Брандэнбурга ў лютэранства. Секулярызацыя ордэна, ператварэнне яго ў Прускае герцагства.

**1526, снежань** Татарскае войска, якое спустошыла наваколлі Турава, Пінска і Слуцка, на адваротным шляху разбіта пад Луцкам войскам ВКЛ на чале з Канстанцінам Астрожскім. Вызвалена каля 40 тыс. палонных

**1527** Князь Міхаіл Іванавіч Мсціслаўскі перадае сваё княства вялікаму князю Жыгімонту, які прызначае яго пажыццёвым намеснікам. Пасля смерці Міхаіла ў 1529 Мсціслаўскае княства канчаткова ператвараецца ў намесніцтва

**1528, 25 верасня** Прыняцце Першага Статута ВКЛ – грунтоўнага і сістэмнага збору заканадаўчых норм, выдатнага помніка юрыдычнай думкі агульнаеўрапейскага ўзроўню, напісанага на старабеларускай мове

**1529, кастрычнік** Сын Жыгімонта I Старога Жыгімонт II Аўгуст намінальна абвяшчаецца вялікім князем літоўскім (20 лютага 1530 каранаваны таксама польскай каронай)

**1530** Паспяхова адбіты апошні татарскі напад, які дасягнуў тэрыторыі Беларусі

**1530** Стварэнне Філіпам Меланхтонам „Аўсбургскага вызнання" і „Апалогіі" завяршае ідэйнае афармленне лютэранскай плыні Рэфармацыі

**1530-я гг.** Стварэнне арыгінальнага летапіснага зводу ВКЛ на старабеларускай мове, які пазней атрымаў назву „Хроніка Быхаўца". Ананімны стваральнік зводу шырока скарыстаў успаміны і гістарычныя паданні, што бытавалі ў асяроддзі літоўскіх арыстакратаў – паноў Гаштаўтаў, Радзівілаў, князёў Гальшанскіх і інш., захаваўшы іх для нашчадкаў

**1530-я гг.** Хваля скаргаў дзяржаўных сялян на ўзмацненне эксплуатацыі з боку намеснікаў. Сяляне спасылаюцца на прынцып „старыны", а вярхоўная ўлада звычайна задавальняе іх іскі

**1532, 20 студзеня** Слонім атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1532, 7 сакавіка** Дзяржаўныя сяляне Бабруйскай воласці выйграюць іск супраць першага магната ў дзяржаве – віленскага ваяводы Альбрэхта Гаштаўта, што з'яўляецца сведчаннем дзейснасці Гарадзенскага прывілея 1506

**1532** Жыгімонт I Стары пашырае ўдзел сваёй жонкі Боны, аддаючы ёй Кобрынскую воласць

**1534–1537** Пасля смерці вялікага князя маскоўскага Васіля III ВКЛ аднаўляе вайну, у выніку якой адваёўвае Гомей (заняты 16 ліпеня 1535), але страчвае Себеж

**1536–1564** Жан Кальвін узначальвае пратэстанцкі рух у Жэневе і стварае некалькі версій „Настаўлення ў хрысціянскай веры", закладаючы новую плынь Рэфармацыі – кальвінізм

**1539** Абрахам Кульва засноўвае ў Вільні першую лютэранскую школу, якая праіснавала да 1542

**1544** Жыгімонт I Стары перадае свайму сыну Жыгімонту II Аўгусту кіраванне бягучымі справамі ВКЛ. Жыгімонт II Аўгуст пад уплывам маці ўводзіць пры віленскім двары стыль італьянскага Рэнесансу

**1544** На факультэт вольных мастацтваў Кракаўскага універсітэта паступае Сымон Будны – будучы дзеяч Рэфармацыі на Беларусі

**1544, 17 жніўня** У Каралеўцы (Кёнігсбергу) адкрываецца пратэстанцкі універсітэт („акадэмія"), заснаваны прускім герцагам Альбрэхтам. З 24 заснаваных стыпендый 7 прызначаецца для ўраджэнцаў ВКЛ, што дазваляе атрымаць адукацыю многім школярам з Беларусі

**1540-я, другая палова** Змяненне стаўлення дзяржаўнай адміністрацыі да скаргаў дзяржаўных сялян. Іх абавязваюць выконваць павіннасці ў павялічаным аб'ёме і забараняюць самім выбіраць вясковых стараст, скасоўваючы тым самым прынцып „старыны"

**1547, 26 студзеня** Вянчанне на царства 13-гадовага вялікага князя маскоўскага Івана IV Васільевіча (пазней атрымае празванне Іван Грозны). Вялікае княства Маскоўскае пачынае называцца Рускім царствам

**1547, 28 ліпеня** Патаемны шлюб Жыгімонта II Аўгуста з Барбарай Радзівіл, удавой Станіслава Гаштаўта, спрыяе высоўванню рода Радзівілаў на першае месца сярод магнатаў ВКЛ

**1547** Першыя спробы падзелу зямлі на валокі ў дзяржаўных маёнтках Гарадзенскага і Ваўкавыйскага паветаў

**1547** Марцін Мажвід выдае ў Прусіі пераклад лютэранскага Катэхізіса на літоўскую мову

**1548, 1 красавіка** Смерць Жыгімонта I Старога. Жыгімонт II Аўгуст пачынае аднаасобнае праўленне. Абвяшчэнне Барбары каралевай Польшчы выклікае абурэнне польскай арыстакратыі і каралевы-маці Боны, у сувязі з чым яе каранацыя адбываецца толькі ў снежні 1550

**1549** Аўстрыйскі дыпламат Сігізмунд Герберштэйн выдае ў Вене на лацінскай мове „Запіскі аб маскоўскіх справах", у якіх апісвае два свае падарожжы праз Беларусь у час пасольстваў у Маскву ў 1517 і 1526 гг. Шырокае кола еўрапейскіх чытачоў упершыню атрымала даволі падрабязныя гісторыка-этнаграфічныя звесткі пра тэрыторыю Беларусі

**Раней 1550** Літоўскі шляхціц, які выступае пад псеўданімам Міхалон Літвін, стварае рукапісны трактат „Аб норавах татар, літоўцаў і масквіцян", у якім крытыкуе заганы дзяржаўнай палітыкі і паўсядзённага жыцця ВКЛ

**1550-я** Пашырэнне Рэфармацыі ў ВКЛ, пераход у кальвінізм прадстаўнікоў шэрагу магнацкіх родаў, у тым ліку віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Чорнага, троцкага ваяводы Мікалая Радзівіла Рудога і дворнага маршалка Астафія Валовіча

**1551** Распрацоўка адмысловай інструкцыі („уставы") для правядзення валочнай памеры ў Клецкім і Пінскім удзелах каралевы-маці Боны

**1551, 8 мая** Смерць каралевы Барбары

**1553** Вучоны-гуманіст Бярнард Ваявудка пры падтрымцы Мікалая Радзівіла Чорнага засноўвае ў Берасці першую на тэрыторыі Беларусі друкарню, якая праіснавала каля года і выдала некалькі кальвінісцкіх твораў на польскай і лацінскай мовах

**1556** Ад'езд каралевы-маці Боны ў Італію. Усе яе маёнткі пераходзяць да Жыгімонта II Аўгуста

**1557, 1 красавіка** Зацвярджэнне Жыгімонтам II Аўгустам „Уставы на валокі", на падставе якой адбываецца аграрная рэформа ў дзяржаўных маёнтках ВКЛ і якая служыць узорам для аналагічных пераўтварэнняў у царкоўных і прыватных маёнтках

**1557** Утварэнне кальвінісцкага Сінода – вышэйшага органа рэфармаванай царквы ў ВКЛ

**1558, студзень** Рускае царства пачынае ваенныя дзеянні супраць Лівонскага ордэна. Пачатак Лівонскай (Інфлянцкай) вайны

**1558** Станіслаў Мурмелі аднаўляе берасцейскую друкарню, у якой на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага ў 1563 друкуе польскамоўную Біблію з пратэстанцкімі каментарыямі

**1559** Крэва атрымлівае права на самакіраванне

**1559, 31 жніўня** Паводле Віленскага дагавора Лівонскі ордэн аддаецца пад пратэктарат ВКЛ. Уступленне ВКЛ у Інфлянцкую вайну

**1560, 21 сакавіка** Гомей атрымаў пэўныя рысы самакіравання, пячатку і герб

**1561, 28 лістапада** Скасаванне Лівонскага ордэна і ўтварэнне на частцы яго тэрыторыі Задзвінскага княства, якое пераходзіць у васальную залежнасць ад вялікага князя літоўскага

**1562** Рускае царства пераносіць вайну за Інфлянты на тэрыторыю ВКЛ

**1562** Мацей Кавячынскі і Лаўрэнцій Крышкоўскі засноўваюць у Нясвіжскім маёнтку Мікалая Радзівіла Чорнага друкарню, у якой Сымон Будны выдае на старабеларускай мове кальвінісцкі Катэхізіс са сваёй прадмовай і трактат „Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам"

**1563, люты** Аблога і ўзяцце Полацка войскамі Івана IV

**1563, 7 чэрвеня** На Віленскім сойме прымаецца прывілей, які канчаткова ўраўноўвае ў правах праваслаўных і пратэстантаў з каталікамі

**1564, 26 студзеня** Перамога войска ВКЛ у бітве на рацэ Ула спыняе далейшы рух маскоўскага войска. Пад кантролем Масквы застаецца, аднак, большая частка Полацкай зямлі

**1564, 1 сакавіка** Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец друкуюць у Маскве першую датаваную кнігу на тэрыторыі Рускага царства – Апостал. У 1566 абодва вымушаны пакінуць Маскву і пераехаць у ВКЛ

**1564, 1 ліпеня** Сойм ухваляе новую рэдакцыю Статута ВКЛ, якая з-за спрэчак па працэдурных пытаннях цалкам уведзена ў дзеянне ў 1566 (Статут 1566). Статут прадугледжвае новую сістэму падзелу ВКЛ на ваяводствы і паветы, скасаванне асобага статуса апошніх удзельных княстваў, судовую і іншыя рэформы. Фактычна новы адміністрацыйны падзел быў уведзены на працягу 1565–1566 гг.

**1564** Завяршэнне дзейнасці Трыдэнцкага сабора (працаваў з перапынкамі з 1545), які абвясціў шэраг змен у каталіцкай царкве і зацвердзіў „Трыдэнцкае спавяданне". Пачатак контррэфармацыі

**1565, 29 мая** Смерць Мікалая Радзівіла Чорнага, найбольш уплывовага прыхільніка Рэфармацыі ў ВКЛ

**1565, 20 верасня** Мястэчка Ваганаў Берасцейскага павета атрымлівае самакіраванне паводле магдэбургскага права

**1565, снежань** На пасяджэнні пратэстанцкага Сінода ў мястэчку Іўе, што належала ўдаве Станіслава Кішкі Ганне (сястры Мікалая Радзівіла Чорнага), праяўляецца найбольш радыкальная плынь Рэфармацыі антытрынітарызм (арыянства)

**1566–1567** Маскоўцы будуюць на полацкіх землях шэраг абарончых замкаў

**1568** У маёнтку Заблудаў гетмана Рыгора Хадкевіча (зараз на тэрыторыі Польшчы) пачынае дзейнічаць друкарня, заснаваная былымі маскоўскімі першадрукарамі Іванам Фёдаравым і Пятром Мсціслаўцам

**1568, жнівень** Войска ВКЛ на чале з польным гетманам Раманам Сангушкам узяло замак Ула

**1569, 10 студзеня** У Любліне (Польшча) пачаўся агульны сойм Польшчы і ВКЛ, які павінен быў выпрацаваць умовы іх аб'яднання з мэтай больш эфектыўнага процідзеяння Рускаму царству ў Інфлянцкай вайне

**1569, 20 студзеня** Жыгімонт II Аўгуст зацвярджае прывілей аб наданні магдэбургскага права мястэчку Дзісна Полацкага ваяводства

**1569, 5 сакавіка** Жыгімонт II Аўгуст зацвярджае рашэнне дэлегатаў Падляшскага ваяводства аб уключэнні Падляшша ў склад Польскага каралеўства

**1569, 26 красавіка** Кароль зацвярджае рашэнне дэлегатаў Валынскай зямлі аб далучэнні да Польшчы (пацверджана соймам 26 мая)

**1569, 1 чэрвеня** За ўключэнне ў склад Каралеўства Польшча выказваюцца дэлегаты Падольскага ваяводства

**1569, 5 чэрвеня** Рашэнне аб далучэнні да Польшчы прымаюць і дэлегаты Кіеўскага ваяводства, за выключэннем Мазырскага павета

**1569, 1 ліпеня** Дэлегаты астатніх ваяводстваў ВКЛ пагаджаюцца на аб'яднанне з Польшчай на ўмовах федэратыўнай дзяржавы, пры захаванні ў ВКЛ асобнага скарбу, заканадаўства і вайсковай структуры. Сойм прымае акт Люблінскай уніі, паводле якога новая дзяржава атрымлівае назву Рэч Паспалітая абодвух народаў (скарочана – Рэч Паспалітая)

## ПЕРШАБЫТНАЕ ГРАМАДСТВА

Першапачатковае пранікненне людзей на тэрыторыю Беларусі адбылося ў перыяд палеаліту. Мяркуецца, што самымі ранніміі насельнікамі нашай краіны былі неандэртальцы — тып палеаантрапаў, якія жылі на зямлі ад 100 да 40—35 тыс. гадоў назад. Зонай іх распаўсюджання быў поўдзень Беларусі, дзе знойдзена некалькі крамянёвых прылад архаічнага выгляду (недалёка ад вёсак Бердыж, Абідавічы, Свяцілавічы). 40—35 тыс. гадоў назад на гістарычнай сцэне з'яўляюцца людзі сучаснага антрапалагічнага тыпу. Пачынаецца позні этап палеаліту, які закончыўся каля 10 тыс. гадоў назад. Існаванне познапалеалітычных насельнікаў тэрыторыі нашай краіны адбывалася ва ўмовах ледавіковай эпохі (перыяд паазерскага зледзянення). У прыледавіковай зоне, ва ўмовах тундры і халодных стэпаў 26—23 тыс. гадоў назад узніклі першыя паселішчы тагачасных людзей. Сляды іх знойдзены каля вёсак Юравічы на Прыпяці і бліз Падлужжа (Бердыж) на Пасожжы. Насельнікі Юравіцкай і Бердыжскай стаянак мелі вялікі набор крамянёвых прылад працы, вялі паляванне на мамантаў, валасатых насарогаў, паўночных аленяў, мядзведзяў, зуброў, коней і іншых жывёл. Жытламі ім служылі пабудовы авальнай альбо круглай канструкцыі, каркас якіх складаўся з буйных касцей маманта і накрываўся шкурамі.

Адступанне апошняга ледавіка з тэрыторыі Беларусі пачалося каля 15 тыс. гадоў назад. Паступова знікаюць многія жывёлы ледавіковай эпохі — маманты, валасатыя насарогі і інш., змяняецца расліннае покрыва. У перыяд фінальнага палеаліту (прыблізна 14—10 тыс. гадоў назад) асноўным аб'ектам палявання становяцца паўночныя алені. У межы Беларусі з поўдня і паўднёвага захаду пранікаюць многія групы паляўнічых, якія ў якасці галоўнай зброі выкарыстоўвалі лук і стрэлы. Для сваіх кароткачасовых стаянак людзі выбіралі сухія пагоркавыя месцы на карэнных берагах і тэрасах буйнейшых рэк — Дняпра, Нёмана, Прыпяці. На Падняпроўе прасоўваюцца групы насельніцтва грэнскай культуры (ранні, фінальна-палеалітычны яе этап), а на Нёмане і Верхняй Прыпяці адзначаюцца стаянкі лінгбійскай культуры. Паўднёвы захад і захад Беларусі засялялі таксама носьбіты свідэрскай культуры (ранні этап). Асобныя элементы іх культурнай традыцыі знойдзены таксама на Падняпроўі. У фінальна-палеалітычны час незаселеным заставалася Падзвінне.

Сярэдні каменны век (мезаліт) датуецца 9—5-м тысячагоддзямі да н.э. З адступаннем ледавіка на тэрыторыі Беларусі пачалі з'яўляцца лясныя масівы з характэрнай для іх фаунай. Гідраграфічная сетка паступова набліжаецца да сучаснага выгляду. Са зменай прыроднага асяроддзя змяніўся лад жыцця старажытных людзей: набылі вялікае значэнне рыбалоўства, збіральніцтва, пачалі асвойвацца новыя формы і тыпы палявання. Колькасць насельніцтва ў межах Беларусі павялічваецца, пра што сведчыць параўнальна вялікая колькасць знойдзеных паселішчаў (больш за 120). Рухомыя абшчыны паляўнічых, выкарыстоўваючы лук і стрэлы, чаўны асвойваюць буйныя рэкі і азёры Беларусі. Для стаянак найчасцей выбіраліся ўчасткі рачных тэрас, карэнных берагоў, пясчаныя ўзвышшы на поймах рэк і азёр. Вялікае значэнне пры гэтым надавалася такому фактару, як блізкасць выхадаў якаснага крэменю. Часам ля такіх месцаў узнікалі часовыя паселішчы-майстэрні.

Адрозненні ў характары асноўных груп артэфактаў дазваляюць вылучыць некалькі асноўных мезалітычных культур, носьбіты якіх засялялі тэрыторыю Беларусі. На раннім этапе мезаліту (9—6-е тысячагоддзі да н. э.) у Падняпроўі, а таксама на ўсходзе Падзвіння жыло насельніцтва, што прытрымлівалася традыцый грэнскай культуры (позні этап культуры — 8—6 тысячагоддзі да н. э.). Для перыяду позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.) на Беларускім Падняпроўі, а таксама ва Усходнім Палессі адзначаюцца помнікі бутаўскай, кудлаеўскай, яніславіцкай культур, на Беларускім Паазер'і — сляды трох стаянак культуры Кунда, асноўная колькасць помнікаў якой выяўлена ва Усходняй Прыбалтыцы. Беларускае Панямонне, а таксама асобныя раёны Заходняга Палесся ў мезалітычны перыяд засялялі групы людзей, культура якіх фарміравалася на познасвідэрскіх, а таксама некаторых іншых традыцыях. Тут распаўсюджваюцца крамянёвыя вырабы, характэрныя для каморніцкай, яніславіцкай культур, а таксама культуры Кунда.

Неаліт пачаўся на тэрыторыі Беларусі ў 5-м тысячагоддзі да н. э. Жыхары неалітычных паселішчаў ужо ўмелі выраблялць керамічны посуд, пачалі асвойваць новыя віды гаспадарання — земляробства і жывёлагадоўлю, выкарыстоўваць некаторыя новыя тэхнічныя прыёмы апрацоўкі крэменю. Грамадскаму прагрэсу спрыялі кліматычныя ўмовы атлантычнага перыяду (5800—3000 гадоў да н. э.). Усталяваўся ільготны і аптымальны па цеплыні клімат, што выклікала актыўны рост шыракалістых лясоў. Толькі ў канцы неаліту наступіў суббарэальны кліматычны перыяд (3000—700 гадоў да н. э.), на працягу якога адбываліся частыя змены клімату, у тым ліку і ў бок пахаладання.

На тэрыторыі Беларусі адкрыта больш за 650 помнікаў неалітычнага перыяду. Асаблівасці тых ці іншых культурных традыцый дазваляюць вылучыць асобныя неалітычныя культуры і тыпы помнікаў у межах рэгіёнаў краіны.

У 5-м тысячагоддзі да н. э. уздоўж Дняпра на Кіеўшчыне, Чаркашчыне і Палтаўшчыне, на верхнім цячэнні Северскага Данца, а таксама на Ніжняй Прыпяці ўзніклі раннія паселішчы днепра-данецкай культуры. Пазней у першай палове 4-га тысячагоддзя да н. э. характэрныя для яе культурныя традыцыі пашыраюцца не толькі ў басейне Ніжняй Прыпяці, але і на Верхнім Падняпроўі, Пасожжы. Познія групы насельніцтва на ўсходзе Палесся працягвалі сваё існаванне ва ўмовах неалітычнай культуры нават да пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. Жыхары неалітычных паселішчаў будавалі пераважна наземныя жытлы авальнай канструкцыі, у якіх рабіліся агнішчы, часам выкладзеныя камянямі.

У выніку развіцця познамезалітычных культурных традыцый на Падняпроўі ў канцы 5-га тысячагоддзя да н. э. пачала фарміравацца верхнедняпроўская культура. Носьбіты гэтай неалітычнай культуры выраблялі вастрадонныя, шыракагорлыя і акруглабокія гаршкі, багата аздаблялі іх адбіткамі грэбеня, ямкамі, насечкамі, нарэзкамі, лапчастымі элементамі. Яны будавалі заглыбленыя ў зямлю жытлы авальнай альбо круглай формы. У цэнтры, у паглыбленні падлогі размяшчаліся агнішчы, побач знаходзіліся ямы гаспадарчага прызначэння. Сваё значэнне верхнедняпроўская неалітычная культура захоўвала да 3-га тысячагоддзя да н. э.

Ранні неаліт у басейнах Верхняга Нёмана, Верхняй і Сярэдняй Прыпяці пачынаецца ў 5-м тысячагоддзі да н. э. адначасова са з'яўленнем тут комплексаў прыпяцка-нёманскай культуры (дубічайскі этап). У пачатку 4-га тысячагоддзя да н. э. на Верхнім Панямонні, а таксама у басейне Верхняй Прыпяці на мысападобных выступах рачных тэрас, на пясчаных узвышэннях паплавоў рэк узнікаюць помнікі ўласна нёманскай культуры, у развіцці якой вылучаецца лысагорскі і дабраборскі этапы. Істотныя змены ў развіцці нёманскай культуры адбываліся ў сувязі з пранікненнем цэнтральнаеўрапейскіх груп насельніцтва культур лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар, шнуравой керамікі. Асобныя элементы нёманскай культуры дажылі да 2-га тысячагоддзя да н. э.

У 4-м тысячагоддзі да н.э. Падзвінне, Нарачанскія азёры, верхняе цячэнне Віліі былі заселены носьбітамі нарвенскай неалітычнай культуры. Некаторыя яе элементы пранікі ў басейн Бярэзіны. Асноўны масіў помнікаў нарвенскай культуры выяўлены на тэрыторыі Латвіі і Эстоніі. Вельмі часта прадстаўнікі гэтай культуры сяліліся на берагах азёр, асабліва ў месцах упадзення ў азёрныя вадаёмы невялікіх рачулак. Ад пачатку да трэцяй чвэрці 3-га тысячагоддзя да н. э. традыцыі нарвенскай культуры змяняюцца на Падзвінні ўсвяцкай культурай. У час яе існавання, пасля звільгатнення клімату і пад'ёму вады ў азёрах, многія паселішчы сталіся затопленымі і затарфянелымі. Група тарфянікавых паселішчаў з матэрыяламі ўсвяцкай культуры знойдзена на Крывінскім тарфяніку (Бешанковіцкі раён Віцебскай вобласці). У культурных пластах Крывінскіх стаянак параўнальна добра захаваліся касцяныя і рагавыя вырабы: наканечнікі стрэл розных тыпаў, кінжалы, сякеры і цёслы, рыбацкія кручкі і гарпуны, рагавыя матыкі і інш. Мясцовае насельніцтва жыло ў пабудовах з двухсхільным дахам, са сценамі з вертыкальна ўбітых калоў. На пясчанай падсыпцы размяшчалася агнішча.

У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. з Усходняй Прыбалтыкі на поўнач Беларусі пранікаюць асобныя групы насельніцтва з тыповай грабеньчата-ямкавай керамікай. Вялікае значэнне ў іх гаспадарцы належала паляванню і асабліва рыбалоўству. Прыхадні ў хуткім часе былі асіміляваны мясцовым насельніцтвам.

У другой палове 4-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. асабліва істотнае значэнне ў жыцці неалітычных супольнасцей Палесся і Панямоння пачынаюць набываць прышлыя культурныя традыцыі. У другой палове 4-га — пачатку 3-га тысячагоддзя да н. э. сюды з паўднёвага захаду і поўдня распаўсюджваюцца традыцыі культуры лейкападобных кубкаў. Асобныя яе элементы засвойваюцца мясцовым насельніцтвам днепра-данецкай і нёманскай культур. У тэты час ва Усходняе Палессе ў культурнае асяроддзе тутэйшых груп неалітычнага насельніцтва трапляюць некаторыя рысы трыпольскай культуры.

Адна з асаблівасцей гаспадарчай дзейнасці носьбітаў культуры лейкападобных кубкаў і Трыполля — скіраванасць на экстэнсіўнае земляробства і на развядзенне свойскіх жывёл. Засвойванне мясцовым насельніцтвам згаданых традыцый спрыяла развіццю вытворчай гаспадаркі і пашырала магчымасці для наладжвання больш цесных культурных сувязей з цэнтральнаеўрапейскім неалітычным светам.

Пачынаючы з канца першай паловы 3-га тысячагоддзя да н. э. з Павіслення, а таксама, магчыма, з Валыні ў межы Беларусі рассяляюцца носьбіты культуры шарападобных амфар. Многія даследчыкі мяркуюць, што на тэрыторыі нашай краіны культура шарападобных амфар з'явілася ў выніку перыядычных перасяленняў параўнальна невялікіх груп яе носьбітаў. На рацэ Рось, побач з сучасным пасёлкам Краснасельскі (Ваўкавыскі раён Гродзенскай вобласці), там, дзе блізка да паверхні зямлі ў мелавых адкладах залягаў высакаякасны крэмень, узнік адмысловы анклаў адной такой групы насельніцтва. Прыхадні наладжваюць шахтавую здабычу крэменю, першасная апрацоўка якога рабілася там жа ў шахтах і побач з імі. Каля Краснасельскага знойдзены могільнік культуры шарападобных амфар. У адной з магіл былі пахаваны дзевяць быкоў, дзве авечкі або казы, часткі свінні і каня. У іншым пахаванні знайшлі напаўабпаленыя чалавечыя косці, керамічную амфару.

Носьбіты культуры шарападобных амфар жылі на кароткачасовых паселішчах, вялі здабычу крэменю, а ў прыбалтыйскіх раёнах займаліся здабычай і апрацоўкай бурштыну. У структуры іх гаспадарчай дзейнасці вялікае месца належала жывёлагадоўлі і земляробству. Паводле вынікаў даследавання помнікаў культуры шарападобных амфар на суседніх тэрыторыях вядома, што яе прадстаўнікі жылі рэгіянальнымі групамі, у якія ўваходзілі 3—5 родавых калектываў. Група займала пэўны мікрарэгіён, права на які замацоўваліся заснаваннем аднаго альбо некалькіх могільнікаў.

Традыцыі іх культуры прасочваюцца не толькі на Беларускім Панямонні, але і ў басейне Прыпяці, Дняпра. У мясцовым культурным кантэксце з'яўляюцца характэрныя для іх арнаментальныя матывы, формы керамічных пасудзін, крамянёвыя сякеры і долаты прамавугольнага сячэння.

Пярэдаднем новага паваротнага этапа ў гістарычным лёсе тагачаснага грамадства становяцца падзеі, звязаныя з распаўсюджаннем і засвойваннем мясцовым насельніцтвам традыцый культуры шнуравой керамікі. У канчатковым выніку гэта прывяло да перабудовы асноўных грамадскіх структур, складвання новага ладу жыцця і фарміравання новай эпохі — бронзавага веку (ад канца 3-га — пачатку 2-га тысячагоддзя да 800 — 600 гадоў да н.э.).

Большасць даследчыкаў у якасці самага ранняга гарызонту культуры шнуравой керамікі вылучаюць комплекс старажытнасцей, у першую чаргу пахавальных, якія знойдзены на тэрыторыі цэнтральна-ўсходняй Германіі, Чэхіі, Польшчы, уздоўж берагоў Балтыйскага і Паўночнага мораў. Самыя раннія пахаванні і паселішчы культуры шнуравой керамікі адносяцца да 3000—2900 гадоў да н. э. У сярэдзіне — другой палове 3-га тысячагоддзя да н. э., у перыяд свайго максімальнага распаўсюджання элементы, характэрныя для культуры шнуравой керамікі, адзначаюцца на вялікіх прасторах: ад берагоў Рэйна да Паўднёвай Скандынавіі, Усходняй Прыбалтыкі, Паволжа і Сярэдняга Падняпроўя.

У асноўны рэчавы комплекс культуры шнуравой керамікі звычайна ўключаюць: аздобленыя шнурам альбо іншым арнаментам кубкі, амфары, гаршкі, каменныя свідраваныя і крамянёвыя сякеры, нажы, некаторыя тыпы ўпрыгожанняў. Са з'яўленнем культуры шнуравой керамікі пачынае пашырацца курганны звычай пахавання, назіраецца індывідуалізацыя бескурганных пахаванняў.

Дагэтуль даследчыкі еўрапейскай дагісторыі не прыйшлі да адзінага меркавання з нагоды механізма распаўсюджвання на вялікіх прасторах Еўропы згаданага культурнага феномена. Многія атаясамляюць працэс з міграцыяй мабільных груп людзей, маючы на ўвазе найперш рассяленне старажытных індаеўрапейцаў. Іншыя, наадварот, прыходзяць да высноў пра аўтахтоннае ўзнікненне розных лакальных груп і культур, у структурах якіх на пэўным этапе пачынаюць мець вялікае значэнне элементы, характэрныя для комплексу культуры шнуравой керамікі. Прыхільнікі гэтай канцэпцыі сцвярджаюць, што ў адпаведных рэгіёнах Еўропы ўзніклі новыя сацыяльна-эканамічныя ўмовы, якія і прывялі да ўспрыняцця ідэй пэўнага тыпу і характэрнага ладу жыцця.

На тэрыторыі Беларусі ўзнікненне комплексаў, характэрных для культуры шнуравой керамікі, напэўна, мела месца бліжэй да сярэдзіны 3-га тысячагоддзя да н. э. Распаўсюджанне „шнуравых" традыцый магло адбыцца як ў выніку інфільтрацыі невялікіх груп мігрантаў, так і ў працэсе абмену ідэямі і доўгатэрміновых культурных кантактаў, што ўсталяваліся на прасторах ад Одэра да Верхняга, Сярэдняга Падняпроўя і Верхняга Паволжа. Сінтэз прынесеных і засвоеных традыцый культуры шнуравой керамікі, культуры шарападобных амфар і некаторых іншых знешніх элементаў, з аднаго боку, і аўтахтонных неалітычных культурных рыс, з другога — прывялі да ўзнікнення культурных комплексаў, якія ў археалагічнай літаратуры называюцца: сярэднедняпроўская культура, паўночнабеларуская культура, група палескай шнуравой керамікі, групы шнуравой керамікі Беларускага Панямоння.

У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Усходняй і Паўднёва-Усходняй Беларусі склалася адмысловая культурная сістэма, якая атрымала назву сярэднедняпроўскай культуры. Аснову яе складалі традыцыі культуры шнуравой керамікі, мясцовых неалітычных культур, культуры шарападобных амфар, а таксама асобныя элементы культур стэпавай і лесастэпавай зон. Менавіта ў сярэднедняпроўскай культуры ў самым канцы 3-га—пачатку 2-га тысячагоддзяў да н. э. на паўднёвым усходзе Беларусі з'яўляюцца першыя вырабы з медзі і бронзы. Гэта дазваляе меркаваць пра ўступленне супольнасцей паўднёва-ўсходніх тэрыторый у пачатковы перыяд бронзавага веку.

Носьбіты сярэднедняпроўскай культуры размяшчалі свае пабудовы на пясчаных дзюнах рачных і азёрных поймаў, на ўскрайках тэрас. Яны ўзводзілі наземныя слупавыя пабудовы, а таксама жылі ў паўзямлянкавых жытлах. Гаспадарка іх засноўвалася на сезонным выпасе свойскіх жывёл у далінах рэк і на ўскрайках рачных тэрас. Мяркуючы па рэштках ахвярных жывёл, якія знойдзены ў пахаваннях, носьбіты гэтай культуры разводзілі буйную і дробную рагатую жывёлу, свіней і коней. У сістэме гаспадарчых заняткаў пэўнае значэнне мела земляробства. Для вырошчвання раслін выкарыстоўваліся лёгкія і даступныя для апрацоўкі алювіяльныя глебы. Таксама маглі ачышчацца ад лясной расліннасці ўчасткі з дзярнова-падзолістай глебай на ўскрайках рачных тэрас.

У далінах рэк і на тэрасах размяшчаліся курганныя і грунтавыя могільнікі. Надзвычай вялікае значэнне пахавальным рытуалам надавалася ў асяроддзі тых груп насельніцтва, што жыло на Верхнім Падняпроўі. Пахавальныя дзеянні ўзводзіліся ў ранг запамінальных цырымоній, якія мелі параўнальна вялікае сацыяльнае і культавае значэнне. Месца пахавання абпальвалася агнём. На дно пахавальнай ямы ссыпаліся вуголле і попел, зрэдку чырвоная вохра, клалася падсцілка. Нябожчыка змяшчалі на дно ў скурчаным стане, часам на спіне. У некаторых выпадках памерлага спальвалі на пахавальным вогнішчы, у магілу ў такім разе апускалі толькі яго спаленыя рэшткі. Яма перакрывалася драўлянымі плахамі. Сустракаліся пахаванні, над ямамі якіх узводзіліся, а затым спальваліся слупавыя драўляныя збудаванні. Вакол пахаванняў капаўся кругавы равок, у які маглі ўбіваць слупы. Над магіламі насыпаўся курган, дыяметр яго мог дасягаць 10—15, альбо нават 20 м. Вялікая група такіх курганных пахаванняў знойдзена каля вёскі Ходасавічы (Рагачоўскі раён Гомельскай вобласці).

Акрамя курганоў даследавалася параўнальна вялікая колькасць бескурганных могільнікаў сярэднедняпроўскай культуры. У іх магло быць 94, 132 пахаванні. У грунтавых могільніках памерлых хавалі паводле абраду крэмацыі і інгумацыі. Некаторыя пахаванні і іх групы аддзяляліся ад астатніх кругавым раўком, у якім заўважаліся сляды ўкапаных слупоў. Над асобнымі магіламі ўзводзіліся драўляныя збудаванні, якія вельмі часта згаралі ў агні. Каля многіх пахаванняў, над імі знойдзены сляды памінальных вогнішчаў і пахавальных спадарожных дароў.

У пахаваннях знойдзена шмат рэчаў, сляды ахвярных жывёл, якімі суправаджаўся нябожчык. У склад пахавальнага інвентару многіх мужчынскіх пахаванняў уваходзіла зброя і імпартаваныя рэчы, у тым ліку бурштынавыя аздобы, металічныя прылады і ўпрыгожанні, вырабы з прывазной крамянёвай сыравіны, а таксама фаянсавыя і шкляныя пацеркі. Сярод насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры шырока распаўсюджваліся культы агню і сонца, у вераваннях знайшлі адлюстраванне ўяўленні пра сувязь зямнога і нябеснага жыцця, пашыраліся анімістычныя вераванні і культ продкаў.

Адмысловыя групы насельніцтва ў 3-м — пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. сфарміраваліся на тэрыторыі Заходняга Палесся і Беларускага Панямоння. Іх культурныя комплексы ўзніклі пры ўдзеле традыцый нёманскай неалітычнай культуры і культуры шарападобных амфар, культуры шнуравой керамікі. На Заходняе Палессе праз суседнюю Валынь пранікаюць некаторыя элементы цэнтральнаеўрапейскіх культур ранняга бронзавага веку. На Верхнім Панямонні адзначаецца вялікая колькасць рысаў, характэрных для культур Прыбалтыкі, Цэнтральнай Еўропы. Разам з тым і ў Заходнім Палессі, і на Панямонні сустракаюцца элементы, генетычныя вытокі якіх неабходна шукаць у сярэднедняпроўскай культуры. Некаторыя культурныя асаблівасці комплексаў са шнуравой керамікай у басейне Верхняга Нёмана дазваляюць вылучыць групы помнікаў тыпу Берліты—Русакова і Падгорная. Большасць першых з іх лакалізавалася на тэрыторыі Паўночна-Заходняга, Заходняга Панямоння. Помнікі падгорнаўскай групы размяшчаліся ў Паўднёва-Усходнім Панямонні. У раёне Краснасельскіх крамянёвых радовішчаў па-ранейшаму працягвалася шахтавая здабыча крэменю. У адной з шахт было знойдзена пахаванне старажытнага шахцёра з характэрным для культуры шнуравой керамікі посудам і касцяной іголкай.

Многімі адметнымі рысамі вылучалася паўночнабеларуская культура, якая існавала ў канцы 3-га — першай палове 2-га тысячагоддзя да н. э. на тэрыторыі Беларускага Паазер'я, поўдня сучаснай Пскоўшчыны і паўночнага захаду Смаленшчыны. Яна ўзнікла ў выніку сінтэзу традыцый усвяцкай і верхнедняпроўскай неалітычных культур, а таксама некаторых элементаў кола культуры шнуравой керамікі Прыбалтыкі і Верхняга Падняпроўя. Вялікая група паселішчаў паўночнабеларускай культуры даследавалася на Крывінскім тарфяніку. Людзі сяліліся на пясчаных берагах азёр, а таксама ля вусцяў невялікіх рэк. Іх паселішчы вельмі часта размяшчаліся на мяжы вады і берага альбо ўздоўж берагавой лініі возера. У такіх выпадках пабудовы ўзводзіліся на палях і былі злучаны з берагам драўлянымі памостамі. Жыхары паўночнабеларускіх паселішчаў будавалі жытлы з двухсхільнай страхой, падлогу высцілалі карой і засыпалі пяском.

З наступленнем на адным з этапаў першай паловы 2-га тысячагоддзя да н. э. больш вільготнага кліматычнага перыяду ўзровень вады ў азёрах істотна падняўся. Гэта прывяло да затаплення і знікнення многіх нізка размешчаных паселішчаў паўночнабеларускай культуры. У тарфяністых адкладах захаваліся многія арганічныя артэфакты, найперш вырабы з косці, кары, дрэва. У сваім побытавым жыцці людзі выкарыстоўвалі драўляны посуд, муфты для асаджвання сякер, прыстасаванні для разбівання арэхаў, рабілі з косці і рогу наканечнікі стрэл, кінжалы, кручкі, гарпуны, сякеры, цёслы, долаты, шылы, іголкі, лыжкі, інструменты для аздаблення керамікі і інш. Сярод знаходак сустракаюцца ўпрыгожанні з косці, бурштыну, касцяныя флейты, а таксама высокамастацкія статуэткі жывёл і птушак, драўляная выява чалавека.

На этапе 2000—1600 гадоў да н. э. на Ніжняй Прыпяці, уздоўж Дняпра і ў вусці Сажа у складзе мясцовых комплексаў з'явілася кераміка са шматвалікавым арнаментам. Такога тыпу посуд характэрны для насельніцтва культуры шматвалікавай керамікі (паводле іншай версіі, культурнага тыпу Бабіна). Паселішчы і могільнікі культуры шматвалікавай керамікі распаўсюджваліся галоўным чынам у лесастэпах і стэпах ад нізоўяў Дуная да Волгі. Месцазнаходжанні на Гомельскім Палессі, а таксама помнікі на Дзясне і на Валыні складаюць, бадай, найбольш паўночную і паўночна-заходнюю зону пашырэння старажытнасцей культуры шматвалікавай керамікі. Напэўна, гэта азначала чарговую хвалю пранікнення стэпавага культурнага кампанента ў межы Паўднёва-Усходняй Беларусі.

У другой чвэрці 2-га тысячагоддзя да н. э. разам са знікненнем культур структурная аснова якіх у той ці іншай ступені была пабудаваная на ўспрынятці і засваенні экзагенных традыцый (найперш кола культуры шнуравой керамікі), заканчваецца пачатковы перыяд эпохі бронзы на паўднёвым усходзе і позананеалітычны перыяд на іншых тэрыторыях Беларусі. Адначасова са з'яўленнем помнікаў тшцінецкага культурнага кола пачынаецца перыяд ранняга бронзавага веку. Самыя раннія тшцінецкія помнікі ўзнікаюць у 1900—1600-я гады да н. э. на прасторах ад Одэра да Дняпра і Дзясны. Усходняя частка тшцінецкай айкумены на тэрыторыі Украіны і Беларусі датуецца 1600—1000 гадамі да н. э. Да нядаўняга часу сістэма тшцінецкіх старажытнасцей разглядалася толькі з пункту гледжання культурна-гістарычнай альбо этнакультурнай супольнасці, якая складалася з асобных культур: тшцінецкай, камароўскай і сосніцкай. У 1990-я гады пачынае заваёўваць сваіх прыхільнікаў канцэпцыя тшцінецкага культурнага кола. У адпаведнасці з ёй адмысловая структура з рознай ступенню культурнай уніфікацыі сфарміравалася на мяжы дзвюх устойлівых сістэм — субнеалітычнай і ранняга перыяду бронзавага веку, а таксама на стыку Усходу і Захаду, якія разглядаюцца як два розныя культурна-пасяленчыя і гаспадарчыя рэгіёны. На памежжы Заходняй і Усходняй Еўропы ўзнікла рэгіянальная інтэграваная сістэма з адмысловым „тшцінецкім стылем жыцця". Характэрная для гэтага культурнага кола кераміка выяўлена галоўным чынам ў Беларускім Палессі, а таксама ў басейне Нёмана. Асобныя знаходкі сустракаюцца ў Цэнтральнай Беларусі і нават ў Беларускім Паазер'і, а таксама на Аршанска-Магілёўскай раўніне. Тшцінецкае насельніцтва карысталася адмысловым тыпам керамікі — высокімі гаршкамі цюльпанападобнай формы з патоўшчаным, скошаным вонкі венчыкам.

Носьбіты тшцінецкіх традыцый звычайна жылі ў невялікіх часовых паселішчах. Зрэдку сустракаюцца пасёлкі, якія налічвалі да 35 пабудоў, у тым ліку паўзямлянкавых, наземных жылых, гаспадарчых, культавых. Сярод пахавальных абрадаў, характэрных для тшцінецкага насельніцтва, панаваў звычай пахавання спаленых рэшткаў. Часам нябожчыка хавалі паводле абраду трупапалажэння. Звычайна гэта былі бескурганныя магілы. Як і ў больш старажытныя часы, жыхары тшцінецкіх паселішчаў апрацоўвалі крэмень, камень, рабілі крамянёвыя сярпы, трохвугольныя і чаранковыя наканечнікі стрэл, наканечнікі коп'яў і дроцікаў, каменныя сякеры і зерняцёркі, а таксама іншыя прыстасаванні і інструменты. Вельмі рэдка яны карысталіся бронзавымі вырабамі. Дагэтуль не ўдалося высветліць, ці валодала тшцінецкае насельніцтва тэрыторыі Беларусі сакрэтамі металургіі альбо карысталася толькі імпартаванымі рэчамі. Аснову гаспадарчай дзейнасці носьбітаў тшцінецкай культурнай традыцыі складала жывёлагадоўля. Толькі ў асобных раёнах з выключна ўрадлівымі глебамі, напрыклад ў нізоўях Гарыні, Цвігі і Стыры на Палессі, павялічвалася значэнне земляробства. Жывёлагадоўля была адгоннай, а паселішчы найчасцей сезоннымі. Статкі свойскіх жывёл адганялі вясной на выпас, дзе яны знаходзіліся да халадоў.

У заходніх раёнах тшцінецкай айкумены (ад басейна Одэра да Павіслення) у позні перыяд бронзавага веку ранейшыя нестабільныя структуры паступова трансфармаваліся ва ўстойлівыя сельскія паселішчы лужыцкай культуры. Земляробства было асноўнай крыніцай іх існавання. Далейшы лёс тшцінецкага насельніцтва на тэрыторыі Беларусі застаецца малавядомым. Накопленыя археалагічныя даныя па познім бронзавым веку (ад 1200—1000 да 800—600 гадоў да н. э.) дазваляюць меркаваць, што ў гэты час на Верхнім Падняпроўі і ва Усходнім Палессі распаўсюджваліся посттшцінецкія культурныя комплексы, што па сваіх асаблівасцях нагадваюць матэрыялы лебядоўскай культуры, асноўная група помнікаў якой размяшчалася паміж Дняпром і Дзясной. На тэрыторыі Беларусі пакуль знойдзены толькі сляды кароткачасовых паселішчаў позняга перыяду эпохі бронзы. Каля вёскі Прыбар (Гомельскі раён) вывучаўся курганны могільнік гэтага часу. Фрагменты крэміраваных касцей памерлага размяшчаліся на ўзроўні старажытнай паверхні ці ў невялікіх ямках. Разам са спаленымі рэшткамі пад курганамі знойдзены абломкі посуду, крамянёвыя вырабы, каменныя зерняцёркі.

На Панямонні, паводле меркавання асобных даследчыкаў, у позні перыяд эпохі бронзы існавалі паселішчы з ранняй штрыхаванай керамікай. Штрыхаваны посуд канца эпохі бронзы сустракаецца таксама на Беларускім Паазер'і. Напэўна, гэта можа сведчыць пра тое, што на паўночным захадзе Беларусі на познім этапе бронзавага веку пачынае фарміравацца культура штрыхаванай керамікі, асноўныя перыяды развіцця якой прыпадаюць на эпоху жалеза. На думку многіх спецыялістаў, культура штрыхаванай керамікі атаясамліваецца са старажытнымі балтамі. Да старажытнабалтыйскага этнасу мае адносіны днепра-дзвінская культура. Мяркуецца, што яна ўзнікла на мясцовай аснове. Раннія яе паселішчы вядомы на Віцебшчыне з 700—600 гадоў да н. э.

*М. Крывальцэвіч*



Наскальныя выявы жывёл




## СІСТЭМА КРАЯВЫХ УТВАРЭННЯЎ І МЕСЦАЗНАХОДЖАННЯ КРАЮ ПААЗЕРСКАГА ЛЕДАВІКОВАГА ПОКРЫВА ПРЫ ЯГО ДЭГРАДАЦЫІ




Крамянёвыя прылады мусцьерскага тыпу




Паляўнічая зброя эпохі палеаліта



- Мяжа сожскага (маскоўскага) ледавіковага покрыва
- Мяжа паазерскага (валдайскага) ледавіковага покрыва
- Месцы знаходжання мусцьерскіх прылад працы 100 —35 тыс. гадоў назад
- (Позна-) верхнепалеалітычныя стаянкі паляўнічых на мамантаў

Палеалітычныя помнікі

- Юравічы (культурная прыналежнасць не вызначана). 26 470 ±420 гадоў назад
- Бердыж (вілендорфска-касцёнкаўская культура). 23 430 ±180 гадоў назад
- Месцазнаходжанні шматлікіх касцявых рэшткаў мамантаў
- Месцазнаходжанні рэшткаў насарога шарсцістага
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Заўвага. Рэшткі жывёл мамантавай фауны вядомыя ў 260 месцах на тэрыторыі Беларусі

# ФІНАЛЬНЫ ПАЛЕАЛІТ




РАСЛІННАСЦЬ У ПОЗНАЛЕДАВІКОВЫ ЧАС

- Хваёвае рэдкалессе з удзелам ксерафітных травяністых груповак
- Хвоёва-бярозавае рэдкалессе з удзелам стэпавай расліннасці
- Бярозавыя лясы
- Бярозава-хваёвыя лясы
- Яловыя і хваёвыя-бярозавыя лясы
- Змешаныя бярозава-хваёвыя лясы з дубам і вязам
- Хваёвыя лясы
- Лесастэпы
- (Позна-) верхнепалеалітычныя стаянкі паляўнічых на маманта

- Культура лінгбі 12000–11000 гадоў назад
- Красносельская (валкушанская) культура 10800–10300 гадоў назад
- Свідэрская культура 10800–10300 гадоў назад
- Грэнская культура 12000–1000 гадоў назад

Напрамкі пранікнення культур

- Лінгбі
- Свідэрская
- Грэнская
- Месцазнаходжанні шматлікіх касцявых рэштак паўночных аленяў
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Паляўнічая зброя эпохі фінальнага палеаліта



1:3 000 000




МЕЗАЛІТЫЧНЫЯ ПОМНІКІ

- Грэнская культура 10000–8000 гадоў назад
- Пясочнароўская культура 10000–8000 гадоў назад
- Культура Кунда 10000–7000 гадоў назад
- Бутаўская культура 9500–8000 гадоў назад
- Кудлаеўская культура 8000–7000 гадоў назад
- Каморніцкая культура 9000–8000 гадоў назад
- Яніславіцкая культура 8000–7000 гадоў назад

НАПРАМКІ ПРАНІКНЕННЯ КУЛЬТУР

- Пясочнароўская
- Кунда
- Бутаўская
- Кудлаеўская
- Каморніцкая
- Яніславіцкая

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь



Крамянёвыя наканечнікі стрэл мезалітычных культур



Касцяныя арнаментаваны наканечнік і гарпун

1:3 000 000

# МЕЗАЛІТЫЧНЫЯ КУЛЬТУРЫ Ў ЦЭНТРАЛЬНАЙ І УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ
## (8-е–5-е тысячагоддзі да н. э.)






Крамянёвыя прылады культуры Кунда



Касцяная зброя

**МЕЖЫ МЕЗАЛІТЫЧНЫХ КУЛЬТУР**

- Грэнская
- Існоўская
- Пясочнароўская
- Кунда
- Бутаўская
- Дзювензее
- Каморніцкая
- Кудлаеўская
- Маглемозе
- Кукрэк
- Валдайская
- Яніславіцкая
- Данецкая
- Тыпу Студзёнкі
- Грабенікаўская

Накірункі рассялення носьбітаў мікралітычнай традыцыі

Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

1:8 000 000



Крамянёвыя прылады яніслаўіцкай культуры



Рагавыя матыкі

НЕАЛІТЫЧНЫЯ КУЛЬТУРЫ Ў ЦЭНТРАЛЬНАЙ І УСХОДНЯЙ ЕЎРОПЕ (5-е–3-е тысячагоддзі да н. э.)




НЕАЛІТЫЧНЫЯ КУЛЬТУРЫ

- Нарвенская
- Нёманская
- Лінейна-стужкавай керамікі
- Буга-дністроўская
- Трыпольская
- Сурска-дняпроўская, сярэднястогаўская
- Днепра-данецкая
- Верхнедняпроўская
- Дзяснінская
- Верхняволжская
- Лейкападобных кубкаў
- Ямкава-грабеньчатай керамікі
- Валынская
- Шарападобных амфар
- Земляробаў басейна Дуная і Балканскага паўвострава
- Распаўсюджанне земляробства
- Напрамкі рассялення плямен з поўдня (стэпаў)
- Напрамкі рассялення плямен з паўночнага ўсходу
- Напрамкі рассялення плямен з захаду
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

1:8 000 000

# НОВЫ КАМЕННЫ ВЕК – НЕАЛІТ (5-е – пачатак 2-га тысячагоддзя да н. э.)







ТЫПЫ ПОЗНАНЕАЛІТЫЧНАГА ПОСУДУ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

**НЕАЛІТЫЧНЫЯ КУЛЬТУРЫ**

- Днепра-данецкая
- Верхнедняпроўская
- Нарвенская
- Лінейна-стужкавай керамікі
- Нёманская
- Дзяснінская
- Усвяцкая
- Лейкападобных кубкаў
- Шарападобных амфар
- Крэмнездабыўныя шахты
- Ямкава-грабенчатай керамікі
- Валынская
- Паселішчы, стаянкі
- Распаўсюджанне земляробства
- Напрамкі рассялення плямён з паўночнага ўсходу і поўначы
- Напрамкі рассялення плямён з захаду
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь



Шарападобная амфара



Касцяны амулет



Міфалагічны малюнак, выразаны на фрагменце касцянога вырабу



Выява качкі на посудзе ўсвяцкай культуры

1:3 000 000

Помнікі сярэднедняпроўскай культуры на беларускім Падняпроўі
- курганныя могільнікі
- бескурганныя могільнікі
- паселішчы і асобныя месцазнаходжанні

Помнікі прыпяцкага варыянта сярэднедняпроўскай культуры

Помнікі са шнуравой керамікай у Заходнім Палессі (палескай шнуравой керамікі)

Помнікі са шнуравой керамікай на беларускім Панямонні
- група помнікаў тыпу Берняты-Русакова
- група помнікаў падгорнаўскага тыпу
- пахаванні

Помнікі паўночнабеларускай культуры

Тэрыторыя распаўсюджання помнікаў сярэднедняпроўскай культуры

Тэрыторыя няпэўных межаў і змешвання культурных традыцый

Тэрыторыя распаўсюджання паўночна-беларускай культуры

Тэрыторыя няпэўных межаў

Месцазнаходжанні медных і бронзавых вырабаў

1:1 800 000



Каменная свідраваная сякера сярэднядняпроўскай культуры

Пахавальная керамічная пасудзіна сярэднядняпроўскай культуры

Рэканструкцыя касцюмаў насельніцтва сярэднедняпроўскай культуры

Амфара культуры шнуравой керамікі

Бурштынавая падвеска

## РАСПАЎСЮДЖАННЕ ФАЯНСАВЫХ ПАЦЕРАК у канцы 3-га – пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э.



- Месцазнаходжанні фаянсавых пацерак
- Могільнік сярэднедняпроўскай культуры Стралiца (Рудня Шлягіна), у адным з пахаванняў якога знойдзена фаянсавая пацерка

1:40 000 000

## ПАШЫРЭННЕ Ў ЕЎРОПЕ КОЛА КУЛЬТУР ШНУРАВОЙ КЕРАМІКІ



Тэрыторыя максімальнага пашырэння ў Еўропе кола культур шнуравой керамікі

1:40 000 000

## ШЛЯХІ РАСПАЎСЮДЖВАННЯ ПРЫБАЛТЫЙСКАГА БУРШТЫНУ

у 3-ім – пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. (паводле М. Гімбутас, з удакладненнем М. Крывальцэвіча)



- Асноўныя шляхі распаўсюджання
- Участкі шляхоў, якія праходзілі на тэрыторыі Беларусі
- Радовішчы прыбалтыйскага бурштыну

1:40 000 000

# СУПОЛЬНАСЦІ РАННЯГА І ПОЗНЯГА ПЕРЫЯДАЎ ЭПОХІ БРОНЗЫ




## РАСПАЎСЮДЖАННЕ ПОМНІКАЎ ТШЦІНЕЦКАГА КУЛЬТУРНАГА КОЛА Ў ЕЎРОПЕ






Бронзавая сякера.



Камянёвы серп



Гаршчок тшцінецкага культурнага кола

## ПОМНІКІ З ШМАТВАЛІКАВАЙ КЕРАМІКАЙ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ



# ГІДРОНІМЫ, ЗАПАЗЫЧАНЫЯ СЛАВЯНАМІ Ў СВАІХ ПАПЯРЭДНІКАЎ




Гідронімы

| | |
|---|---|
| Днепр | Старажытнейшыя агульнаіндаеўрапейскія, або праіндаеўрапейскія |
| Пропа | Фіна-угорскія |
| Струга | Старажытнаеўрапейскія |
| Лучоса | Балцкія |
| Айроў | Германскія |
| Рэкта | Кельцкія |
| Вася | Інда-іранскія |
| Ухлясць | Славянскія |

Тэрыторыі распаўсюджвання гідранімії

- Фіна-угорскіх супольнасцяў
- Інда-іранскай
- Волакі на рачных шляхах
- Арыя — Асабліва вызначальныя гідронімы
- Марыха — Іншамоўныя часткі гідронімаў, акрамя славянізму
- Сталіцы дзяржаў
- Цэнтры абласцей і ваяводстваў
- Іншыя населеныя пункты, якія існавалі ў XV ст. як гарады
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

Заўвага. На карце дадзены ў тым ліку подпісы рэк, якія не існуюць у цяперашні час, або не выяўляюцца ў маштабе



Возера Снуды



Рака Свіслач



Рака Прыпяць

1:1 700 000

## ПЕРЫФЕРЫЯ АНТЫЧНАЙ І РАННЕСЯРЭДНЕВЯКОВАЙ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

Гэты раздзел атласа ахоплівае перыяд ад пачатку на землях сучаснай Беларусі жалезнага веку да ўзнікнення класавага грамадства, альбо цывілізацыі. Перыяд ахоплівае крыху больш за 1500 гадоў — ад VII стагоддзя да н.э. да сярэдзіны VIII стагоддзя н.э. За гэты час у асноўным сфарміраваўся этнакультурны падмурак, на якім у далейшым адбываўся этнагенез беларусаў: склаліся этнічныя масівы славян і балтаў, падышла да завяршэння гісторыя тых народаў, што паслужылі субстратам для славянскага насельніцтва Беларусі. Карты дазваляюць прасачыць галоўныя рысы гэтых працэсаў, як яны ўяўляюцца на падставе пісьмовых паведамленняў, звестак археалогіі, лінгвістыкі і іншых дысцыплін.

У той час у Еўропе ўжо існавалі класічныя цывілізацыі — спярша антычныя грэчаская (элінская) і рымская, а затым раннесярэдневяковыя візантыйская і заходнееўрапейская. Тэрыторыя Беларусі не была непасрэдна ахоплена гэтымі цывілізацыямі, але пастаянна адчувала іх уплыў, утвараючы частку іх барбарскай перыферыі. „Барбарамі“ эліны і рымляне называлі сумежныя народы, якія не мелі атрыбутаў цывілізацыі — пісьменства і пісаных законаў, развітога дзяржаўнага апарату, гарадоў з культава-абарончым дойлідствам і інш. Але многія з такіх народаў стаялі на апошняй перадзяржаўнай прыступцы свайго развіцця, ад якога да сапраўднай дзяржавы заставаўся адзін крок. Яны ўжо мелі арыстакратыю і пануючыя дынастыі, ведалі рабаўладанне, таму іх палітычныя ўтварэнні можна лічыць протадзяржавамі.

Дзякуючы кантактам з барбарскай перыферыяй, антычныя цывілізацыі пакінулі шэраг пісьмовых звестак пра яе. Частка іх тычыцца і тэрыторыі Беларусі, пачынаючы такім чынам яе пісьмовую гісторыю. Але такія звесткі яшчэ вельмі ўрывачныя, і галоўная роля ў высвятленні падзей гэтага перыяду належыць археалогіі.

Пад жалезным векам археолагі разумеюць такі этап старажытнасці, калі была асвоена тэхналогія вырабу жалеза з руды. У параўнанні з металургіяй бронзы, яна была параўнальна простай і дазваляла ўпершыню наладзіць сапраўды масавую вытворчасць металічных рэчаў — перш за ўсё сельскагаспадарчых прылад і зброі. У прыродна-кліматычнай зоне змешаных лясоў, дзе знаходзіцца Беларусь, гэта было неабходнай умовай для трывалай сельскагаспадарчай вытворчасці і пераходу ад „дзікунства“ да „барбарства“ ў тым сэнсе, як яго разумелі антычныя аўтары.

Першая карта прысвечана часу, калі бліжэйшымі цывілізацыйнымі цэнтрамі былі грэчаскія калоніі ў Паўночным Прычарнамор'і. З іх і паходзяць звесткі пра скіфскую перыферыю, якія ў VI стагоддзі да н.э. сабраў і асэнсаваў „бацька“ антычнай гісторыі Герадот. Менавіта ў яго творы ўпершыню прыводзіцца апісанне зямель, якія ляжалі на поўнач ад прычарнаморскай протадзяржавы скіфаў. Праўда, звесткі гэтыя вельмі неакрэсленыя і дапускаюць розную інтэрпрэтацыю. Гісторыкі неаднаразова спрабавалі звязаць іх з матэрыяламі археалагічных даследаванняў. Практычна кожны прапаноўваў сваю версію, кожную з якіх пры сённяшнім стане нашых ведаў немагчыма ні пераканаўча абгрунтаваць, ні абвергнуць. У аснову карты пакладзена інтэрпрэтацыя, прапанаваная беларускім гісторыкам С. Рассадзіным (Рассадзін С. Я. Землі амаль невядомыя. Будучая Беларусь паводле антычных манускрыптаў. — Мінск: Полымя, 1996). Сутнасць яе зводзіцца да таго, што рассяленне некаторых народаў, вядомых Герадоту (неўраў, скіфаў-земляробаў і інш.), не можа быць дакладна суаднесена з арэаламі археалагічных культур, а прыпадае хутчэй на іх стыкі. Гэта можа тлумачыцца тым, што археалогія фіксуе матэрыяльныя рэчы, якія ў розных народаў могуць быць вельмі падобнымі дзякуючы ўплыву з боку больш цывілізаванага суседа. Менавіта такая „скіфская вуаль“ прасоўваецца далёка ў зону ўкраінскіх лесастэпаў. Абшар, закрануты ёй у меншай ступені, археалагічна вызначаецца як мілаградская культура. Больш-менш канкрэтныя звесткі Герадота тычацца толькі яе паўднёвай часткі. Як зваліся жыхары той яе часткі, што пашыралася на поўдзень Беларусі, — сказаць вельмі цяжка. Яшчэ далей на поўнач Герадот размяшчае паўміфічных „андрафагаў“. Напэўна, так у свядомасці элінаў адлюстравалася амаль невядомае ім насельніцтва культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, матэрыяльная культура якіх выглядае больш прымітыўнай у параўнанні з культурамі „скіфскага кола“. Пра іх мовы мала што вядома. Напэўна, з гэтых моў была пазней запазычана славянамі і балтамі большасць гідронімаў, пазначаных на папярэдняй карце.

Вадазбор Віслы не быў вядомы Герадоту, але іншыя антычныя аўтары (Гесіёд, Эсхіл, Эўрыпід, Нікандр) прыгадвалі міфалагічны сюжэт пра бурштынаносную раку Эрыдан, якая цьмяна асацыіравалася з краінай венетаў. Пазней, у рымскія часы, гэты сюжэт быў атаясамлены з ракой Пад (По) і землямі адрыятычных венетаў, пра што паведамляе Пліній Старэйшы ў сваёй „Натуральнай гісторыі“. Аднак радовішчаў бурштыну там няма, у той час як галоўнай яго крыніцай у антычныя часы было ўзбярэжжа Балтыкі (якую лічылі часткай Акіяна). Існуюць розныя тлумачэнні сувязі бурштыну з венетамі. Страбону ў пач. I стагоддзя н.э. была вядома версія аб тым, што адрыятычныя венеты з'яўляюцца каланістамі аднайменнага народу, які жыве недзе на ўзбярэжжы Акіяна. Венеты Адрыятыкі пазнаёмілі грэкаў з бурштынам, у сувязі з чым іх краіна пачала ўспрымацца як радзіма гэтага выкапню.

Наступная карта ахоплівае перыяд, калі пераемнасць насельніцтва Герадотавых часоў была парушана моцнымі міграцыйнымі рухамі. Пісьмовых сведчанняў гэтых працэсаў вельмі мала. Якраз у гэты час элiністычныя дзяржавы, што працягвалі лінію развіцця старажытнагрэчаскай цывілізацыі, паступова пагльіналіся маладой і ваяўнічай Рымскай дзяржавай. Рымляне не паспелі яшчэ стварыць адмысловай традыцыі адносна барбарскай перыферыі і часта механічна паўтаралі звесткі сваіх элінскіх папярэднікаў. Але яны зафіксавалі змены насельніцтва ў нізоўях Дуная і ў прычарнаморскіх стэпах. Сярод новых народаў, што пачынаюць згадвацца ў гэты час, не апошнюю ролю адыгрывалі бастарны. Першая згадка пра іх перасоўванне захавалася ў перадачы рымскага аўтара Пампея Трога і адносіцца прыблізна да 230 г. да н.э. Ужо каля 216 г. да н.э. бастарны фіксуюцца недзе ў нізоўях Дуная.

Удакладніць урывачныя звесткі дапамагае археалогія. Яна сведчыць, што на абшары паморскай і мілаградскай культур з'явілася новае насельніцтва, якое зведала ўплыў з боку кельтаў. Апошнія шырока рассяліліся па Еўропе і прасоўваліся ўздоўж Дуная на перыферыю элiністычных дзяржаў. Археолагі называюць культуру, што была створана ўласна кельтамі, латэнскай (ад помніка Ла Тэн у Францыі), а культуры, што зазналі яе ўплыў — латэнізаванымі. Гэтыя культуры ўтварыліся ў выніку хвалі паслядоўных міграцый, зыходным пунктам якіх была ўсходняя перыферыя ястрофскай (прагерманскай) культуры. Ва ўсіх іх прасочваецца ясторфскі кампанент, а адметнасці кожнай з іх надае яго спалучэнне з іншымі кампанентамі. Пры чым уклад уласна кельтаў уяўляецца археолагам мінімальным. Хутчэй гэта была „кельцкая вуаль“ — распаўсюджанне прэстыжных рэчаў, упрыгожанняў, зброі і пэўных светаўяўленняў новай эпохі, якія надалі гэтым культурам спецыфічны каларыт. Да гэтага культурнага кола належаць аксыўская, пшэворская, паянешты-лукашоўская культуры, а таксама зарубінецкая на тэрыторыі Беларусі. Даследчыкі прызнаюць у яе складзе ясторфскі кампанент, а таксама мілаградскі ў верхнедняпроўскай групе, познаскіфскі ў сярэднедняпроўскай і ўсходнепаморскі па ўсім арэале.

Вынік міграцыйных працэсаў фіксуецца ў „Геаграфіі“ Страбона. Асноўны масіў яго звестак адносіцца да I стагоддзя да н.э. У арэале пшэворскай культуры Страбон упершыню прыгадвае германскі народ лугіяў. Дамінуючым у ім несумненна быў ясторфскі кампанент, што не выключае і захаванне самасвядомасці паморскага кампанента. Рассяленне ж бастарнаў Страбон лакалізуе ад вусця Дуная (там ля вострава Пеўка жыло адно з бастарнскіх плямён — пеўкіны, магчымыя носьбіты паянешты-лукашоўскай культуры) да Барысфена-Дняпра, за якім да Танаіса-Дона знаходзіўся ўжо сармацкі народ раксаланаў. Апрача пеўкінаў Страбон называе дзве асноўныя групы бастарнаў „у глыбі мацерыка“: атмонаў і сідонаў. На карце адлюстравана магчымая інтэрпрэтацыя, паводле якой сідоны адпавядаюць сярэднедняпроўскаму варыянту зарубінецкай культуры, а атмоны — палескаму.

Да гэтых жа, а магчыма, і больш ранніх часоў адносяцца ўяўленні пра паўднёвае ўзбярэжжа Балтыкі, якія прыводзіць Пліній з ананімнай спасылкай: „некаторыя перадаюць“. Напэўна, ён меў на ўвазе шэраг грэчаскіх аўтараў IV—II стагоддзяў да н.э. (Гекатэя, Піфея, Цімея, Ксенафонта Лампсакскага). Важнасць гэтым звесткам надае тое, што яны ўпершыню выразна змяшчаюць у вадазборы ракі Віслы венедаў. Зафіксаваныя ў іх уяўленні адносяцца да часу існавання паморскай культуры і, такім чынам, непасрэдна звязваюць венедаў з яе арэалам. Калі ж адлюстравана больш позняя сітуацыя, яна сведчыць пра захаванне этноніма венедаў у арэале аксыўскай альбо пшэворскай культур, якія абедзве мелі несумненны паморскі кампанент.

Карта „Паўночна-ўсходняя перыферыя Рымскай цывілізацыі“ прысвечана часу, калі імперскі Рым трывала ўсталяваўся на паўднёвым беразе Дуная і нават скарыў ваяўнічую Дакію і ўяўленні рымлян пра сучасную Усходнюю Еўропу сталі больш выразнымі. Гэтаму перыяду адпавядаюць пісьмовыя звесткі, прыведзеныя Тацытам і Пталамеем. „Германія“ Тацыта была напісана ў 98 г. і адлюстроўвала сітуацыю, што склалася за некалькі дзесяцігоддзяў да таго. У творы выкарыстоўваліся, напэўна, рэляцыі рымскіх афіцэраў і чыноўнікаў, якія мелі непасрэдныя стасункі з германцамі і добра ведалі сітуацыю. Твор Пталамея „Кіраўніцтва па геаграфіі“, скончаны ў сярэдзіне II стагоддзя, больш складаны па паходжанні. Ён кампілятыўна спалучае найноўшыя звесткі з традыцыйнымі ў элiністычнай гістарыяграфіі, узыходзячымі ажно да часоў Герадота. Адназначна вылучыць розныя храналагічныя пласты ў гэтым тэксце праблематычна.

Археалогія дазваляе ўдакладніць пісьмовыя звесткі. Так, фіксуецца перасоўванне ў прычарнаморскія стэпы новай хвалі сармацкіх качэўнікаў, якая прынесла з сабой і новае імя — аланы. Сарматы першай хвалі, языгі і раксаланы, былі выцеснены на захад, у сучасныя Румынію і Венгрыю. Значныя разбурэнні, выкліканыя сармацкім нашэсцем, фіксуюцца і ў арэале зарубінецкай культуры. Ваеннае паражэнне ад аланаў, экалагічныя змены ці нейкія ўнутраныя супярэчнасці выклікалі яе глыбокую трансфармацыю — утварэнне позназарубінецкага культурнага гарызонта. Яна падзялялася на шэраг лакальных груп: тыпу Люцеж (вызначаецца пераемнасцю з сярэднедняпроўскім варыянтам), тыпу Почап (з удзелам сярэднедняпроўскага і юхнаўскага кампанентаў), тыпу Картамышава-Цярноўкі (таксама сярэднедняпроўскі і юхнаўскі кампаненты пры ўдзеле пшэворскага), тыпу Грыні (нашчадкі верхнедняпроўскага варыянта, з уплывам культуры штрыхаванай керамікі ці юхнаўскай). Палескі варыянт у гэты час знікае, а яго нашчадкі, напэўна, мігрыравалі ў арэал пшэворскай культуры, дзе ўтварылася некалькі змешаных пшэворска-зарубінецкіх груп.

Падобны крызіс меў месца і ў былым арэале паянешты-лукашоўскай культуры. Яе класічныя помнікі знікаюць ужо ў апошнія дзесяцігоддзі да н.э. На поўначы іх арэала ўтвараецца змешаная звенігародская група, якая спалучае рысы некалькіх культур. Паколькі этнонімы бастарнаў і пеўкінаў у гэты час захоўваюцца, можна меркаваць, што носьбіты палескага варыянта зарубінцаў і паянешты-лукашоўскай традыцыі былі паглынуты роднаснай пшэворскай культурай, але захавалі ў яе складзе адметную свядомасць.

Важнае значэнне маюць паведамленні Тацыта пра бастарнаў і венетаў. Назва бастарнаў у яго час была амаль выцеснена тэрмінам „пеўкіны“. Непасрэднымі суседзямі пеўкінаў Тацыт называе венетаў, што „вандруюць рабаўнічымі зграямі па лясах і гарах, якія толькі ёсць паміж пеўкінамі і фенамі“. Адносна фенаў Тацыт падкрэслівае іх „надзвычайную дзікасць і ўбоства“, характарызуючы іх як вандроўных паляўнічых з касцянымі стрэламі, што жывуць у буданах і апранаюцца ў шкуры. Даследчыкі атаясамліваюць фенаў з носьбітамі архаічных культур жалезнага веку, амаль не закранутых працэсамі латынізацыі і раманізацыі. Лакалізацыя венетаў адпавядае арэалу позназарубінецкіх груп.

Знаходзіць археалагічны адпаведнік нават вандроўнае блуканне венетаў па лясах каля фенаў. Якраз у гэты час адзначаецца пранікненне зарубінецкага культурнага імпульсу ў арэалы днепра-дзвінскай і юхнаўскай культур. У парэччы Дзясны гэта прыводзіць да ўтварэння почапскай групы позназарубінецкай супольнасці. Крыху пазней яе міграцыя ў арэал верхнеокскага варыянта юхнаўскай культуры прывяла да ператварэння апошняй у мошчынскую культуру. У вярхоўях Дняпра і Сажа позназарубінецкі імпульс маркіруе храналагічны гарызонт помнікаў тыпу сярэдняга

слоя Тушамлі. Яго адметнасцю з'яўляецца прысутнасць керамічнага стылю, тыпалагічна звязанага з верхнедняпроўскай групай зарубінецкай культуры.

На гэты ж перыяд прыпадае пачатак яшчэ аднаго міграцыйнага руху, які неўзабаве зноў змяніў становішча ў барбарскай перыферыі. Ён звязаны з перасяленнем готаў і гепідаў, якія паходзяць, хутчэй за ўсё, са Скандынавіі (готы лічылі сваёй радзімай востраў Готланд). Спачатку нешматлікія, готы аб'ядналі пад сваёй уладай іншыя германскія народы, што дазволіла ім у наступны перыяд здзейсніць шырокую экспансію. Звесткі Тацыта фіксуюць пачатак гэтага працэсу. На поўнач ад Карпат ён паслядоўна (з поўдня на поўнач) пералічвае лугіяў, гатонаў, ругіяў і лямовіяў, прычым два апошнія народы знаходзяцца ўжо непасрэдна на беразе Акіяна. У такім выпадку лугіі добра стасуюцца з заходняй часткай пшэворскай культуры, якая не зазнала зарубінецкіх імпульсаў, а гатоны (готы), ругіі і лямовіі — тром групам вельбаркскай культуры на яе пачатковым этапе.

На усход ад ругіяў і лямовіяў Тацыт размяшчае эсціяў, у краіне якіх здабываюць бурштын. У адрозненне ад свайго папярэдніка Плінія Тацыт валодае пра гэтыя мясціны ўжо не міфічнай, а пэўнай інфармацыяй. Ён нават ведае, што мова эсціяў адрозная ад германскай (Тацыт лічыць яе падобнай да мовы брытаў). Археалагічна тэрыторыя эсціяў адпавядае самбійскай культуры, што паўстала ў I стагоддзі н.э. на частцы тэрыторыі былой культуры заходнебалцкіх курганоў і звязваецца з продкамі заходніх балтаў ці, на нашу думку, балтаў увогуле.

Эсціі з'яўляюцца ў Тацыта якраз у тым месцы, дзе старажытнагрэчаская традыцыя змяшчала раку Эрыдан і цьмяна асацыіраваных з ёй венетаў. Гэта дазваляе часткова растлумачыць супярэчнасць паміж звесткамі Тацыта і Пталамея. Апошні пералічвае на абшарах Еўрапейскай Сарматыі сем „вялікіх народаў". Першым з іх выступаюць венеты, размешчаныя на ўзбярэжжы Балтыкі ўздоўж Венедскай затокі. Недзе „вышэй Дакіі" знаходзяцца пеўкіны і бастарны, уздоўж узбярэжжа Меатыды (Азоўскага мора) — языгі і раксаланы, а ў глыбі кантынента „за імі" — амаксобіі і скіфы-аланы. Згадка пра языгаў і раксаланаў на ўзбярэжжы Меатыды сведчыць, што звесткі Пталамея тычацца не сучаснага яму становішча, а больш ранняга, бо яшчэ за стагоддзе да напісання „Кіраўніцтва па геаграфіі" аланы выцеснілі языгаў і раксаланаў на берагі Дуная. Крыху далей Пталамей паведамляе, што на поўдзень ад венетаў жылі „гіфоны", якіх можна атаясаміць з гітонамі (готамі). У такім выпадку Пталамей змешвае рознаасовыя ўяўленні: звесткі пра венетаў і іншыя „вялікія народы" тычацца часу існавання паморскай ці, прынамсі, аксыўскай культуры, а звесткі пра гіфонаў — больш позняга часу, калі на гэтым абшары ўжо з'явіліся готы (што археалагічна адпавядае ператварэнню аксыўскай культуры ў вельбаркскую).

Да канца гэтага ж перыяду (мяжа II—III стагоддзяў) трэба адносіць асноўны пласт інфармацыі дарожнай карты-схемы познарымскага часу — Пеўтынгеравай карты. На ёй недзе паміж сярэднім цячэннем Дуная і Акіянам, на паўночны захад ад Бастарнскіх Альпаў (Карпат) пазначаны „лупіёны-сарматы" і „сармацкія венеды", а непасрэдна за гэтымі гарамі — бастарны. Улічваючы крайнюю схематычнасць карты, гэтыя назвы адпавядаюць тэрыторыі пшэворска-позназарубінецкай культурнай супольнасці на заключным этапе — напярэдадні пранікнення ў яе арэал готаў. Заходнюю частку ўласна пшэворскай культуры ў такім выпадку займаюць лупіёны (скажонае лугіёны=лугіі?), а паўднёва-ўсходнюю — бастарны. Пазначаныя паміж імі „сармацкія венеды" могуць адпавядаць паўночна-ўсходняй частцы пшэворскай культуры і позназарубінецкаму абшару далей на ўсход. Іншыя венеды пазначаны на левым беразе Дуная недалёка ад яго вусця. Археалагічны адпаведнік гэтай назве (помнікі тыпу Этулія) з'яўляецца якраз на мяжы II—III стагоддзяў, але ў асноўным адносіцца да наступнага перыяду.

Наступная карта адлюстроўвае вынікі экспансіі готаў. Заключыўшы саюз з аланамі ці падпарадкаваўшы іх, готы стварылі ў Прычарнамор'і моцную протадзяржаву. Галоўнай пісьмовай крыніцай выступае „Гетыка" Іардана, якая абапіраецца на запісы гоцкіх эпічных паданняў. Дадатковымі пісьмовымі крыніцамі выступаюць шматлікія паведамленні аб так званых „скіфскіх войнах" — нападах готаў і іншых народаў Прычарнамор'я на тэрыторыю Рымскай імперыі.

Матэрыяльнае сведчанне протадзяржавы готаў археолагі фіксуюць у чарняхоўскай культуры. Выходным імпульсам паслужыла прасоўванне вельбаркскай культуры праз Валынь на тэрыторыю Малдовы і ў парэчча Паўднёвага Буга. Носьбіты гэтай культуры ўспрынялі характэрны набор правінцыяльна-рымскіх культурных праяў, які вызначае адметнасць чарняхоўскай культуры, і распаўсюдзілі яго сярод падначаленых народаў. Іншымі кампанентамі пры фарміраванні культуры былі познапшэворскі (бастарнскі) у вярхоўях Днястра і змешаны алана-познаскіфскі на ўзбярэжжы Чорнага мора паміж Днястром і Дняпром, таксама ў Крыме. На лесастэпавым левабярэжжы Дняпра чарняхоўская культура ахапіла і позназарубінецкі кампанент. Пазней протадзяржава готаў падзялілася на дзве — заходнюю (везегоцкую) і ўсходнюю (астрагоцкую).

На асноўнай частцы позназарубінецкага арэала з канца II стагоддзя н. э. помнікі тыпу Грыні пашыраюцца на сярэдняе Падняпроўе і ў арэал почапскага варыянта, што прыводзіць да фарміравання кіеўскай культуры. У гэты перыяд завяршаецца гісторыя бастарнаў. Апошняя згадка пра іх датуецца 280 г. н. э., калі імператар Проб дазволіў ім перасяліцца ў межы Рымскай імперыі, дзе яны, напэўна, і асіміляваліся. Венеты, канчаткова вызваліўшыся ад уплыву бастарнаў, прынялі ўдзел у шырокіх міграцыйных рухах. Помнікі, тыпалагічна блізкія да кіеўскіх, з'яўляюцца ў вярхоўях Дона і ў сярэднім Паволжы ля Самарскай Лукі. Іншая група падобных помнікаў (тып Этулія) пранікае ў стэпавы раён нізоўяў Дуная, Прута і Днястра. У ім адзначаюцца падабенствы з верхнедняпроўскім тыпам Грыні. Як адзначалася, з гэтай групай можна звязаць звестку Пейтынгеравай карты пра венетаў ля нізоўяў Дуная.

У творы Іардана найбольш ранні пласт звестак пра венетаў паходзіць з эпасу пра перамогі караля астраготаў Германарыха (сярэдзіна IV стагоддзя) над шэрагам народаў Усходняй Еўропы. Такім чынам, да таго часу яны былі незалежнымі ад готаў і іх трэба лакалізаваць па-за межамі чарняхоўскай культуры. Гэта цалкам адпавядае тэрыторыі кіеўскай культуры, а таксама помнікам тыпу Этулія.

На карце пазначаны ўмоўныя межы остгоцкай протадзяржавы Германарыха ў яе максімальным пашырэнні. Для іх вызначэння выкарыстаны пісьмовыя і археалагічныя звесткі. Па-першае, Іардан паведамляе пра заваяванне Германарыхам тэрыторыі эсціяў, якіх ён лакалізуе адпаведна з Тацытам — на беразе Акіяна. Другой падставай служаць археалагічныя сведчанні чарняхоўскіх імпартаў сярэдзіны IV ст., а таксама слядоў экспансіі гунаў у больш позні час. З эпасу вядома, што гуны перамаглі Германарыха і, такім чынам, сталі пераемнікамі яго заваяванняў. Таму сляды іх актыўнасці ў ляснoй зоне (гэты сюжэт адлюстраваны на наступнай карце) перакрываюць абшар яго ўладанняў. Наяўнасць такіх знаходак у балцкіх культурах пацвярджае звестку пра заваяванне эсціяў готамі. Аналагічныя матэрыялы фіксуюцца на тэрыторыі мошчынскай і, у меншай ступені, тушамлянскай культур.

З гоцкага эпасу паходзіць таксама першая згадка пра антаў, якая прыпадае на час Вінітарыя, пераемніка Германарыха (каля 375 г.). Гэтых антаў трэба лакалізаваць у арэале кіеўскай культуры, што адпавядае сцвярджэнню Іардана: яны, як і славяне, раней зваліся венетамі.

На карце „Пачатак вялікага рассялення славян" асветлены падзеі, да якіх прывяло заваяванне протадзяржавы астраготаў гунамі. З пункту гледжання археалогіі ў гэты час адбывалася канчатковае знікненне рысаў чарняхоўскай супольнасці і ўтварэнне на яе месцы пражскай і пянькоўскай культур, працэс крышталізацыі якіх да сярэдзіны VI стагоддзя ў асноўным закончыўся.

Гуны ўяўлялі сабой новую хвалю міграцыі стэпавых качэўнікаў, на гэты раз, напэўна, цюркамоўных. У склад гэтай хвалі ўваходзілі акацыры, альтцыягіры і балгары, якія працягвалі жыць у прычарнаморскіх стэпах і пасля распаду галоўнай гунскай арды ў сярэдзіне V стагоддзя. Нашэсце гунаў выклікала перасяленне везеготаў у межы Рымскай імперыі. Астраготы ж і ўсе раней падначаленыя ім народы ўвайшлі ў новую протадзяржаву, узначаленую гунамі. Пра сферу актыўнасці гунаў у ляснoй зоне сведчаць знаходкі спецыфічна гунскіх наканечнікаў стрэл.

У 2-й чвэрці V стагоддзя ўлада гунаў пашырылася да сярэднега Падунаўя, куды часова перасялілася іх галоўная арда. У гэты час рымскі дыпламат Прыск зафіксаваў славянскія словы, якія ўжывалі падначаленыя гунам жыхары гэтых мясцовасцей. Гэта — першае гістарычнае сведчанне таго, што пад уладай гунаў продкі славян пачалі шырокае рассяленне. Асаблівы размах яно набыло пасля таго, як на сярэдні Дунай з Прычарнамор'я перасяліліся астраготы (адгэтуль вядомыя як остготы). У пакінутым імі абшары чарняхоўскай культуры праз кароткі час, на мяжы V—VI стагоддзяў, утвараецца масіў новых, вельмі блізкіх паміж сабой помнікаў пражскага і пяньkoўскага тыпаў. Яны займаюць якраз той абшар, на якім Іардан і візантыйскі гісторык Пракопій змяшчалі сучасных ім склавінаў і антаў.

Зыходны пункт, адкуль пачалося засяленне славянамі арэала былой чарняхоўскай культуры, розныя даследчыкі вызначаюць па-рознаму. Праблема ўскладняецца тым, што ў працэсе гэтага выбуховага рассялення матэрыяльная культура будучых славян, як і іх мова, зведала радыкальную трансфармацыю. На карце пазначана тая версія, што здаецца найбольш верагоднай — аб вытоках славянскай культуры ў папярэдняй кіеўскай, на тэрыторыі якой фіксуецца пераемнасць назваў венеты — анты.

З таго часу гісторыя славянскіх народаў прасочваецца даволі ўпэўнена. Мабыць, менавіта тады і мова іх з праславянскай ператварылася ва ўласна славянскую. Гэта адбылося, напэўна, спярша на тэрыторыі пражскай культуры, дзе зафіксаваны этнонім „склавіны". Носьбіты іншых культур, звязаных паходжаннем з кіеўскай ці зведаўшых імпульсы з яе боку (калочынскай, мошчынскай, банцараўскай, тушамлянскай), маглі карыстацца больш ці менш падобнымі мовамі, але пра іх мы дакладна нічога не ведаем, бо ніводная з гэтых культур не мае непасрэднага працягу ў перыяд Кіеўскай Русі.

Наступная карта паказвае далейшы этап славянскага рассялення, які ўжо адбываўся пад уладай Аварскага кагана та. Авары (летапісныя обры) уяўлялі сабой адну з ордаў, што ўваходзіла ў цюркскі каганат Заволжа, а ў сярэдзіне VI стагоддзя перасялілася на сярэдні Дунай. Адтуль авары падпарадкавалі частку балгараў і славян, якіх выкарыстоўвалі ў сваіх войнах з Візантыяй. Пазней палітычнае дамінаванне ў рэгіёне перайшло да балгараў, а затым да хазараў — новых цюркамоўных перасяленцаў з усходу. Увесь гэты час колькасць славян няўхільна павялічвалася дзякуючы наяўнасці вялікіх незаселеных абшараў у Цэнтральнай Еўропе, адкуль папярэдняе германскае насельніцтва перасялілася ў барбарскія каралеўствы на тэрыторыі былой Заходняй Рымскай імперыі. З VII стагоддзя на захадзе пачаў адчувацца ўплыў дзяржавы франкаў — найбольш паспяховага з такіх барбарскіх каралеўстваў, якое дало пачатак новай заходнееўрапейскай цывілізацыі. Франкскі купец Само ў 623 г. стварыў на заходняй перыферыі Аварскага кагана та протадзяржаву, амаль што адзінымі насельнікамі якой упершыню былі славяне. Праўда, яна распалася пасля яго смерці.

Пісьмовых згадак пра славян на перыферыі Візантыі і дзяржавы франкаў даволі шмат, але пра падзеі ў больш аддаленых частках Еўропы невядома амаль нічога. З агаворкамі да гэтага перыяду можна адносіць некаторыя звесткі з недатаванай часткі „Аповесці мінулых гадоў": пра рассяленне славян на Дунаі, залежнасць ад аварaў (обраў) племяннога саюзу дулебаў, пра зваротны рух славян з Падунаўя, у працэсе якога складваліся новыя племянныя саюзы.

Археалагічна зваротны рух славян адпавядае перарастанню пражскай культуры ў культуру лукі-райкавецкай, якое адбывалася пад выразнымі імпульсамі з Падунаўя. Прыток насельніцтва з арэала лукі-райкавецкай культуры фіксуецца і ў розных частках ляснoй зоны, але ў выглядзе адасобленых культурных рыс, якія пакуль не ўтвараюць суцэльную сістэму. У цэлым на працягу 2-й паловы VII — 1-й паловы VIII стагоддзяў славянскае грамадства, падпітваючыся культурнымі імпульсамі з дзяржавы франкаў і Візантыі, набліжалася да пераходу ў стадыю цывілізацыі.

*В. Насевіч*

# ПЕРЫФЕРЫЯ ГРЭЧАСКІХ ПОЛІСАЎ ПАЎНОЧНАГА ПРЫЧАРНАМОР'Я. V–III ст. да н. э.




## ГРЭЧАСКІЯ КАЛОНІІ Ў МІЖЗЕМНАМОР'І І ПРЫЧАРНАМОР'І




ЛІДЫЯ Гістарычныя назвы тэрыторый
○ Афіны Грэчаскія гарады
● Мілет Грэчаскія гарады, якія заснавалі значную колькасць калоній
Калоніі грэкаў: ● *Кізік* найбуйнейшыя ● іншыя
ГАЛЫ Назвы плямён
Тэрыторыя Грэцыі да VIII ст. да н. э.

1:26 000 000

Археалагічныя культуры лясной зоны

- Штрыхаванай керамікі
- Днепра-дзвінская
- Мілаградская
- Юхнаўская
- Паморская
- Заходнябалцкіх курганоў

- Скіфская культура лесастэпавай зоны
- Скіфская культура стэпавай зоны

ТАЎРЫ Назвы народаў, згаданых у „Гісторыі" Герадота, і іх імаверная лакалізацыя

Ціра Найбольш значныя грэчаскія полісы

Напрамкі экспансіі скіфаў у VI і IV–III стст. да н. э.

Напрамкі экспансіі кельтаў у IV–III стст. да н. э.

1:9 000 000

# ПРАСЛАВЯНЕ І ІХ СУСЕДЗІ ў II ст. да н. э. – першай палове I ст. н. э.



# ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯЯ ПЕРЫФЕРЫЯ РЫМСКАЙ ЦЫВІЛІЗАЦЫІ. Другая палова I – II ст. н. э.



# ПРОДКІ СЛАВЯН У ПРОТАДЗЯРЖАВЕ ГОТАЎ. III–IV ст. н. э.




Археалагічныя культуры
- Вельбаркская на познім этапе
- Чарняхоўская
- Кіеўская
- Тыпу Чартавіцкае-Кашырка
- Тыпу Сідзелькіна-Цемяшова
- Тыпу Этулія
- Мошчынская
- Тушамлянская
- Шурпатай керамікі
- Штрыхаванай керамікі
- Культурныя імпульсы з боку кіеўскай культуры
- Культурныя імпульсы з боку культуры шурпатай керамікі, якія прывялі да фарміравання новых курганных культур
  - паўднёвалатвійскай
  - усходнелітоўскіх курганоў
  - каменных курганоў
- Тэрыторыя, на якой сустракаюцца элементы кіеўскай культуры (помнікі тыпу Заазер'е-Узмень)

Межы Рымскай імперыі
- на пачатак III ст.
- пасля 275 г.
- Межы палітычнага дамінавання візіготаў пасля 275 г.
- Прыкладныя межы палітычнага дамінавання астраготаў у другой чвэрці IV ст. (протадзяржава Германарыха)
- АНТЫ — Назвы народаў паводле антычных крыніц
- ГЕРУЛЫ — Лакалізацыя народаў у працэсе ці выніку міграцый

Напрамкі рассялення
- германцаў
- іранцаў
- Першая міграцыя гунаў з 320-х гг.
- Нашэсце гунаў (арда Баламбера) каля 375 г.
- Перасяленне бастарнаў у межы Рымскай імперыі ў 280 г.
- ○ Сірмій — Антычныя гарады

1:9 000 000

# ПАЧАТАК ВЯЛІКАГА РАССЯЛЕННЯ СЛАВЯН. V–першая палова VI ст. н. э.




| Умоўныя знакі | |
|---|---|
| | Прыкладныя межы палітычнага дамінавання гунаў у першай палове V ст. |
| ГЕПІДЫ | Назвы народаў – васалаў гунаў, якія ўтварылі ўласныя каралеўствы пасля распаду протадзяржавы гунаў у 454 г. |
| | Рух остготаў на заваёву Заходняй Рымскай імперыі ў канцы V ст. і рух лангабардаў на іх месца |
| | Міграцыя часткі герулаў праз землі славян у Ютландыю ў пачатку VI ст. |
| | Рух гепідаў на месца герулаў |
| | Межы барбарскіх каралеўстваў у першай палове VI ст. |
| | остготаў |
| | лангабардаў |
| | гепідаў |
| | Межы Усходняй Рымскай (Візантыйскай) імперыі ў першай палове VI ст. |
| | Месцазнаходжанні наканечнікаў стрэл гунскага тыпу |
| | Пахаванні з інвентаром гунскай эпохі |
| | Арэал кіеўскай культуры ў першай палове V ст. |
| | Межы культур, у складванні якіх прымалі ўдзел носьбіты кіеўскай культуры |
| | калочынскай |
| | пражскай |
| | пянькоўскай |
| | тыпу Іпытэнць-Чурэл |
| | тыпу Юр'еўскай Горкі |
| | Межы курганных культур лясной зоны |
| | пскоўскіх доўгіх курганоў |
| | усходнелатвійскіх курганоў |
| | усходнелітоўскіх курганоў |
| | каменных курганоў |
| | Культуры грунтавых могільнікаў усходняй Прыбалтыкі |
| | Банцараўска-тушамлянская культурная супольнасць |
| | Мошчынская культура |
| | Познадзякоўская культура |
| | Культурныя імпульсы з боку кіеўскай культуры |
| | Магчымы рух зваротнай міграцыі балцкіх плямён з барбарскіх каралеўстваў Падунаўя |
| | Напрамкі рассялення славян і антаў у другой палове V–першай палове VI ст. |
| | Набегі славян на Візантыю ў першай палове VI ст. |
| | Тэрыторыі, на якіх славяне жылі цераспалосна з іншымі народамі |
| | Нашэсце авараў (обраў) у сярэдзіне VI ст. |
| АНТЫ | Назвы народаў паводле антычных крыніц |
| ○ Аквінк | Антычныя гарады |

1:10 000 000

# СЛАВЯНЕ Ў ПЕРЫЯД ГЕГЕМОНІІ АВАРАЎ. Другая палова VI–сярэдзіна VII ст.




1:10 000 000

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ І ЎСХОДНЯЯ ЕЎРОПА. Канец VII–VIII ст.




- Найбольш выразныя археалагічныя культуры і групы славян
  1. Менкендорфская
  2. Фельдбергская
  3. Кендзінская
  4. Тарноўская
  5. Русенская
  6. Сукаў-Дзедзіцкая
  7. Лука-Райкавецкая
  8. Кашарыцкая
  9. Валынцаўская
  10. Пскоўскіх доўгіх курганоў (з удзелам балтаў)
  11. Полацка-смаленскіх доўгіх курганоў (з удзелам балтаў)
- Грунтовыя могільнікі заходніх балтаў
- Каменныя курганы (продкі яцвягаў)
- Грунтовыя могільнікі ўсходніх балтаў
- Усходнелітоўскія курганы
- Рассяленне фінскіх плямён

Змешаныя культуры

- Панонская (славяна-аварская)
- Букоўская (валаха-славянская)
- Медзіяш (славяна-гепідская)
- Балкана-дунайская (славяна-балгарская)
- Каманская (іліра-славянская)
- Наўгародскіх сопак (славяна-фінская)
- Парэчча Масквы і Клязьмы (славяна-фінская)
- Мазурская (славяна-яцвяжская)
- Банцараўская

1:12 500 000

- Пліска — Гарады
- Межы імперыі франкаў на 768 г.

Межы дзяржаў на канец VIII ст.

- Візантыйскай імперыі
- Балгарскага ханства
- Аварскага каганата
- Хазарскага каганата
- протадзяржавы харутан
- іншых дзяржаў і протадзяржаўных утварэнняў
- 774 — Накірункі і даты ваенных акцый Карла Вялікага
- 783 — Накірункі і даты ваенных акцый візантыйцаў
- ВІЗАНТЫЯ — Назвы дзяржаў
- саксы — Назвы этнапалітычных супольнасцяў
- ПАЛЯНЕ — Назвы славянскіх племянных саюзаў, якія склаліся ў VIII ст.
- Напрамкі зваротных міграцый славян з Прыдунаўя ў другой палове VII — першай палове VIII ст., якія прывялі да ўтварэння культур тыпу Лукі-Райкавецкай, валынцаўскай, смаленскіх доўгіх курганоў
- Рассяленне культуры наўгародскіх сопак

# СТАРАЖЫТНАЯ РУСЬ

Дадзены раздзел атласа прысвечаны перыяду, калі землі сучаснай Беларусі перасталі быць далёкай і малавядомай перыферыяй старажытных цывілізацый, а сталі непасрэднай і неад'емнай часткай адной з цывілізацый сярэднявечча. Гэтая цывілізацыя часам называецца старажытнарускай, многія гісторыкі выкарыстоўваюць назву Кіеўская Русь, хоць у сярэдневяковых крыніцах яна звычайна згадваецца проста як Русь. Менавіта ў той час нашы продкі прайшлі шлях ад першабытнага барбарства да сталага класавага грамадства. На беларускія землі прыйшлі пісьменства, мураванае дойлідства, адна з сусветных рэлігій — хрысціянства (у яго візантыйскім, праваслаўным варыянце). Дзяржаўныя ўтварэнні і этнасы, што паўсталі ва Усходняй Еўропе ў наступныя часы, адчувалі сябе непасрэднымі пераемнікамі Русі, яе традыцыі і спадчына яшчэ доўгі час вызначалі этнапалітычны расклад на гэтых абшарах і ідэнтычнасць іх насельнікаў.

Першая карта радзела адлюстроўвае перадумовы ўтварэння Русі. Іх трэба разглядаць у агульным рэчышчы дзяржаваўтваральных працэсаў, што ахапілі тэрыторыю рассялення славян у VIII—IX стагоддзях. Адным з моцных славянскіх аб'яднанняў у другой палове IX стагоддзя была Вялікамараўская дзяржава. Каля 833 г. князь мараван Моймір выступіў супраць нітранскага князя Прыбіны, сагнаў яго з пасада і захапіў ягоныя землі. Гэты момант лічыцца пачаткам існавання Вялікай Маравіі. У 867 г. да яе было далучана Блаценскае княства. Новая дзяржава адчувала моцны ўплыў з боку Франкскай дзяржавы, але доўгі час заставалася самастойнай. На тэрыторыі сучаснай Польшчы ўзнік шэраг тэрытарыяльных аб'яднанняў, якія абапіраліся на сістэму ўмацаваных паселішчаў — гродаў. Сярод славян, што рассяліліся на Балканах, таксама пачаліся дзяржаваўтваральныя працэсы. Некаторы час існавала няўстойлівае аб'яднанне князя Людавіта ў парэччы ракі Савы, прытока Дуная. Бліжэй да ўзбярэжжа Адрыятыкі фарміравалася ўлада харвацкіх князёў. Асобнае месца ў развіцці славянскіх дзяржаў займала Першае Балгарскае царства. Яно ўтварылася шляхам сінтэзу двух народаў з рознымі жыццёвымі і гаспадарчымі ўкладамі — славян-земляробаў і цюркскіх жывёлаводаў-качэўнікаў. На першым этапе дзяржаваўтварэння вядучая роля належала цюркамоўным балгарам, якія і далі назву ўсёй краіне.

На тэрыторыі Усходняй Еўропы вырашальным знешнім фактарам стала ўзмацненне гандлёвых сувязей з арабскім светам праз пасрэдніцтва Хазарскага каганата. Узамен за футра, мёд і рабоў з Халіфата і з Візантыі ў лясную зону хлынуў паток сярэбраных манет, што назапашваліся ў руках мясцовай гандлёва-палітычнай эліты. На чале яе апынуліся выхадцы са Скандынавіі, якія на працягу гэтага перыяду ажыццяўлялі рабаўнічыя напады па ўсёй Еўропе. У дзяржаве Каралінгаў іх называлі нарманамі, а сярод славян і ў Візантыі — варагамі. Паводле адной з пашыраных версій, менавіта з апошнімі звязана і паходжанне назвы „Русь", якая з'яўляецца ў крыніцах упершыню ў 830—840-я гады. Так называўся пэўны сацыяльны слой мясцовага грамадства, што кантраляваў знешні гандаль, а крыху пазней перадаў сваё імя дзяржаве, якая паўстала ў выніку гэтых складаных працэсаў. Пры стварэнні карты выкарыстоўваліся паведамленні арабскіх падарожнікаў і географаў-кампілятараў (Ібн Фардадбеха, Ібн ал-Факіха, Ібн Русты і інш.), заходнееўрапейскія крыніцы: Берцінскія аналы, хронікі Фрэдэгара, Цітмара Мерзебургскага, Гельмгольда і інш., так званы „Баварскі географ" („Апісанне гарадоў і абласцей на поўнач ад Дуная"), а таксама легендарная частка „Аповесці мінулых гадоў".

На другой карце адлюстраваны перыяд, калі протадзяржава русаў ператварылася ў сапраўдную дзяржаву на чале з дынастыяй Рурыкавічаў (назва паходзіць ад імя яе паўлегендарнага заснавальніка — варага Рурыка) з уласнай знешняй палітыкай і пэўнымі атрыбутамі цывілізаванасці. У гэты час у склад Русі канчаткова ўвайшла ўся тэрыторыя сённяшняй Беларусі. Кульмінацыяй дзяржаваўтваральнага працэсу стала прыняцце хрысціянства, якое ўвяло Русь у кола хрысціянскіх народаў Еўропы. Аналагічныя працэсы адбываліся і ў іншых дзяржавах, населеных цалкам ці пераважна славянамі. Гістарычныя акалічнасці склаліся такім чынам, што некаторыя з іх прынялі заходнюю версію хрысціянства і апынуліся ў палітычнай арбіце імперыі Каралінгаў. Іншыя, як Балгарыя і сербскія княствы, прынялі хрысціянства з Візантыі і засталіся ў сферы яе палітычнага ўплыву. Становішча Русі было ў гэтым сэнсе адмысловым: яна таксама прыняла візантыйскую версію хрысціянства, але захавала палітычны суверэнітэт і цесныя культурныя сувязі як з захадам, так і з цюркскім светам. Гэта прывяло да таго, што вельмі аднародны ў той час этнічны масіў славян пачаў дыферэнцыравацца на тры асобныя галіны: заходніх, паўднёвых і ўсходніх славян. Канчаткова яны сфарміраваліся на працягу наступных стагоддзяў. На гэтай карце адлюстраванне археалагічных звестак адыходзіць на другі план, а перавага аддаецца палітычным падзеям, пра якія маецца ўжо даволі шмат звестак. Галоўнымі іх крыніцамі з'яўляюцца візантыйскія хронікі і паведамленні „Аповесці мінулых гадоў", створанай неўзабаве пасля завяршэння дадзенага перыяду. Выкарыстоўваліся і іншыя славянскамоўныя хронікі, напісаныя ў суседніх краінах: Войцахавы, Пражскія, Багемскія аналы, хронікі Гала Ананіма, Казьмы Пражскага, Велікапольская хроніка і інш.

Наступная карта прысвечана перыяду, калі Русь трапіла ў перыяд палітычнай раздробленасці. Спецыфічны характар працэсу дэцэнтралізацыі надало генеалагічнае разрастанне пануючай дынастыі Рурыкавічаў, якая разглядалася як адзіны калектыўны сюзерэн Рускай дзяржавы. З цягам часу з'явіліся генеалагічна адасобленыя галіны роду. Кожная з іх, абапіраючыся на эканамічныя інтарэсы, імкнулася захаваць за сабой пэўную частку агульнай спадчыны, каб перадаваць толькі ўласным нашчадкам. Першай такой галіной сталі нашчадкі Ізяслава Уладзіміравіча, якія валодаў Полацкім княствам. Таму гэтае княства вельмі рана, на пачатку XI стагоддзя, замацавалася ў якасці іх неадчужальнай уласнасці. З пункту гледжання сённяшняга дня можна сцвярджаць, што ўпершыню з'явілася трывалая палітычная ўлада, звязаная выключна з беларускай тэрыторыяй (хоць яна ахоплівала толькі частку яе, ды ўлада Ізяславічаў, зразумела, нікім у той час не ўспрымалася як „беларуская"). Канчаткова прынцып падзелу Русі быў замацаваны на Любецкім з'ездзе князёў 1097 г. у фармулёўцы „кождо да держит отчину свою" (кожная галіна хай трымае бацькоўскую спадчыну). На карце паказаны працэс замацавання такіх вотчын за нашчадкамі пэўных асоб пасля іх смерці. Усе звесткі ўзяты са старажытнарускіх летапісаў, у свой час сістэматызаваных у кнізе: Рапов О. М. Княжеские владения на Руси в X — первой половине XIII в. — М., 1977. Межы вотчын прыводзяцца на падставе меркаванняў розных даследчыкаў, адлюстраваных у шэрагу выданняў: Древнерусские княжества X—XIII вв. — М., 1975; Алексеев Л. В. Смоленская земля в IX—XIII вв. — М., 1980; Никольская Т. Н. Земля вятичей: К истории населения бассейна верхней и средней Оки в IX—XIII вв. — М., 1981; Кріп'якевич І. Галицько-Волинське князівство. — Київ, 1984. У некаторых выпадках зроблены ўдакладненні на падставе звестак аб тэрыторыях адпаведных княстваў у больш позніх часы — XIV—XV стагоддзях.

Працэс драбнення вотчын часам парушаўся згасаннем той ці іншай галіны, за вымарачную спадчыну якой адразу пачыналася барацьба паміж іншымі князямі. Старэйшынства кіеўскага князя паступова звялося да таго, што ён зацвярджаў вынікі такой барацьбы. Яскравай прыкметай самастойнасці княжацкіх вотчын стала тое, што прыкладна з 1120-х гг. адносна некаторых з іх летапісы выкарыстоўваюць замест тэрміна „воласць" тэрмін „зямля", які ўжываўся ў тыя часы толькі для палітычна суверэнных утварэнняў. Прыблізна з 1170-х гг. на кіеўскі пасад часта ўзводзіліся стаўленікі моцных князёў, а самі яны заставаліся ў сваіх вотчынах. Тым не менш усе прадстаўнікі дынастыі Рурыкавічаў захоўвалі ўяўленне аб агульнасці свайго паходжання і тым спрыялі захаванню агульнарускай свядомасці сваіх падданых. Гэтую ж калектыўную ідэнтычнасць замацоўвалі адзіная канфесіянальная структура з цэнтрам у Кіеве, агульная традыцыя летапісання, выкарыстанне адной пісьмовай мовы, этнічнае падабенства жыхароў розных вотчын. З другога боку, розніца палітычных і эканамічных інтарэсаў няўхільна размывала яе. Таму ў канцы перыяду Русь можна трактаваць хутчэй не як адзіную дзяржаву, а як агульную цывілізацыйную прастору, у якой склаўся шэраг практычна самастойных дзяржаў.

Наступная карта, увага якой пераносіцца напасрэдна да беларускіх зямель, з'яўляецца ў пэўным сэнсе эксперыментальнай. Тут мы не ўбачым традыцыйных уяўленняў аб фарміраванні тэрыторый княстваў і зямель, стабільных межаў паміж дзяржаўнымі ўтварэннямі і г. д. Замест іх аўтар паспрабаваў паказаць няпэўныя межы тэрытарыяльных адзінак з пасамі незанятых зямель паміж імі. Уведзены нечаканы для палітычнай карты элемент — зоны распаўсюджання лясоў. Усё гэта, на погляд аўтара карты, прызначана больш дакладна перадаць тагачасную рэчаіснасць, наблізіцца да ўяўлення сапраўднага тэрытарыяльнага ладу старажытнабеларускіх зямель. Усе воласці, княствы, удзелы не статычныя, у іх развіцці галоўным з'яўляецца каланізацыйны фактар, хоць і палітычныя падзеі таксама прыводзілі да тэрытарыяльных змен. Такі погляд, безумоўна, мае права на існаванне, хаця варта памятаць, што ўзровень гаспадарчага і тым больш палітычнага асваення той ці іншай тэрыторыі пры сённяшнім стане нашых ведаў можна вызначыць толькі ўмоўна. Ды і самі неасвоеныя тэрыторыі, напэўна, знаходзіліся пад чыімсьці фармальным суверэнітэтам, хоць мы і не можам дакладна вызначыць яго межы.

Дзве чарговыя карты прысвечаны ваенна-палітычным падзеям на беларускіх землях. Галоўны іх змест на першым этапе складае барацьба Полацка за сваю самастойнасць і пашырэнне ўплыву, якая непазбежна сутыкалася з імкненнем Кіева больш пільна кантраляваць сваіх васалаў, а часам караць іх за непаслухмянасць. Па меры далейшага драблення княжацкай дынастыі да традыцыйнага супрацьстаяння з Кіевам далучылася такая ж барацьба за свой суверэнітэт з боку менскай і друцкай галін Ізяславічаў у адносінах да Полацка. Сітуацыю яшчэ больш ускладніла адасабленне ад Кіева Тураўскага княства, дзе замацавалася дынастычная лінія князя-ізгоя Юрыя Яраславіча. Абедзве карты выкананы на падставе летапісных паведамленняў.

У пачатку XIII стагоддзя ў палітычным жыцці старажытнабеларускіх зямель з'явіўся новы фактар. Утвораны ў 1201 г. Ордэн мечаносцаў усталяваўся ў вусці Дзвіны і пачаў паступова ліквідаваць уплыў Полацкага княства ў прыбалтыйскім рэгіёне. Гэтаму перыяду прысвечана наступная карта. Яна створана пераважна на падставе хронікі Генрыха Латвійскага, якая даволі падрабязна апісвае ход барацьбы за Падзвінне з пункту гледжання Ордэна мечаносцаў і Рыжскага арцыбіскупства.

Разгляд палітычнай гісторыі Кіеўскай Русі завяршаецца картай, прысвечанай мангольскаму нашэсцю — той падзеі, што перарвала паслядоўны працэс развіцця старажытнарускай цывілізацыі. На карце паказаны тры галоўныя стадыі гэтага нашэсця. На першай з іх, у 1237 г., была заваявана Волжская Балгарыя. На другім этапе, у канцы 1237—1239 гг., былі заваяваны спярша Паўночна-Усходняя Русь, затым — Чарнігаўская зямля і орды полаўцаў у прычарнаморскіх стэпах (менавіта яны разам з волжскімі балгарамі ўвайшлі ў склад Залатой Арды, на гэтае насельніцтва пазней перайшла прынесеная манголамі з усходу племянная назва „татары"). Трэці этап пачаўся ў 1240 г. разбурэннем Кіева, пасля чаго мангольская навала рушыла ў Цэнтральную Еўропу. Пра ход нашэсця падрабязна распавядаюць як старажытнарускія летапісы, так і заходнееўрапейскія хронікі.

Наступствы заваявання Русі былі вельмі істотнымі. Большасць старажытнарускіх зямель на працяглы час трапіла ў палітычную залежнасць ад Залатой Арды, што практычна цалкам прыпыніла яе сувязі з Захадам. Беларускія землі цалкам ці амаль цалкам пазбеглі такой залежнасці, але іх далейшае развіццё было мала звязана з агульнарускімі з'явамі і працэсамі. Фактычна ў гэты момант былі зроблены першыя крокі на шляху фарміравання самастойнага беларускага этнасу, хоць гэты працэс расцягнуўся не на адно стагоддзе.

Завяршаюць раздзел планы старажытных гарадоў, створаныя на падставе археалагічных даследаванняў. Яны даюць уяўленне аб памерах тагачасных гарадоў і тыповых рысах іх планіроўкі. Ядром горада быў абкружаны дрэваземлянымі ўмацаваннямі дзядзінец, які звычайна будаваўся на цяжкадаступным узвышшы. Неўмацаванае паселішча паблізу ці вакол яго называлася пасадам. У буйных гарадах частка пасада, як правіла, таксама абносілася ўмацаваннямі і ператваралася ў вакольны горад (само слова „горад" першапачаткова мела сэнс „умацаванае, агароджанае паселішча"). Выключэннем з гэтага правіла быў Менск, у якім не зафіксавана падзелу на дзядзінец і вакольны горад — было толькі адно кола ўмацаванняў.

*В. Насевіч. В. Цемушаў*

# ПРАЦЭС ДЗЯРЖАВАЎТВАРЭННЯ НА СЛАВЯНСКІХ ЗЕМЛЯХ. Другая палова VIII– першая палова IX ст.






## РАССЯЛЕННЕ СЛАВЯН НА ТЭРЫТОРЫІ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ



# УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА ў другой палове IX–XI ст. СЛАВЯНСКІЯ ДЗЯРЖАВЫ




■ ПРАСЛАЎ — Сталіцы дзяржаў, рэзідэнцыі праціцеляў
○ Лібіца — Цэнтры залежных славянскіх княстваў, дробных італьянскіх дзяржаў
○ Віцебск — Іншыя населеныя пункты
† † — Арцыбіскупствы (архіепіскапствы) і біскупствы (епіскапствы)
831 — Даты прыняцця хрысціянства ў славянскіх дзяржавах

**МЕЖЫ**

- дзяржаў
- залежных дзяржаў
- далучаных тэрыторый
- тэрыторый, залежных ад Хазарскага каганата ў сярэдзіне IX ст.
- тэрыторый, захопленых венграмі да сярэдзіны X ст.

**СЛАВЯНСКІЯ ДЗЯРЖАВЫ**

Першае Балгарскае царства (681–1018 гг.)

- Тэрыторыя ў канцы IX ст. (893 г.)
- Тэрыторыі, далучаныя пры цару Сімяоне (893–927 гг.)
- Усходнебалгарскія землі, якія адышлі да Візантыі ў 927 г.
- Іншыя страчаныя тэрыторыі
- Межы Заходнебалгарскай дзяржавы ў канцы X ст. (996 г.)

Вялікамараўская дзяржава (каля 833 г.—пачатак X ст.)

- Тэрыторыя ў канцы IX ст. (894 г.)
- Межы зямель сорбаў, саюзных Вялікай Маравіі
- Землі славян, якія, магчыма, уваходзілі ў склад Вялікай Маравіі

Сербская дзяржава (Рашка)

- Тэрыторыя княства пры Уласціміры ў сярэдзіне IX ст.
- Межы тэрыторый, далучаных да сярэдзіны X ст.

Харвацкая дзяржава (каля 854 г.)

- Тэрыторыя каралеўства ў 925 г.

Чэшская дзяржава (з канца IX ст.)

- Тэрыторыя Чэшскага (Пражскага) княства пры Баляславе I Жорсткім (Укрутным) у 967 г.

Польская дзяржава (з сярэдзіны IX ст.)

- Тэрыторыя княства пры Мешку I каля 966 г.
- Межы княства пры Мешку I каля 992 г.
- Тэрыторыі, часова далучаныя да Польшчы

Старажытнаруская дзяржава (перыяд „дружынных дзяржаў" з канца IX да пачатку XI ст.)

- Раёны фарміравання першых дзяржаўных утварэнняў усходніх славян з цэнтрамі ў Ладазе (потым — Рурыкавым гарадзішчы каля Ноўгарада) і Кіеве ў сярэдзіне IX ст.
- Тэрыторыя дзяржавы князя Алега ў 912 г.
- Межы тэрыторый, далучаных да Русі да пачатку XI ст.

- Напрамкі паходаў кіеўскіх князёў з мэтай падпарадкавання ўсходнеславянскіх племянных саюзаў
- Напрамкі паходаў кіеўскіх князёў на суседнія краіны

**ТЭРЫТОРЫІ**

- Рассяленне плямёнаў венграў у X ст.
- Хазарскі каганат у сярэдзіне X ст.
- Германскае каралеўства ў 962 г.
- Маркі – сістэмы графстваў уздоўж граніц Германіі, створаных у 970 г. імператарам Атонам I
- Уладанні Візантыі
- Італьянскае каралеўства ў сярэдзіне X ст.

**НАЗВЫ**

| | |
|---|---|
| ХАЗАРСКІ КАГАНАТ | дзяржаў |
| МАКЕДОНІЯ | рэгіёнаў, візантыйскіх фем |
| паляне | племянных саюзаў усходніх славян |

Назвы плямёнаў і этнічных супольнасцяў

| | | | |
|---|---|---|---|
| яцвягі | балцкіх | лівы | фіна-угорскіх |
| хазары | цюркамоўных | касогі | іранамоўных |

964 — Даты вызвалення ўсходнеславянскіх племянных саюзаў ад хазарскай залежнасці

- Напрамкі перасялення венграў

1:13 000 000

# ПАДЗЕЛ РУСІ НА ВОТЧЫНЫ РОЗНЫХ ГАЛІН РУРЫКАВІЧАЎ. XI–XII ст.



# КНЯСТВЫ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ. XI–XII ст.



# ПОЛАЦКАЯ ЗЯМЛЯ Ў ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫХ ПАДЗЕЯХ XI ст.



# ПОЛАЦКАЯ ЗЯМЛЯ Ў ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫХ ПАДЗЕЯХ XII ст.




| | |
|---|---|
| ПОЛАЦК | Цэнтры княстваў-зямель |
| Менск | Цэнтры ўдзельных княстваў |
| *Орша* | Іншыя населеныя пункты |
| Стрэжаў? | Верагоднае месцазнаходжанне населеных пунктаў |

**УМОЎНЫЯ МЕЖЫ**

- дзяржаў і княстваў-зямель у пачатку XII ст.
- далучаных тэрыторый, валасцей, удзельных княстваў
- тэрыторыі, падуладнай менскаму князю Глебу Усяславічу
- Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь

**ТЭРЫТОРЫІ**

- якія папераменна знаходзіліся ў валоданні Полацка і Смаленска
- захопленыя смаленскімі князямі ў 1116 г.
- далучаныя да Смаленска каля 1127 г.
- якія ў сярэдзіне XII ст. перайшлі пад уладу чарнігаўскіх князёў
- якія каля 1180 г. адышлі да Польшчы

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

- Паход князя Барыса Усяславіча на яцвягаў у 1102 г.
- *Барысаў 1102* — Заснаванне г. Барысава і засяленне яго палоннымі яцвягамі
- Безвыніковая аблога Менска паўднёварускімі князямі і полацкім князем Давыдам Усяславічам у 1104 г.
- Няўдалы паход князёў Усяславічаў на земгалаў у 1106 г.
- Паходы менскага князя Глеба Усяславіча на Случаск у 1116 г. і, разам з палачанамі, на Смаленскую і Наўгародскую землі ў 1117 г.
- Паход войскаў Уладзіміра Усевaладавіча Манамаха і іншых князёў на менскага князя Глеба Усяславіча ў 1116 г.
- Паход войскаў князя Мсціслава Уладзіміравіча на Менск у 1117 г.
- Месца палонення менскага князя Глеба Усяславіча ў 1117 г.
- *Жэлань?* — Спецыяльна пабудаваны горад, у які было сагнана насельніцтва абрабаванага ў 1117 г. Друцка
- Паход кааліцыйнага войска на Полацкую зямлю ў 1127 г.
- *Вячаслаў Яраслaвіч* — Подпісы ўдзельнікаў паходу
- (1129–1132) — Час княжання ў Полацку кіеўскіх князёў
- Напрамкі паходаў полацкіх князёў на літву і яцвягаў на працягу XII ст.
- Паходы ў час міжусобнай барацьбы паміж менскім князем Валадарам Глебавічам і полацкімі князямі ў 1157, 1162 і 1167 гг.
- Паход кааліцыі рускіх князёў разам з палачанамі супраць тураўскага князя Юрыя Яраслaвіча ў 1158 г.
- Безвыніковыя аблогі Турава кааліцыйным войскам (кіеўская, смаленская, галіцкая, луцкая раці і палачане) у 1158 г., валынскім войскам у 1160 г.; Пінска берандзеямі ў 1158 г.
- 1160 — Прызнанне Кіевам незалежнасці Тураўскага княства
- Сумесная аблога князямі Мсціславам Полацкім і Расціславам Смаленскім горада Лукі ў 1167 г.
- Паход наўгародцаў і пскавічоў на Полацк у 1169 г.
- Паход на Друцк кааліцыі князёў (Ігар Святаславіч, Яраслаў Усеваладавіч, Усяслаў Полацкі і іншыя полацкія князі) у 1180 г.
- Паход палачан разам з літвой на Лукі ў 1198 г.
- Паход у адказ наўгародцаў. Заключэнне міру на р. Касплям
- ПОЛАЦКАЯ ЗЯМЛЯ — Назвы дзяржаў і княстваў-зямель
- *селы* — Назвы плямён, якія плацілі даніну полацкім князям

1:3 600 000

# БАРАЦЬБА ПОЛАЦКА З ОРДЭНАМ МЕЧАНОСЦАЎ І РЫЖСКІМ АРЦЫБІСКУПСТВАМ ЗА КАНТРОЛЬ НАД ПАДЗВІННЕМ. Канец XII—пачатак XIII ст.




**ПОЛАЦК** Сталіца княства

Раўпа — Цэнтры васальных княстваў, адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў прыбалтыйскіх плямёнаў

Асотэ — Іншыя населеныя пункты

1186 — Цэнтр біскупства і дата яго заснавання або пераноса

Гандлёва-рамесныя міжнародныя цэнтры

Асяродкі супрацьўлення біскупскай і ордэнскай уладзе

**ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ**

1205 — Даты канчатковага далучэння прыбалтыйскіх зямель да біскупскіх і ордэнскіх уладанняў

1209 — Даты пабудовы біскупскіх і ордэнскіх замкаў

1201 — Месца і дата заснавання Брацтва воінства Хрыстова — Ордэна мечаносцаў

Месцы і даты найбольш значных бітваў

1218 — біскупскія і ордэнскія войскі атрымалі перамогу

1217 — біскупскія і ордэнскія войскі пацярпелі паражэнне

Месца перагавораў полацкага князя Уладзіміра і рыжскага біскупа Альберта ў Герцыке. Адмова Полацка ад даніны з ліваў 1212 г.

Паходы полацкіх князёў і васальных да іх кукенойскага і герцыкскага князёў

Паходы войскаў Ордэна мечаносцаў і біскупскіх войскаў з прыцягненнем сіл мясцовых плямёнаў

**УМОЎНЫЯ МЕЖЫ**

княстваў і зямель у канцы XII—пачатку XIII ст.

адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў балцкіх плямёнаў

**МЕЖЫ ТЭРЫТОРЫЙ З УСТОЙЛІВАЙ ДАННІЦКАЙ ЗАЛЕЖНАСЦЮ**

ад Полацка

ад Ноўгарада і Пскова

Межы рассялення летыголаў (латгалаў)

**ТЭРЫТОРЫІ**

васальнага Полацку Кукенойскага княства (князь Вячка)

васальнага Полацку Герцыкскага княства (князь Усевалад). З 1209 г. васальнага біскупу Альберту

**ТЭРЫТОРЫІ РАССЯЛЕННЯ**

эстаў (чудзі)

летыголаў (латгалаў)

ліваў (лібі)

земгалаў (зімігалы)

селонаў (селаў)

літвы і жамойтаў

са змешаным насельніцтвам

ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА — Назвы княстваў і зямель

ТАЛОВА — Назвы адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў прыбалтыйскіх плямёнаў

1:2 000 000

**УЛАДАННІ Ў ЛІВОНІІ Ў 1225 г.**




Зямельныя ўладанні

Ордэн мечаносцаў

Рыжскае арцыбіскупства

Дэрпцкі біскуп

Горад Рыга

1:6 000 000



Пячаткі магістраў Інфлянцкага ордэна

## НАШЭСЦЕ МАНГОЛАЎ НА ЕЎРОПУ. 1236–1242 гг.




ПОЛАЦК IX–XIII стст.
Тэрыторыя ў IX–X стст.
Тэрыторыя ў XI–XIII стст.
Луг
Курганы
Сафійскі сабор
Мураваныя цэрквы
Пн.
Гарадзішча
Вакольны горад
Вялікі пасад
Дзядзінец
Запалоцце
Палата
Дзвіна


МЕНСК XII–XV стст.
Пасадскія паселішчы XII–XIII стст.
Павелічэнне тэрыторыі пасада ў XIV–XV стст.
Свіслач
Няміга
Замак
Ніжні рынак
Верхні рынак


ТУРАЎ XII–XIII стст.
Пасад
Дзядзінец
Дамавуха
Прыпяць
Вакольны горад
Драўляныя абарончыя сцены з вежамі
Масты паміж дзядзінцам, вакольным горадам і пасадам
Муравaная царква
Мураваная вежа на дзядзінцы


ГОМЕЛЬ XII–XIII стст.
Пасад
Кіеўскі спуск
Дзядзінец
Вакольны горад
Сож


ДРУЦК X–XIII стст.
Княжацкі двор
Дамы рамеснікаў
Мяркуемыя цэрквы
Пасад
Вакольны горад
Дзядзінец
Друць


ВІЦЕБСК канца X–XIV стст.
Тэрыторыя, умацаваная ў канцы X ст.
Тэрыторыя, умацаваная ў канцы XII ст.
Тэрыторыя, умацаваная ў сярэдзіне XIV ст.
Мураваныя ўмацаванні, пабудаваныя ў сярэдзіне XIV ст. замест драўляных
Мураваныя ўмацаванні сярэдзіны XIV ст., пабудаваныя нанава
Царква Св. Міхаіла
Царква Дабравешчання
Царква Св. Параскевы Пятніцы
Курганны некропаль
Горны замак
Княжацкі двор
Дольны замак
ДЗВІНА
Віцьба

## ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ

Новы этап у гісторыі Беларусі пачаўся пасля ўключэння яе тэрыторыі ў склад Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ). Адбыўся разрыў з папярэдняй традыцыяй, калі беларускія землі былі часткай старажытнарускай цывілізацыі з гістарычным, духоўным і канфесіянальным цэнтрам у Кіеве. Пасля разбурэння Кіева манголамі ў 1240 г. часткі Русі, якія пазбеглі непасрэднай залежнасці ад Залатой Арды, пачалі шукаць уласныя шляхі далейшага развіцця. Для продкаў сучасных беларусаў такім шляхам стала прыняцце ўлады літоўскіх князёў.

Першыя крокі на гэтым шляху адлюстроўвае карта „Утварэнне Вялікага княства Літоўскага. 1245–1315 гг.“ Яе храналагічныя рамкі ахопліваюць перыяд ад прыблізнай даты ўкняжання ў Навагародку літоўскага князя Міндоўга да пачатку панавання Гедзіміна. Ад гэтых часоў захавалася няшмат крыніц, прыдатных для гісторыка-геаграфічных рэканструкцый. Асноўныя звесткі пра дзейнасць Міндоўга, яго сучаснікаў і бліжэйшых наступцаў змяшчае Галіцка-Валынскі летапіс, які ўваходзіць у склад Іпацьеўскага летапіснага збору. Іх істотна дапаўняюць крыніцы заходнееўрапейскага паходжання: хронікі і актавыя матэрыялы Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў, дакументы рымскай курыі (пядаўна яны былі выдадзены ў беларускім перакладзе ў зборніку „Міндоўг, кароль Літовіі“). Некаторыя дадатковыя звесткі можна знайсці ў наўгародскіх, пскоўскіх, уладзіміра-суздальскіх і польскіх летапісах. Але большасць гэтых звестак - вельмі ўрывачныя і неакрэсленыя. Нельга вызначыць дакладныя межы княстваў на гэты перыяд, таму большасць з іх праведзена ўмоўна, на падставе экстрапаляцыі больш ранніх альбо больш позніх звестак. Зразумела, што і напрамкі ваенных паходаў вельмі прыблізныя. Агульная гістарычная абстаноўка прыводзіцца паводле канцэпцыі, выказанай аўтарам карты ў шэрагу публікацый, апошнія з іх — артыкул „Літва“ для энцыклапедыі „Вялікае княства Літоўскае“ (з адпаведнай картай) і адзін з раздзелаў шасцітомнай „Гісторыі Беларусі“. Карта абапіраецца таксама на карты аналагічнай тэматыкі, змешчаныя ў „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі“ і „Нацыянальным атласе Беларусі“.

Наступны храналагічны перыяд увасоблены ў карце „Тэрытарыяльны рост Вялікага княства Літоўскага пры Гедзіміне і Альгердзе. 1315–1377“. Улада літоўскіх князёў пашырылася на ўсю тэрыторыю сучаснай Беларусі. Адгэтуль да канца XVIII стагоддзя яе гісторыя была часткай гісторыі ВКЛ. Пры Альгердзе пачалося ваенна-палітычнае процістаянне паміж ВКЛ і іншым аб'яднаўчым цэнтрам, які ўзнік у паўночна-ўсходняй частцы старажытнарускай тэрыторыі вакол Масквы. Суіснаванне гэтых цэнтраў прывяло да фарміравання самастойных этнасаў, якія аднолькава карысталіся старой назвай „рускія“: продкі сучасных рускіх, беларусаў і ўкраінцаў. Такім чынам, падзеі гэтага перыяду мелі выключна важнае значэнне для этнагенезу беларусаў. Галоўнымі крыніцамі па-ранейшаму застаюцца летапісы, якія трэба падзяляць на дзве групы. Адну ствараюць наўгародска-пскоўскія, маскоўска-цвярскія летапісныя зборы і некаторыя ордэнскія хронікі (Пятра з Дусбурга, Германа з Вартберга і інш.), што вяліся непасрэдна ў гэты перыяд ці крыху пазней. Іх паведамленні, як правіла, дакладныя, але ўрывачныя. Зрэдку ў іх прыводзяцца важныя дакументы (напрыклад, тэксты міжнародных дагавораў). Другую групу ствараюць хронікі, складзеныя праз адно-два стагоддзі пасля падзей. Да іх адносяцца беларуска-літоўскія летапісы і польская хроніка Яна Длугаша. Аўтары гэтых твораў імкнуліся даць суцэльную карціну падзей, як яе сабе ўяўлялі, але ў ёй рэальныя звесткі перамешаны з міфамі і фальклорнымі сюжэтамі. Таму шэраг пытанняў, у тым ліку даты далучэння да ВКЛ пэўных тэрыторый, застаюцца дыскусійнымі. Напрыклад, гісторыкі разыходзяцца ў тым, ці адбываўся сапраўды паход Гедзіміна на Кіеў, пра які паведамляюць беларуска-літоўскія летапісы. Аўтар карты схіляецца да думкі, што гэтая звестка не адпавядае рэчаіснасці, таму яна і не ўвасоблена на карце.

Трэцяя карта прысвечана перыяду, калі была заключана дынастычная унія паміж ВКЛ і Польскім каралеўствам, а каталіцтва зрабілася афіцыйнай дзяржаўнай рэлігіяй княства. Гэтыя падзеі ўключылі тэрыторыю Беларусі ў сферу ўплыву заходнееўрапейскай цывілізацыі, што было яшчэ адным ключавым момантам у этнагенезе беларусаў. На карце пазначаны шэраг знешніх і ўнутрыпалітычных канфліктаў, якія папярэднічалі заключэнню Крэўскай уніі альбо былі яе наступствамі: дынастычная барацьба пасля смерці Альгерда паміж яго сынам Ягайлам і братам Кейстутам, няўдалая спроба Ягайлы ўмяшацца ў канфлікт паміж Маскоўскім княствам і Ардой на баку апошняй у 1380 г., барацьба Вітаўта Кейстутавіча за велікакняжацкую ўладу, у якой ён абапіраўся на падтрымку Тэўтонскага ордэна. Адзначаны і такі момант, як выданне першых прывілеяў на гарадское самакіраванне паводле нямецкага ўзору (яно традыцыйна называлася магдэбургскім правам). На ўрэзцы пазначаны ўладанні ўдзельных князёў, якія прымалі рашэнне аб уніі альбо выступалі яе асноўнымі праціўнікамі. Асноўнымі крыніцамі застаюцца ордэнскія хронікі, беларуска-літоўскія летапісы і хроніка Яна Длугаша, але гэтым перыядам датуюцца і першыя актавыя дакументы, створаныя непасрэдна ў канцылярыі ВКЛ. Іх яшчэ вельмі няшмат: гэта шэраг прывілеяў Ягайлы і прысяжныя граматы некаторых удзельных князёў, тэксты міжнародных дагавораў.

На карце „Максімальнае пашырэнне ВКЛ у часы Вітаўта. 1392–1430 гг.“ знайшоў адлюстраванне перыяд працяглага панавання гэтага выдатнага палітыка, які шэраг гісторыкаў лічыць „залатым векам“ ВКЛ. На пачатку перыяду былі зроблены істотныя крокі да цэнтралізацыі ўлады ў руках вялікага князя, шэраг удзельных княстваўператвораны ў намесніцтвы. Пазней ствараліся новыя ўдзелы, а шэраг скасаваных (у тым ліку Полацк, Віцебск, Валынь, новадалучаны Смаленск) атрымалі так званыя земскія прывілеі, якія забяспечвалі ім пэўную аўтаномію. Пазней такі ж статус атрымала Жамойць, вернутая ў склад ВКЛ пасля перамогі над Тэўтонскім ордэнам. Такія паўсамастойныя адзінкі традыцыйна называліся землямі ў адрозненне ад астатняй тэрыторыі, у 1413 г. падзеленай на два ваяводствы: Віленскае і Троцкае. Апошнія, у сваю чаргу, складаліся са звычайных намесніцтваў, што не мелі земскіх прывілеяў, і з удзельных княстваў, звязаных з вярхоўнай уладай праз асабістую васальную залежнасць сваіх уладальнікаў. На карце зроблена спроба адлюстраваць гэтую складаную структуру: колерамі паказаны тры асноўныя катэгорыі адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак. Ставілася мэта даць самае агульнае ўяўленне, бо адлюстраванне ўсіх змен у статусе асобных тэрыторый занадта ўскладніла б успрыняцце карты. Характар крыніц і даследаванняў, выкарыстаных пры стварэнні карты, у асноўным такі ж, як і ў папярэдні перыяд. Адзінае, што аўтэнтычных актавых і эпісталярных крыніц стала крыху больш, яны апублікаваны, пераважна польскімі даследчыкамі, у такіх зборніках, як „Кодэкс эпісталярый Вітаўта, вялікага князя літоўскага“ (Codex epistolaris Vitoldi, Magni Ducis Lithuaniae), „Вітальдыяна“ (Vitoldiana), „Акты уніі Польшчы з Літвой“ (Akta unii Polski z Litwa) і інш.

Карта „Вялікая вайна 1409–1411 гг.“ прысвечана аднаму, але яскраваму моманту панавання Вітаўта — удзелу ВКЛ у так званай „Вялікай вайне“ з Тэўтонскім ордэнам, кульмінацыяй якой стала славутая Грунвальдская бітва. На думку многіх гісторыкаў, паражэнне Ордэна ў гэтай вайне азначыла канец яго экспансіяніцкай палітыкі ва Усходняй Еўропе. На карце сумесны паход польскага і літоўска-беларускага войска паказаны ў шырокім кантэксце, уключаючы папярэднюю барацьбу Ордэна і Польшчы. Гістарычны кантэкст гатай падзеі неаднаразова асвятляўся польскімі гісторыкамі, але картаграфічна прадстаўлены ўпершыню.

Падзеі, якія наступілі непасрэдна пасля смерці Вітаўта ў 1430 г., адлюстраваны на карце „Дынастычная барацьба ў ВКЛ. 1430–1440 гг.“. Непасрэдным пераемнікам Вітаўта стаў малодшы брат Ягайлы — Скіргайла. Ён карыстаўся падтрымкай рэгіянальных эліт праваслаўнага, „рускага“ паходжання, што выклікала незадавальненне з боку часткі этнічна літоўскай знаці, пасля Крэўскай уніі ахрышчанай у каталіцтва. У выніку распачаўся працяглы канфлікт паміж Скіргайлам і стаўленікам „літоўскай партыі“ — малодшым братам Вітаўта Жыгімонтам, узведзеным на пасад у 1432 г. Канфлікт выявіў несупадзенне інтарэсаў розных груп насельніцтва ВКЛ не толькі сацыяльных, але і этнічных. Для яго пераадолення спатрэбіліся пэўныя захады да кансалідацыі літоўскай і праваслаўнай рускай знаці, частковае ўраўнаванне апошняй у правах з каталікамі. Усе дэталі процiборства паказаць на карце вельмі складана, але яна дазваляе ўявіць тэрыторыі, якія аказвалі падтрымку кожнаму з бакоў, месцы найбольш значных ваенных дзеянняў і некаторыя іншыя моманты.

На карце „Беларускія землі ў складзе ВКЛ. 1440–1470-я гг.“ упершыню ў айчыннай картаграфіі пазначаны практычна ўсе населеныя пункты на тэрыторыі Беларусі, якія згадваюцца ў крыніцах азначанага часу і паддаюцца лакалізацыі. Храналагічна карта адпавядае першым тром дзесяцігоддзям вельмі працяглага панавання Казіміра Ягелона — малодшага сына Ягайлы, які быў абраны вялікім князем у 1440 г. у 13-гадовым узросце. Адметнасцю гэтага перыяду з'яўляецца тое, што ад яго захаваліся параўнальна масавыя актавыя матэрыялы — так званая „кніга пажалаванняў Казіміра“, якая адкрывае сабой „Метрыку ВКЛ“, і запісы пажалаванняў на карысць каталіцкай царквы з архіва Віленскага біскупства, выдадзеныя ў „Дыпламатычным кодэксе Віленскай катэдры і дыяцэзіі“ (Kodex dyplomatyczny katedry i diacezji Wilenskiej). У гэтых дакументах фіксуецца працэс раздачы вялікіх зямельных абшараў у прыватную ці царкоўную ўласнасць, распачаты яшчэ пры Вітаўце. Маёнткі раздаваліся ў вечнае карыстанне прадстаўнікам палітычнай эліты, якая ў той час выразна падзялялася на некалькі замкнутых груп, што канкурыравалі паміж сабой. Адну з іх стваралі князі літоўскага паходжання, большасць з якіх былі родзічамі вялікага князя, прадстаўнікамі разгалінаванага роду Гедзімінавічаў. З іх нашчадкам Уладзіміра Альгердавіча належалі Слуцкае (з Капылём і Цімкавічамі), Пінскае, Бельскае (у Смаленскай зямлі) княствы, маёнткі Магільная, Гайна і Палонна; нашчадкам Фёдара Альгердавіча — Кобрынскае княства, Уладава, Трасцяніца; нашчадкам Канстанціна Альгердавіча — Чартарыйскае княства, Лагожаск, Рычоў; нашчадкам Лугвеня Альгердавіча — Мсціслаўскае княства і Цяцерын. Апрача іх, у гэтую ж групу ўваходзілі іншыя літоўскія княжацкія роды — Гальшанскія (ім належалі, апрача родавых Гальшан і Трабаў, такія воласці, як Дуброўіца, Глуск, Дунілавічы, Лебедзева, Станькава, Барань, Раманава, а таксама частка спадчыны князёў Друцкіх у Зубрэвічах, Новым Быхаве, Дабасне і Турцы) і Ямантавічы (уладанні апошніх, Бачэйкава і Падбярэззе з шэрагам раскіданых анклаваў, знаходзіліся адпаведна ў Полацкім і Друцкім паветах). Усе яны яшчэ да Крэўскай уніі былі ахрышчаны ў праваслаўе, у сувязі з чым апынуліся па-за межамі прывілеяванай каталіцкай канфесіі, але знатнае паходжанне дазваляла ім захоўваць высокі статус у дзяржаве.

Другую групу ствралі нашчадкі старажытнарускай дынастыі Рурыкавічаў — князі Друцкія, Лукомскія, Астрожскія і інш. Вялікія родавыя вотчыны забяспечвалі ім эканамічную магутнасць, але палітычны статус быў ніжэйшы, чым у першай групы. Іх палітычны ўплыў абмяжоўваўся пераважна тэрыторыямі, на якіх дзейнічалі земскія прывілеі, а да кіруючых пасад у велікакняжацкай радзе яны не дапускаліся. Да гэтай жа групы можна далучыць Рурыкавічаў маскоўскага паходжання, якія эмігрыравалі ў ВКЛ і атрымалі тут буйныя вотчыны: князёў Мажайскіх (Гомейска-Старадубскае княства) і Яраславічаў-Бароўскіх (Клецк, Рагачоў, Гарадок Давыдаў).

У легендзе да карты ўсе яны пазначаны як „князі рускага паходжання“, але варта памятаць пра шматзначнасць тэрміна „рускі“ ў гэты час. Праваслаўнае насельніцтва Беларусі лічыла „рускімі“ менавіта сябе, а выхадцаў з Маскоўскай дзяржавы ўспрымала як „маскоўцаў“. Тыя ж, у сваю чаргу, сябе лічылі „рускімі“, а жыхароў ВКЛ — „літвінамі“. У дадзеным выпадку пад „рускімі“ разумеюцца абедзве групы Рурыкавічаў.

Трэцюю групу ўтваралі нашчадкі літоўскага баярства, ахрышчанага ў каталіцтва. Большасць з іх (апрача князёў-католікаў Свірскіх і Гедройцаў, якіх мы далучаем да гэтай жа групы) не магла пахваліцца княжацкім паходжаннем, затое яны належалі да пануючай канфесіі, утваралі непасрэднае атачэнне вялікага князя, а ў час яго юнацтва фактычна кіравалі дзяржавай ад яго імя. Менавіта каталіцкім

панам прыпадала большасць зямельных пажалаванняў, дзякуючы чаму да канца перыяду некаторыя роды ператварыліся ў найбольш заможную групу арыстакратыі. Найбольш уплывовым з часоў Вітаўта быў род Манівідавічаў з іх адгалінаваннямі Гедыгольдавічамі і Рымавідавічамі, якім у гэты перыяд належалі Геранёны-Суботнікі, Жупраны, Горваль, Брагін, Любеч, Гасцілава, Даўгінава, Докшыцы, Мсціж, Волма, Мір, Камень, Налібакі, Радашковічы, Забярэззе, Жосна, Крывічы. Нямногім саступалі ім паны Няміры (Даляцічы, Агарэвічы, Дабрамысль, Нясвіж, Іскалць, Лунін, Малешава, Уселюб, Жухавічы), Саковічы (Стары Мядзел, Вязынь, Ілья, Насілава, Няменчын, Ула, Боліна, сёлы ў Чачэрскай і Гомейскай валасцях), Даўгірдавічы (Варняны, Каркажышкі, Лынтупы, Струна, Свіраны), Нацы (Зэльва, ваўкавыская Межырэч, Шылавічы, Лыскава, Воінь, Вішнічы, Яблачна), Насуты (Белая і падляшская Межырэч, Вістычы, Шарашоў), Доргевічы (Хажова, Турэйск, Воўпа, Астрожчычы, Смалявічы, Касута, Палачаны), Гойцавічы (Крошын, Рэпухаў, Хоцянічы, Гошчава, Жыровічы), Валімунтавічы-Кезгайлы (Ракаў, Любча, Ельна, Халопенічы) і яшчэ некалькі літоўскіх родаў.

А вось нашчадкі баяр „рускага" паходжання мелі найніжэйшы статус сярод пануючага кола, бо не былі ні католікамі, ні князямі. Тым не менш некаторыя з іх (асабліва полацкі род Корсакаў) карысталіся вялікім уплывам на земскім узроўні, маючы параўнальна вялікія зямельныя ўладанні (Корсакам належалі Галубічы, Бабынічы, Язна і інш. у Полацкай зямлі, а таксама Узда). Нарэшце, з прапанаванай класіфікацыі выпадаюць роды Братошычаў-Зяновічаў і Юр'евічаў-Ходкавічаў, якія былі праваслаўнымі, але паводле статусу і заможнасці (Зяновічам належалі Смаргонь, Паставы, Вішнеў, Глыбокае, Ходкавічам — Бераставіца, Супрасль, Мыш) не адрозніваліся ад літоўскіх паноў, займаючы месцы ў радзе і важныя намесніцкія пасады. Гэта, напэўна, тлумачыцца іх адмысловым паходжаннем. Генеалагічная легенда Зяновічаў сцвярджала, што гэты род быў прышлым з Сербіі, дзе паходзіў ад мясцовай пануючай дынастыі. Хадкевічаў жа генеалагісты ВКЛ XVI стагоддзя лічылі знатным літоўскім родам, які перайшоў у праваслаўе да Крэўскай уніі. Шэраг ускосных меркаванняў сведчыць на карысць гэтай версіі, хоць яна пакуль не даказана.

На карце пазначаны прыблізныя межы тэрыторый, раздадзеных прадстаўнікам пералічаных груп, каталіцкай і праваслаўнай царкве, а таксама тыя, што засталіся ў руках вялікага князя, альбо здаваліся ў часовае трыманне яго дробным васалам. Для вызначэння такіх межаў прамых звестак у тагачасных дакументах няма, яны вызначаны шляхам „адваротнай праекцыі" даных аб пазнейшай тэрыторыі маёнткаў, гісторыя якіх прасочваецца з часоў Вітаўта і Казіміра. У некаторых выпадках вызначыць прыналежнасць той ці іншай тэрыторыі аказалася немагчыма, а часам яна пазначана гіпатэтычна. Гэтак жа гіпатэтычнымі з'яўляюцца межы адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак — ваяводстваў, зямель, намесніцтваў і княстваў. У крыніцах няма выразных сведчанняў, якія тэрыторыі адносіліся да двух асноўных ваяводстваў, утвораных у 1413 г. (Віленскага і Троцкага), а якія заставаліся па-за іх межамі і падпадалі пад дзеянне земскіх прывілеяў. Гісторыкі выказвалі на гэты конт розныя меркаванні, у тым ліку і аўтар гэтай карты ў папярэдніх энцыклапедычных публікацыях прытрымліваўся іншага меркавання аб прыналежнасці, у прыватнасці, Навагародскага павета. Вядома, што некалі ён уваходзіў ва ўдзел Кейстутавічаў з цэнтрам у Троках, а ў звестках попісу войска 1528 г. пералічаны сярод паветаў Віленскага ваяводства. Непасрэдных жа звестак аб ваяводскай прыналежнасці Навагародка ў час, што разглядаецца, аўтару знайсці не ўдалася. Адносна межаў ваяводстваў трэба ўлічваць і той факт, што магнацкія і княжацкія ўладанні фактычна знаходзіліся па-за ваяводскай структурай, бо карысталіся падатковым і юрыдычным імунітэтам: велікакняжацкія намеснікі доступу туды не мелі. Дакладную колькасць намесніцтваў-паветаў вызначыць таксама цяжка, бо адна і тая ж тэрыторыя ў адных крыніцах выступае як самастойная „воласць", а ў другіх — як частка іншай адміністрацыйнай адзінкі. Што тычыцца тэрыторыі, пазначанай на карце як „Рускія воласці", то яе можна было б разглядаць як працяг Віленскага ваяводства, але з пэўнымі агаворкамі. Звестак аб тым, як кіраваліся гэтыя воласці ў азначаны перыяд, практычна няма. У пазнейшы час некаторыя з іх падзяляліся на дзве „палавіцы", падпарадкаваныя віленскаму і троцкаму ваяводам (для Бабруйскай воласці такі падзел прыгадваецца нават у пачатку XVII стагоддзя).

Карта „Цэнтральная і Усходняя Еўропа ў сярэдзіне — 2-й палове XV ст." прысвечана таму ж храналагічнаму перыяду, але паказвае месца ВКЛ у больш шырокім геаграфічным кантэксце. Асноўная мэта карты — паказаць тэрыторыю, на якую распаўсюдзілася ўлада дынастыі Ягелонаў. На той момант ніводны каралеўскі дом Еўропы не меў такіх вялізных уладанняў, як сыны і ўнукі Ягайлы, абраныя каралямі Польшчы, Чэхіі, Венгрыі. Адначасова ім належала і велікакняжацкая карона ВКЛ. Карта дазваляе ўявіць, якую частку займала ў гэтых уладаннях тэрыторыя Беларусі.

Карта „Узаемаадносіны ВКЛ з Вялікім княствам Маскоўскім і Крымскім ханствам. 1487—1537 гг." прысвечана перыяду, калі геапалітычнае становішча ВКЛ істотна пагоршылася. З усходу яно зведала моцны націск з боку новай цэнтралізаванай дзяржавы — Вялікага княства Маскоўскага, якое ў самым канцы перыяду, пасля каранацыі Івана IV, пачало называцца Рускім царствам. Карыстаючыся тым, што ў гэтай дзяржаве дынастыя Рурыкавічаў захавала пануючае становішча, яе ўладары абвясцілі сябе адзінымі паўнапраўнымі пераемнікамі старажытнай Русі і пачалі небеспаспяховую барацьбу за тую частку яе тэрыторыі, што ўжо больш стагоддзя належала ВКЛ. Адначасова на поўдні ўтварылася яшчэ адна моцная і агрэсіўная дзяржава — Крымскае ханства. Яно паўстала на частцы Залатой Арды, што распалася, і прэтэндавала на ролю яе пераемніка. Крымскія татары ажыццяўлялі частыя набегі на ВКЛ, імкнучыся не да тэрытарыяльных захопаў, а да рабунку. Гэты перыяд аказаў моцнае ўздзеянне на калектыўную ідэнтычнасць жыхароў „рускай" часткі ВКЛ. Тое, што этнічна блізкія жыхары Маскоўскай дзяржавы працяглы час выступалі ў якасці асноўных палітычных праціўнікаў, спрыяла асэнсаванню іх як іншага этнасу. Наадварот, сумесныя дзеянні ў барацьбе з вонкавай агрэсіяй, на фоне пэўнай дыскрымінацыі з боку католікаў, кансалідавалі праваслаўнае насельніцтва ВКЛ, надавалі яму агульную самасвядомасць. З другога боку, арыентаванасць на пераважна паўднёвы, антыкрымскі напрамак ваеннай актыўнасці і кантакты з татарамі стварала перадумовы для адасаблення жыхароў Падолля, Валыні і Кіеўшчыны. Пазней, калі на паўднёва-ўсходняй мяжы гэтых зямель пачалося фарміраванне казацтва, гэта прывяло да ўзнікнення „ўкраіннай" (украінскай у сучасным разуменні) свядомасці. Карта адлюстроўвае тэрытарыяльныя змены, што адбыліся ў гэты час, асноўныя напрамкі ваенных дзеянняў і зоны звязаных з гэтым разбурэнняў. Крыніцамі паслужылі ўжо вельмі шматлікія дакументы „Метрыкі ВКЛ" і дыпламатычнага архіва Вялікага княства Маскоўскага, а таксама звесткі беларуска-літоўскіх летапісаў, якія для гэтага часу сучасныя падзеям і таму ўжо не маюць яўна міфічных звестак.

Тэматычным працягам гэтай карты з'яўляюцца схемы трох найбольш значных бітваў таго часу. У адной з іх разгром войска ВКЛ на рацэ Вядрошы прадвызначыў страту вялізных абшараў на ўсходзе дзяржавы, што прыпыніла працэс іх інтэграцыі з іншым рускім насельніцтвам ВКЛ. Бітва пад Клецкам знамянальная бадай што самым значным поспехам у процідзеянні татарскім нападам, а бітва пад Оршай — адзіным па-сапраўднаму буйным поспехам у вайне з Масквой, які прадухіліў далейшыя тэрытарыяльныя страты пасля падзення Смаленска. Рэканструкцыя ходу бітваў зроблена паводле летапісных паведамленняў аб іх.

На карце „Цэнтральная і Усходняя Еўропа ў 2-й чвэрці XVI ст." паказаны агульныя змены тэрыторыі, што кантраляваліся наступнымі пакаленнямі Ягелонаў: сынамі і ўнукамі Казіміра. На канец перыяду дынастыя ўжо згасала — пры ўладзе заставаўся яе апошні мужчынскі прадстаўнік, кароль Польшчы і вялікі князь літоўскі Жыгімонт II Аўгуст, які не меў дзяцей. З яго смерцю ў 1572 г. дынастыя канчаткова знікла, але гэта ўжо выходзіць за храналагічныя рамкі карты.

Наступная карта ахоплівае заключную частку перыяду, якому прысвечаны гэты раздзел атласа. Акцэнт зроблены на ўдзел ВКЛ у барацьбе за Лівонію (Інфлянты, як яе называлі на польскі лад), якая апынулася фактычна падзеленай паміж Расійскім царствам, Швецыяй, Даніяй і ВКЛ. З гэтага часу гісторыя паўднёва-ўсходняй Латвіі надоўга аказалася звязанай з гісторыяй Беларусі, што выяўляецца і сёння ў пэўных рысах насельніцтва па абодва бакі сучаснай дзяржаўнай граніцы. У вайне за Інфлянты ВКЛ сутыкнулася з занадта моцным для сябе праціўнікам — Расійскім царствам, што прывяло да шэрагу паражэнняў і прымусіла палітычную эліту ВКЛ пайсці на не зусім раўнапраўныя ўмовы новай, больш цеснай дзяржаўнай уніі з Польшчай. Утварылася новая федэратыўная дзяржава — Рэч Паспалітая Абодвух Народаў. Гэта не было, аднак, канцом гісторыі ВКЛ, бо Княства захавала пэўныя формы суверэнітэту (уласнае заканадаўства, войска, скарб) амаль да канца існавання Рэчы Паспалітай. Выключныя наступствы для этнічнай свядомасці беларусаў і ўкраінцаў мела тое, што ў працэсе уніі ў складзе ВКЛ засталіся толькі літоўскія і беларускія землі, а ўсе ўкраінскія аб'ядналіся ў складзе Польскага каралеўства. З гэтага часу адасабленне дзвюх частак „рускага" этнасу ВКЛ пайшло імклівымі тэмпамі. Такім чынам, азначаны перыяд стварыў канчатковыя ўмовы для складвання самастойнай беларускай народнасці.

Карта крыху выходзіць за дату Люблінскай уніі і канчаецца мірным пагадненнем паміж Рэччу Паспалітай і Расійскім царствам у 1570 г., якое завяршыла першы этап Інфлянцкай вайны. Але ў прамежак паміж уніяй і заключэннем гэтага перамір'я істотных падзей не адбывалася. На карце пазначаны адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел ВКЛ напярэдадні рэформы 1565—1566 гг. Варта ўлічваць, што гэты падзел у крыніцах выступае не вельмі выразна, а часам супярэчліва. У сувязі з гэтым гісторыкі разыходзяцца ў тым, напрыклад, ці адносіліся Берасцейскі, Камянецкі і Кобрынскі паветы да Падляшскага ці Троцкага ваяводстваў. Межы Навагародскага ваяводства ў гэты час таксама спрэчныя. Невядома, ці ўваходзілі фармальна ў яго склад вотчыны князёў Алелькавічаў-Слуцкіх і Глускае княства, што належала князям Гальшанскім. Ход ваенных дзеянняў на першым этапе Інфлянцкай вайны прыводзіцца паводле разнастайных крыніц і абагульняльных публікацый беларускіх, польскіх і расійскіх гісторыкаў.

Дзве апошнія карты раздзела маюць тэматычны характар. Адна з іх прысвечана важнай падзеі ў гаспадарчым жыцці беларускіх зямель — аграрнай рэформе, якая істотна змяніла характар землекарыстання і падаткаабкладання. Архаічныя формы замяняліся уніфікаванымі, якія без істотных змен захоўваліся затым да канца існавання Рэчы Паспалітай. Карта дазваляе прасачыць, як разгортвалася рэформа ў дзяржаўных і магнацкіх маёнтках на тэрыторыі Беларусі. Яе храналагічныя рамкі таксама выходзяць за момант Люблінскай уніі, ход рэформы даведзены да канца XVI стагоддзя. Карта ўяўляе сабой зводку паведамленняў „Метрыкі ВКЛ", магнацкіх фамільных фондаў і іншых архіўных крыніц аб тым, што ў пэўным маёнтку адбывалася „памера на валокі", альбо валокі прыгадваюцца ўжо як наяўнасць.

Карта „Гандлёвыя сувязі ў Еўропе XVI ст." паказвае, якія патокі тавараў перамяшчаліся па тэрыторыі Беларусі, адкуль яны траплялі сюды і наадварот, якія мясцовыя тавары знаходзілі попыт у іншых краінах. Зразумела, на карце магчыма адлюстраваць толькі спрошчаную карціну, у рэальнасці яна была значна больш складанай. Гэта карта — вынік аналітычнага абагульнення архіўных звестак і даследаванняў па эканамічнай гісторыі Еўропы.

*В. Насевіч*

# УТВАРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА. 1245–1315 гг.




**◉ ПІНСК** — Сталіцы дзяржаў у другой палове XIII—пачатку XIV ст.
**⊙ Лукомль** — Цэнтры зямель і ўдзельных княстваў
**○ Кобрын** — Іншыя населеныя пункты

### МЕЖЫ

- дзяржаў у сярэдзіне XIII ст.
- рускіх удзельных княстваў і зямель, балцкіх племянных княжанняў, далучаных тэрыторый
- ВКЛ пры Міндоўгу каля 1260 г. і пры Віценю каля 1310 г.

### ТЭРЫТОРЫІ

- непасрэдна падуладныя Міндоўгу каля 1250 г.
- балцкіх княстваў, якія каля 1250 г. знаходзіліся пад уплывам Міндоўга
- рускіх княстваў, якія з сярэдзіны XIII ст. знаходзіліся пад уплывам літоўскіх князёў
- Полацкага княства, якое ў другой палове XIII ст. належала папераменна літоўскім і мясцовым князям
- Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў на 1245 г.
- захопленыя Тэўтонскім і Лівонскім ордэнамі паміж 1245 і 1282 гг.
- часова страчаныя ВКЛ на карысць Лівонскага ордэна ў 1250-я гг. і 1280-я гг.
- Лівонскага ордэна, якія часова належалі да ВКЛ у 1281—1313 гг.
- Яцвяжскія, захопленыя Галіцка-Валынскім княствам
- Слонім — ленных уладанняў Рамана Васількавіча ў 1254—1258 гг. пад сюзерэнітэтам літоўскага караля Міндоўга
- часова страчаныя ВКЛ на карысць Галіцка-Валынскага княства ў 1289 г.
- далучаныя да Смаленскага княства (Віцебскае княства ў 1281—1297 гг., Бранскае княства з канца XIII ст.)
- непасрэдна падуладныя (кіраваліся) Залатой Ардзе з 40-х г. XIII ст.

Гады далучэння тэрыторый

- каля 1306 — да ВКЛ
- 1303 — да Маскоўскага княства
- 1254 — да Галіцка-Валынскага княства (часова)
- *1255* — Гады заснавання або першага ўпамінання гарадоў у пісьмовых крыніцах

1:4 500 000

### ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ

- Напрамкі паходаў літоўскіх князёў
- Паход Войшалка ў 1264 г.
- Напрамкі паходаў Галіцка-Валынскага княства супраць Міндоўга і яцвягаў (1248—1255 гг.)
- Асноўныя напрамкі крыжовых паходаў супраць ВКЛ
- Напрамкі сумеснага паходу цемніка Бурундая і князя Васількі Раманавіча на ВКЛ у 1258 г.
- Напрамкі паходу рускіх князёў разам з татарамі на Новагародак у 1274 г.
- Напрамкі паходу татар Нагая і галіцка-валынскіх князёў на Новагародак і Горадна ў 1277—1278 гг.
- ✕ 1260 — Месцы і даты найбольш значных бітваў

### НАЗВЫ

- ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА — дзяржаў
- ПАЛЕССЕ — зямель і гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў
- НАЛЬШЧАНЫ — балцкіх племянных княстваў

Назвы этнічных супольнасцяў

- ***яцвягі*** — балцкіх
- ***ліВы*** — фіна-угорскіх

Лічбамі на карце пазначаны:

1 Сумесныя ўладанні Вялікага Ноўгарада і Вялікага княства Уладзімірскага, 2 Маскоўскае княства, якое вылучылася ў пачатку 70-х гадоў XIII ст., 3 Тэрыторыі, далучаныя да Маскоўскага княства ў пачатку XIII ст., 4 Тэрыторыі, далучаныя да Разанскага княства ў другой палове XIII ст., 5 Тэрыторыі, далучаныя да Смаленскага княства ў другой палове XIII ст.

# ТЭРЫТАРЫЯЛЬНЫ РОСТ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА ПРЫ ГЕДЗІМІНЕ І АЛЬГЕРДЗЕ. 1315–1377 гг.




## МЕЖЫ ДЗЯРЖАЎ

- **ПІНСК** — Сталіцы дзяржаў на 1345 г.
- Тураў — Цэнтры зямель і ўдзельных княстваў
- *Брагін* — Іншыя населеныя пункты
- Мураваныя замкі, пабудаваныя пры Гедзіміне і Альгердзе

### МЕЖЫ

- дзяржаў на 1345 г.
- удзельных княстваў, зямель, далучаных тэрыторый
- ВКЛ у 1377 г.
- зямель, якія ўваходзілі ў склад залежнага ад Польшчы „Рускага княства"— уладання Баляслава-Юрыя II Трайдзенавіча (1324–1340)
- уладанняў Галіцка-Валынскага княства, якія былі захоплены Залатой Ардой у сярэдзіне 20-х гадоў XIVст. Прыкладна з сярэдзіны XIVст. уладанні князёў Карыятавічаў
- лінія падзелу ВКЛ на Віленскую і Троцкую паловы на 1345 г.

### ТЭРЫТОРЫІ

- ВКЛ у 1315 г.
- далучаныя да ВКЛ пры Гедзіміне (1316–1341 гг.)
- далучаныя да ВКЛ пры Альгердзе (1345–1377 гг.)
- Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў; уладанняў каталіцкіх біскупаў на іх землях
- Вялікага княства Маскоўскага ў пачатку XIVст.
- далучаныя да маскоўскіх уладанняў да канца XIVст.
- Вялікага княства Смаленскага (у васальнай залежнасці ад ВКЛ у 30-х гадах XIV ст.–1352, 1359–1375; ад Масквы – у 1352–1359, 1375–1386 гг.)
- Каралеўства Польшча ў 1320 г.
- далучаныя да Каралеўства Польшча да 1377 г.
- спрэчныя паміж ВКЛ і суседнімі краінамі, якія належалі
  1. ВКЛ у 1320–1351 гг.
  2. Польшчы ў 1349–1350 гг.
  3. Мазавецкаму княству ў 1351–1366 гг.
  4. ВКЛ ў 1340–1349 , 1350–1366 гг., як лен Польшчы ў 1366–1370 гг.
  5. ВКЛ ў 1340–1349, 1350 г., як лен Польшчы ў 1366–1370 гг.
  6. ВКЛ у 1340–1349гг.
  7. як лен Польшчы ў 1366–1370 гг.
  8. Польшчы ў 1366–1370 гг.
  9. Польшчы ў 1349–1362 гг.
  10. ВКЛ у 1340–1344 гг.
  11. Маскве у 1358–1359, 1368 –1372 гг.
- Шыпінскай зямлі (Букавіны), з канца 50-х гадоў XIVст. залежнай ад малдаўскага ваяводы
- якія кантраляваліся Залатой Ардой да 1395 г.
- якія намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ, фактычна з'яўляліся часткай Поля, якое перыядычна выкарыстоўвалі татары ў якасці качэўяў

Гады далучэння тэрыторый

1362 да ВКЛ   1362 да Каралеўства Польшча

### ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ

- ✕ 1362 — Месцы і даты найбольш значных бітваў
- Напрамкі паходаў (з назначэннем гадоў)
  - літоўскіх князёў
  - Альгерда да ракі Сінія Воды (Сінюха) і на ўзбярэжжа Чорнага мора
  - Альгерда і літоўска-цвярскіх войскаў на Вялікае княства Маскоўскае
  - маскоўскіх князёў
  - рыцараў
  - польскіх і венгерскіх войскаў

### НАЗВЫ

- **КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬШЧА** — дзяржаў
- ПАРОССЕ — зямель і гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

Лічбамі на карценазначаны:
**1** Суздальскае (з 1340—Суздальска-Ніжагародскае Вялікае) княства, **2** Мурамскае княства, **3** Сумесныя ўладанні Вялікага Ноўгарада і Вялікага княства Уладзімірскага, **4** Фамінска-Беразуйскае княства, **5** Яраслаўскае княства, **6** Частка Навасільскага княства (у канцы 40-х гадоў XIVст. далучана да Масквы), **7** Тарускае княства

1:5 300 000

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ І КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬШЧА. 1377–1392 гг. КРЭЎСКАЯ УНІЯ



# МАКСІМАЛЬНАЕ ПАШЫРЭННЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА Ў ЧАСЫ ВІТАЎТА. 1392 –1430 гг.




- **СМАЛЕНСК** Сталіцы дзяржаў
- Слуцк — Цэнтры зямель і ўдзельных княстваў
- *Мглін* — Іншыя населеныя пункты
- Трокі — Цэнтры ваяводстваў ВКЛ з 1413 г.
- Ржэва — Населеныя пункты, дадзеныя Свідрыгайлу пасля яго ўцёкаў з ВКЛ у 1408 г.
- Населеныя пункты, знішчаныя ардынцамі

**МЕЖЫ**

- дзяржаў на 1392 г.
- удзельных княстваў, зямель, далучаных тэрыторый
- ВКЛ, падуладныя Вітаўту ў 1430 г.
- Каралеўства Польшча ў 1392 г.

**ТЭРЫТОРЫІ**

- ВКЛ, падуладныя Вітаўту ў 1392 г.
- удзельных княстваў, скасаваныя Вітаўтам у 1390-я гг.
- вылучаныя на ўдзелы ў канцы XIV — пачатку XV ст.
- іншых княстваў і лепшых уладанняў ВКЛ, лаяльныя да ўлады Вітаўта
- сумесных уладанняў Вялікага Ноўгарада і ВКЛ
- Прычарнаморскага стэпу, намінальна далучаныя да ВКЛ
- якія намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ, фактычна з'яўляліся часткай Поля, якое перыядычна выкарыстоўвалі татары ў якасці качэўяў
- уладанняў Фёдара Карыятавіча (да 1414 г.), дадзеныя венгерскім каралём за права на Падольскую зямлю
- непасрэдна падуладныя Ягайлу ў 1392 г.
- ленных уладанняў Каралеўства Польшча
- спрэчныя паміж ВКЛ і Каралеўствам Польшча
- Вялікага княства Маскоўскага ў 1389 г.
- далучаныя да маскоўскіх уладанняў з канца XIV ст. да 1425 г.
- залежныя ад Вялікага княства Разанскага ў канцы XIV – пачатку XV ст.
- Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў, уладанняў каталіцкіх біскупаў на іх землях
- замацаваныя за Тэўтонскім ордэнам паводле Салінскага дагавора, уключаныя ў склад ВКЛ фактычна ў 1411–1413 гг., канчаткова ў 1422 г.
- Ржэўскай зямлі, часова (1399 г. да 1402 г.) далучанай да Вялікага княства Цвярскога

Гады далучэння тэрыторый

| трывалага | часовага | |
|---|---|---|
| 1404 | 1395–1402 | да ВКЛ |
| 1393 | 1401–1405 | да Вялікага княства Маскоўскага |
| каля 1395 | каля 1395–1411 | да Каралеўства Польшча |

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

- Паходы Вітаўта і яго саюзнікаў
- Паход войскаў ВКЛ на Тэўтонскі ордэн у 1410 г.
- Паходы рыцараў Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў
- Паходы князёў — праціўнікаў Вітаўта
- Паходы маскоўскіх войскаў
- Паход татар

Аблогі населеных пунктаў і іх даты

- 1406 паспяховыя; 1402 безвыніковыя
- Знішчэнне населеных пунктаў
- 1392 Месцы і даты найбольш значных бітваў
- 18.01.1401 Месцы і даты заключэння уній
- 12.10.1398 Месца і дата заключэння Салінскага дагавора аб саюзе ВКЛ і Тэўтонскага ордэна
- Паўстанні ў Жамойці 1401 г. і 1409 г.
- Утварэнне Літоўскай праваслаўнай мітраполіі (існавала ў 1415–1419 гг.)
- Хрышчэнне Жамойці і адкрыццё каталіцкага біскупства ў Медніках (1416 ?)
- Месцы няўдалых каранацыйных з'ездаў Вітаўта

**НАЗВЫ**

- КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬШЧА — дзяржаў на сярэдзіну XIV ст.
- ВІЦЕБСКАЯ ЗЯМЛЯ — зямель і гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

Лічбамі на карце пазначаны:
1 Мазавецкае княства, 2 Плоцкае княства, 3 Яраслаўскае княства, 4 Тарускае княства, 5 Фамінска-Беразуйскае княства, 6 Валахія (Мунцянская зямля)

1:4 600 000



Вялікі князь Вітаўт. Гравюра з „Хронікі Еўрапейскай Сарматыі" 1581 г.



Пячатка Вітаўта



Ліст Вітаўта да магістра Тэўтонскага ордэна, 1404 г.



Мітрапаліт „кіеўскі і ўсея Русі" Кіпрыян мірыць Вітаўта з Ягайлам. Сярэдневяковая мініяцюра



Вітаўт перад бітвай на рацэ Ворскле. Сярэдневяковая мініяцюра



Першыя манеты Вялікага Княства Літоўскага. Канец XIV–XV ст.



Адзін з актаў Гарадзельскай уніі 1413 г. паміж Вялікім княствам Літоўскім і Каралеўствам Польшча

# ВЯЛІКАЯ ВАЙНА 1409–1411 гг. БІТВА ПАД ГРУНВАЛЬДАМ 15 ліпеня 1410 г.













**РАЗМЯШЧЭННЕ І ДЗЕЯННІ ВОЙСКАЎ**

**Саюзнікаў**

- Польскія войскі
- Войскі ВКЛ
- Татары
- Атакі саюзнікаў

**Тэўтонскага ордэна**

- Конніца і пяхота
- Гарматы
- Атакі крыжакоў

**Першы этап бітвы**

- Адступленне лініі крыла Вітаўта

**Другі этап бітвы**

- Уступленне ў бой другой лініі польскіх войскаў
- Адступленне крыжацкіх войскаў
- Увядзенне ў бой рэзерву крыжакоў, прарыў імі фронту і выхад у тыл польскім войскам

**Трэці этап бітвы**

- Акружэнне і разгром крыжацкіх войскаў



Бітва пад Грунвальдам. Гравюра XVI ст. з „Хронікі ўсяго свету" М. Бельскага

- ВІЛЬНЯ — Сталіцы дзяржаў
- Горадня — Цэнтры ўдзельных княстваў, зямель, ваяводстваў, правінцый
- Пултуск — Іншыя населеныя пункты
- Эльбінг — Цэнтры найбольш значных комтурстваў Тэўтонскага ордэна
- Замкі ў населеных пунктах

**МЕЖЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне 1409 г.
- удзельных княстваў, зямель, ваяводстваў, правінцый, залежных і далучаных тэрыторый
- царкоўных уладанняў
- Каралеўства Польшча
- Усходняя мяжа Свяшчэннай Рымскай імперыі

**ТЭРЫТОРЫІ**

- 1409 — захопленыя Тэўтонскім ордэнам (з назначэннем часу)
- ленных уладанняў сілезскага князя Уладзіслава Апольскага, у 1396 г. захопленыя Уладзіславам Ягайлам
- Слупскага і Штэцінскага паморскіх княстваў, якія заключылі ў 1409 г. саюз з Тэўтонскім ордэнам супраць Каралеўства Польшча
- уладанняў Тэўтонскага ордэна, на якія прэтэндавала Каралеўства Польшча
- закладзеныя Тэўтонскаму ордэну мазавецкімі князямі
- біскупскіх уладанняў
- Жамойцкай зямлі, якая па ўмовах Тарунскага міру 1411 г. заставалася ў пажыццёвым валоданні Вітаўта і Ягайлы
- ленных уладанняў імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі

**ВЯЛІКАЯ ВАЙНА 1409–1411 гг.**

Падзеі 1409 г.

- Лініі разгортвання ордэнскіх войскаў
- Паход Ульрыха фон Юнгінгена ў Дабжынскую зямлю
- Дзеянні асобных ордэнскіх атрадаў
- Сакрэтная нарада ў Берасці паміж Ягайлам і Вітаўтам 30.11. Вызначэнне ходу вайны з Тэўтонскім ордэнам
- Стан польскіх войскаў
- Рух войскаў Каралеўства Польшча да месцаў збораў
- Паход Ягайлы па захоплены крыжакамі Быдгашч
- Дзеянні асобных польскіх атрадаў і іх адыход

Падзеі 1410 г.
(пасля перамір'я ў Рацёнжы з 14.12.1410 г. да 11.01.1411 г.)

- Напрамкі падыходу польскіх і літоўскіх войскаў да месцаў збораў
- Шлях польскага і літоўскага войскаў да месца аб'яднання пад Чэрвіньскам
- Станы польска-літоўскіх войскаў
- Станы крыжацкіх войскаў
- Ордэнскія абарончыя збудаванні (частаколы) уздоўж абодвух берагоў р. Дрвенцы
- Дзеянні аб'яднаных польска-літоўскіх войскаў
- Дзеянні асобных польска-літоўскіх атрадаў
- Ордэнскія замкі і населеныя пункты, якія здаліся польскаму каралю пасля перамогі пад Грунвальдам
- Адыход войскаў Вітаўта з-пад Марыенбурга 11.09
- Адыход польскіх войскаў ад Марыенбурга
- Рух войскаў Ульрыха фон Юнгінгена да Грунвальда
- Дзеянні ордэнскіх атрадаў
- Дзеянні Генрыха фон Плаўэна
- Выправа войскаў лівонскага магістра Германа фон Віткіншэнка да замка Голуба 10.12

Падзеі 1411 г.
(пасля перамір'я ў Рацёнжы з 14.12.1410 г. да 11.01.1411 г.)

- Перамяшчэнні польскіх і літоўскіх войскаў
- Стан польска-літоўскіх войскаў да заключэння мірнага пагаднення
- 1411 — Месца заключэння Тарунскага міру 1.12.1411 г.
- Сантак — Спрэчныя памежныя замкі
- Месцы канцэнтрацыі ордэнскіх войскаў
- Месцы канцэнтрацыі польскіх і літоўскіх войскаў
- Аблогі населеных пунктаў і іх даты: 25.VII–19.IX безвыніковыя; канец IX–11.X паспяховыя
- 10.X 1410 — Месцы і даты бітваў
- Населеныя пункты, захопленыя прыступам
- Пантонны мост

**НАЗВЫ**

- КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬШЧА — дзяржаў
- БРАНДЭНБУРГ, МАЗОВІЯ — удзельных княстваў, зямель

Лічбамі на карце пазначаны:
1 Слупскае княства, 2 Самбійскае біскупства (Замланд), 3 Каменскае біскупства, 4 Памезанскае біскупства, 5 Вармінскае біскупства (Эрмланд), 6 Хэлмінскае біскупства (Кульм)

1:2 000 000

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ў 1430–1440 гг. МІЖУСОБНАЯ ВАЙНА




◉ ВІЛЬНЯ — Сталіцы дзяржаў
⊙ Слуцк — Цэнтры ваяводстваў, зямель, рэзідэнцыі удзельных князёў, намесніцтваў, старостваў
○ Клецк — Іншыя населеныя пункты
Друцк — Уладанні Свідрыгайлы Альгердавіча
● Камянец — Населеныя пункты, у якіх адбыліся паўстанні супраць улады ВКЛ
✧ — Запусцелыя населеныя пункты

**МЕЖЫ**

дзяржаў на 1430 г.
ваяводстваў, зямель, удзельных княстваў, намесніцтваў, старостваў
ВКЛ у 1440 г.

**ТЭРЫТОРЫІ**

удзелаў Свідрыгайлы Альгердавіча ў 1430 г.
удзела Жыгімонта Кейстутавіча ў 1430 г.
Вялікага княства Рускага, якое ўзначальваў Свідрыгайла ў 1432–1435 гг.
уладанняў Свідрыгайлы Альгердавіча паміж 1436–1439 гг.
сумесных уладанняў Ноўгарада і ВКЛ
лснных уладанняў Каралеўства Польшча
спрэчныя паміж ВКЛ і Каралеўствам Польшча
удзелаў Вялікага княства Маскоўскага
удзелаў маскоўскіх звянігарадска-галіцкіх князёў— прыхільнікаў Свідрыгайлы Альгердавіча
Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў і ўладанняў каталіцкіх біскупаў на іх землях
якія намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ, фактычна з'яўляліся часткай Поля, якое перыядычна выкарыстоўвалі татары ў якасці качэўяў

Гады далучэння тэрыторый
1434 — да Каралеўства Польшча
пасля 1430 — да Вялікага княства Маскоўскага

1431-1435 — Гады падтрымкі Свідрыгайлы Альгердавіча суседнімі дзяржавамі
1435 — Гады страты Свідрыгайлам Альгердавічам галоўных уладанняў
1433 — Год усталявання васальных адносін Княства Малдова ад Каралеўства Польшча

**ВАЕННА-ПАЛІТЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ**

1431 — Месца і дата з'езда, на якім было вырашана пачаць вайну з ВКЛ
Паход Уладзіслава Ягайлы на Валынь
Напрамкі паходаў войскаў Свідрыгайлы Альгердавіча і яго прыхільнікаў
Напрамкі паходаў войскаў Жыгімонта Кейстутавіча
Паход польскіх войскаў на Валынь і Падолле
Паходы татарскіх атрадаў

Падзел Заходняга Падолля паводле перамір'я ў Чартарыйску (2.09.1431 г.)
Польскія ўладанні
Літоўскія ўладанні
Нейтральная зона

Няўдалыя аблогі населеных пунктаў
Знішчэнне населеных пунктаў
1433 — Месцы і даты найбольш значных бітваў (колер знака адпавядае колеру войска, якое перамагло)
31.08.1432 — Месца і дата ажыццяўлення змовы супраць Свідрыгайлы Альгердавіча
Выданне прывілея аб роўных правах каталікаў і праваслаўных у ВКЛ (15.11.1432 г.)
Прывілей Жыгімонта Кейстутавіча шляхце ВКЛ (5.05.1434 г.)
Абвяшчэнне каралём Уладзіславам раўнапраўя шляхты польскіх і рускіх зямель у Каралеўстве Польшча (6.05.1434 г.)
Забойства ў Троках вялікага князя Жыгімонта (20.03.1440 г.)

**НАЗВЫ**

ПСКОЎСКАЯ ЗЯМЛЯ — дзяржаў, удзельных княстваў
*РУСКАЕ ВАЯВОДСТВА* — ваяводстваў
ПАЛЕССЕ — зямель, гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

Лічбамі на карце пазначаны:
1 Валашская зямля, 2 Суздальскае княства, 3 Растоўскае княства

1:4 250 000



Вялікі князь Свідрыгайла. Гравюра з „Хронікі Еўрапейскай Сарматыі" 1581 г.



Грамата Свідрыгайлы. 1422 г.



Пячатка Свідрыгайлы. 1422 г.



Пячатка Жыгімонта Кейстутавіча

# БЕЛАРУСКІЯ ЗЕМЛІ Ў СКЛАДЗЕ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА. 1440–1470 гг.



# ЦЭНТРАЛЬНАЯ І УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА ў сярэдзіне – другой палове XV ст.




● **ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў
◎ ПЛОЦК Цэнтры ваяводстваў і земель
⊙ Слуцк Сталіцы дробных германскіх дзяржаў, цэнтры ўдзельных княстваў
○ *Менск* Іншыя населеныя пункты

**МЕЖЫ**

- дзяржаў у сярэдзіне XV ст.
- ваяводстваў, земель, удзельных княстваў
- далучаных тэрыторый
- Свяшчэннай Рымскай імперыі

**ТЭРЫТОРЫІ на 1444 г.**

- ВКЛ
- Каралеўства Польшча і яго васалаў
- уладанняў чэшскай кароны
- Каралеўства Венгрыя
- Тэўтонскага ордэна
- уладанняў Габсбургаў
- дробных германскіх дзяржаў
- царкоўных уладанняў
- паўднёваславянскіх дзяржаў
- якія намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага, фактычна з'яўляліся часткай Поля (месца татарскіх качэўяў)

**далучаныя ў другой палове XV ст.**

- да Каралеўства Польшча
- да Вялікага княства Маскоўскага
- да Асманскай імперыі
- да Курфюрства Брандэнбург
- да Каралеўства Венгрыя

**Гады далучэння тэрыторый**

- 1462 да Каралеўства Польшча
- 1478 да Вялікага княства Маскоўскага
- 1453 да Асманскай імперыі
- 1455 да Курфюрства Брандэнбург

**Гады ўсталявання васальнай залежнасці**

- 1476 ад турэцкага султана
- 1466 ад польскага караля

**НАЗВЫ**

- ЛІВОНСКІ ОРДЭН — дзяржаў, удзельных княстваў
- ПАЛЕССЕ — гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

**Уладанні прадстаўнікоў дынастыі Ягелонаў і іх васалаў (межы на 1492 г.)**

- ВКЛ (Казіміра Ягайлавіча 1440–1492 гг., яго сына Аляксандра з 1492 г.)
- Каралеўства Польшча (Казіміра Ягайлавіча 1444–1492 гг., яго сына Яна I Ольбрахта з 1492 г.)
- Каралеўства Чэхія (Уладзіслава Казіміравіча з 1471 г.)
- Каралеўства Венгрыя (Уладзіслава Казіміравіча з 1490 г.)
- Глогуўскае княства, вылучанае ва ўдзел Жыгімонта Казіміравіча з 1498 г.

Лічбамі на карце пазначаны:
1 Растоўскае княства, 2 Герцагства Баварыя, 3 Маркграфства Верхняя Лужыца, 4 Маркграфства Ніжняя Лужыца.

1:8 000 000

# ЦЭНТРАЛЬНАЯ І УСХОДНЯЯ ЕЎРОПА ў другой чвэрці XVI ст.




◉ ВІЛЬНЯ Сталіцы дзяржаў
○ Пінск Іншыя населеныя пункты

**МЕЖЫ**

дзяржаў на 1525 г.
далучаных тэрыторый
Свяшчэннай Рымскай імперыі

**ТЭРЫТОРЫІ на 1525 г.**

Каралеўства Польшча, Васалаў Каралеўства Польшча, Вялікага княства Літоўскага — Уладанні Жыгімонта Ягелона

Каралеўства Чэхія, Каралеўства Венгрыя — Уладанні Людовіка II (Лаяш II) Ягелона

Васалаў Асманскай імперыі

Каралеўства Венгрыя, далучаныя да Асманскай імперыі

× Месца бітвы з туркамі пры Мохачы 29 жніўня 1526., у якой загінуў кароль Венгрыі і Чэхіі Людовік II (Лаяш II) Ягелон

Межы непасрэдных уладанняў Жыгімонта Аўгуста з 1549 г.

**Гады далучэння тэрыторый**

1526 да Асманскай імперыі
1526 да Каралеўства Польшча
1526 да ўладанняў Габсбургаў
(1526) намінальна да ўладанняў Габсбургаў
1537 да ВКЛ
1536 да Вялікага княства Маскоўскага

**НАЗВЫ**

ВЕНЕЦЫЯ дзяржаў
ВАЛАХІЯ гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

1:8 400 000

# УЗАЕМААДНОСІНЫ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА З ВЯЛІКІМ КНЯСТВАМ МАСКОЎСКІМ І КРЫМСКІМ ХАНСТВАМ. 1487–1537 гг.




**ВІЛЬНЯ** Сталіцы дзяржаў

ПОЛАЦК Цэнтры ваяводстваў і земель ВКЛ і Каралеўства Польшча

Слуцк Цэнтры княжацкіх уладанняў, намесніцтваў і паветаў ВКЛ

*Менск* Іншыя населеныя пункты

Запусцелыя населеныя пункты

Найбольш значныя крэпасці

**МЕЖЫ**

дзяржаў да 1487 г.

ваяводстваў і земель

княжацкіх уладанняў, залежных і далучаных тэрыторый

Літоўска-маскоўская мяжа паводле „вечнага міру“ 1494 г.

ВКЛ у 1537 г.

**ТЭРЫТОРЫІ**

Вялікага княства Літоўскага ў 1503 г.

Вялікага княства Маскоўскага ў 1487 г.

Каралеўства Польшча

Асманскай імперыі

сумесных уладанняў Ноўгарада, Масквы і Вільні („Чарнакунства“), паводле „вечнага міру“ 1494 г., канчаткова прызнаныя за Масквой

спрэчныя паміж Каралеўствам Польшча і княствам Малдова

якія намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага, фактычна з'яўляліся часткай Поля (месца татарскіх качэўяў)

далучаныя да Вялікага княства Маскоўскага

у 1487–1494 гг. у 1512–1522 гг.

у 1494–1498 гг. у 1534–1536 гг.

у 1500–1503 гг.

сумесных уладанняў ВКЛ і Вялікага княства Маскоўскага (1494–1503 гг.)

гіпатэтычна абмененых спрэчных уладанняў (у выніку вайны 1507–1508 гг.)

занятыя расійскімі войскамі

у ходзе вайны 1500–1503 гг., але вернутыя ВКЛ у выніку перагавораў 1503 г.

у ходзе вайны 1507–1508 гг., але вернутыя ВКЛ у 1508 г. разам з часткай тэрыторыі, прызнанай за Вялікім княствам Маскоўскім у 1503 г.

вернутыя ў склад ВКЛ

паводле дагавора аб „вечным міры“ 1508 г.

паводле перамір'я 1537 г.

1537 Гады далучэння земель да ВКЛ

1503 Гады далучэння земель да Вялікага княства Маскоўскага

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

Асноўныя напрамкі паходаў войскаў ВКЛ

Асноўныя напрамкі паходаў войскаў Вялікага княства Маскоўскага падчас войнаў

1487–1494 гг. 1512–1522 гг.

1500–1503 гг. 1534–1536 гг.

1507–1508 гг.

Раёны, якія падтрымалі выступленне Міхаіла Глінскага, і напрамкі паходаў (1508 г.)

1497 Месцы і даты бітваў (колер знака адпавядае колеру войска, якое перамагло)

Аблогі населеных пунктаў і іх даты

1535 паспяховыя 1500 беспаспяховыя

Знішчэнне населеных пунктаў

Адносіны з татарамі

Татарскія шляхі і сакмы

Напрамкі набегаў

крымскіх татар

татар Вялікай арды

Буйныя нявольніцкія рынкі

**НАЗВЫ**

КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬШЧА дзяржаў

*ТРОЦКАЕ ВАЯВОДСТВА* ваяводстваў

БУКАВІННЕ земель, гісторыка-геаграфічных рэгіёнаў

1:4 600 000

ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НАПЯРЭДАДНІ БІТВЫ НА ВЯДРОШЫ. 1500 г.



БІТВА НА ВЯДРОШЫ. 14 ліпеня 1500 г.



ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ НАПЯРЭДАДНІ БІТВЫ ПАД ОРШАЙ. 1514 г.



АРШАНСКАЯ БІТВА. 8 верасня 1514 г.



# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛІТОЎСКАЕ ў сярэдзіне XVI ст. ПЕРШЫ ЭТАП ІНФЛЯНЦКАЙ ВАЙНЫ




Сталіцы дзяржаў (ВІЛЬНЯ)
Цэнтры ваяводстваў і земляў ВКЛ (Полацк)
Іншыя населеныя пункты (Менск)

**МЕЖЫ**

- дзяржаў на 1558 г.
- ваяводстваў і земляў ВКЛ да 1565 г.
- Рэчы Паспалітай на 1570 г.

**ТЭРЫТОРЫІ**

- уладанняў прынца Магнуса на 1564 г.
- часова захопленыя рускімі войскамі
- замацаваныя за Рускім царствам паводле мірнага пагаднення 22.07.1570 г.
- перададзеныя ВКЛ Каралеўству Польшча паводле ўмоў Люблінскай уніі 1569 г.

**Падзел тэрыторыі Лівонскага (Інфлянцкага ордэна)**

- да Даніі з 1560 г.
- да Швецыі з 1561 г.
- да ВКЛ з 1561 г. (сумеснае ўладанне ВКЛ і Польшчы з 1569 г.)
- Герцагства Курляндскае і Земгальскае — васал ВКЛ з 1561 г., васал Рэчы Паспалітай з 1569 г.
- Незалежная Рыга з 1561 г.

**ВАЕННЫЯ ДЗЕЯННІ**

- Напрамкі паходаў рускіх войскаў на ВКЛ і іншыя дзяржавы
- Напрамкі паходаў войскаў ВКЛ супраць Рускага царства і Швецыі
- Напрамкі паходаў войскаў Лівонскага ордэна
- 1562 — Месцы і даты найбольш значных бітваў
- Аблогі населеных пунктаў
- 28.11.1561 — Месца і дата заключэння Віленскага дагавора, які замацаваў пераход часткі Інфлянтаў да ВКЛ
- 1569 — Месца і дата заключэння Люблінскай уніі паміж Польшчай і ВКЛ

**НАЗВЫ**

- КАР. ДАНІЯ — дзяржаў
- КІЕЎСКАЕ ВАЯВОДСТВА — ваяводстваў і земляў

1:6 100 000

# ВАЛОЧНАЯ ПАМЕРА НА БЕЛАРУСКІХ ЗЕМЛЯХ






Вялікая княгіня літоўская і каралева польская Бона Сфорца



Вялікі князь літоўскі і кароль польскі Жыгімонт ІІ Аўгуст

| | |
|---|---|
| ВІЛЬНЯ | Сталіца Вялікага княства Літоўскага |
| СЛУЦК | Гарады |
| Іўе | Мястэчкі |
| *Гатава* | Сёлы |
| | Межы дзяржаў у сярэдзіне XVI ст. |
| | Сучасная граніца Рэспублікі Беларусь |

Маёнткі (на беларускіх землях), у якіх праводзілася валочная памера

- Дзяржаўныя
- Магнацкія
- Шляхецкія
- Каталіцкай царквы
- Праваслаўнай царквы

1510 — Гады памеры на валокі



Сенакос. Мініяцюра першай паловы XVI ст.



Араты. Мініяцюра першай паловы XVI ст.

1:3 000 000

# ГАНДЛЁВЫЯ СУВЯЗІ Ў ЕЎРОПЕ XVI ст.






## ГОРАДНА ў 1560 г.



Рэканструкцыя планіроўкі на 1560 г. Л. Д. Квітніцкай. 1 — рынак; вуліцы: 2 — Віленская, 3 — Калючынская, 4 — Мірсніцкая, 5 — вуліца, якая ідзе міма дома Хайноўскага да вады, 6 — Аўёрская, 7—Новаіноўская вуліца з вуліцы Азёрскай, 8 — вуліца, якая ідзе з вуліцы Азёрскай, 9 — Дзям'янаўская, 10 — Аліскоўская вуліца з вуліцы Дзям'янаўскай, 11 — з рынку на Падол, 12 — Залатарская, 13 — Яўрэйская вуліца з рынку да замка, 14 — Школьная, 15 — Цесная вуліца з вуліцы Вялікай Замкавай, 16 — над ровам Гарадніцы, 17 — Плябанская, 18 — Нямецкі рынак, 19 — вуліца з Нямецкага рынку да рэчкі Гараднiцы, 20 — вуліца з боку Нямецкага рынку да Віленскай вуліцы, 21 — Вялікая да моста на Падоле, 22 — ад рова да перавозу, 23 — вуліца на беразе Нёмана, 24 — вуліца міма двара пана Халецкага да Нёмана, 25 — ад Нёмана да царквы Праўдзівага Крыжа, 26 — Плутніцкая, 27 — вуліца за Вераб'ём, 28 — вуліца ад Філімона, 29 — Садоўніцкая, 30 — рынак, 31 — Горніцкая, 32 — Навадворская, 33 — Лабенская, 34 — Рабіёўская; А — замак, Б — Каралеўскі дом, В — мост да Каралеўскага дома; цэрквы: Г — саборная Прачысценская (Прасвятой Багародзіцы), Д — Васкрасенская, Е — Малая царква і праваслаўны манастыр, Ж — Праўдзівага Крыжа, З — могілкі і капліца Саборнай царквы, І — Сямёнаўская (?), К — Траецкая, Л — Мікалаеўская, М — Барысаглебская, Н — фарны касцёл і каталіцкія могілкі, О — касцёл Святога Духа; П — сінагога, Р — яўрэйскія могілкі, С — ратуша, Т — крамы, У — карчма, Ф — каралеўскія стайні, Х — мост цераз Нёман, Ц — перавоз, Ч — звярынец, Ш — курган.

Мураваныя будынкі — Драўляныя будынкі

## ГЕРБЫ БЕЛАРУСКІХ ГАРАДОЎ




- ⊙ **ВІЛЬНЯ** — Сталіцы дзяржаў
- ⊙ **Полацк** — Цэнтры ваяводстваў
- ○ Столін — Іншыя населеныя пункты
- Замкі ў населеных пунктах

**МЕЖЫ**

- дзяржаў на 1485 г.
- залежных тэрыторый на 1485 г.
- ВКЛ на сярэдзіну XVI ст.
- ваяводстваў і земель ВКЛ

Гады надання населеным пунктам ВКЛ права на самакіраванне (поўнага магдэбургскага альбо частковага, з наданнем пячаткі і герба)

- 1387.03.22 — у канцы XIV ст.
- 1445.09.16 — у XV ст.
- 1510.06.20 — з пачатку XVI ст. па 1569 г. уключна

1:3 500 000

